# НЕ ЧУЦЬ БЫ БОЛЬШ

Чым падобныя ўсе дамы састарэлых!
Вокны (і светлыя, і цьмяныя) выглядаюць панурымі. Расчыненыя дзверы ўсяляюць безнадзейнасць. Тыя, каго тут адчайна чакаюць,— усё роўна не прыйдуць. Тыя, хто прыходзіць, задаюць недарэчныя пытанні. Быццам не могуць самастойна ўсвядоміць, якой тужлівай і маркотнай выглядае старасць, калі яна бяздомная. Бо дом — гэта не толькі пакой з цьмяна-шэрымі шпалерамі, а частка жыцця сярод родных людзей і дарагіх сэрцу рэчаў. Жыцця, з якога іх паспяшаліся выкрасліць.
Амаль непрыкметныя, маўклівыя бабулькі. Нядзіўна: яны страцілі самы неабходны атрыбут старасці і яе ўцешнае права — ганарыцца сваімі дзецьмі.



Два гады назад расказвала нам сумную аповесць былой настаўніцы Вольгі Уладзіміраўны Сініцынай дырэктар дома-інтэрната Дзіяна Уладзіміраўна Казлякевіч:

— Я сама яе дачцэ ў Кіеў пад дыктоўку не адзін ліст пісала. Толькі адна просьба ў іх: «Прыязджай, дачушка! Убачыць хачу цябе перад смерцю». Але нават на пахаванне дачка не выбралася, адказала лаканічнай тэлеграмай: «Вылецець не магу, няма білетаў». Білет хутка знайшоўся, калі дайшлі да Кіева чуткі пра ашчадную кніжку маці, дзе быў невялікі ўклад.

Год назад паказвалі нам у Маладзечанскім доме-інтэрнаце катэгарычна-жорсткія тэлеграфныя радкі:

«Выехаць не магу. Хавайце. Аляксеева».

«Гурыновіч Аляксандр прыехаць не мае магчымасці, захварэў».

«На пахаванне Сініцынай не прыедзем».

Сёння я слухаю галасы людзей, што зніклі без вестак, заўчасна стаўшы безыменнымі. Вось яны, гэтыя галасы, што захаваў дыктафонны запіс:

«Я, пэўна, была б урачом, калі б не тыя каровы, з-за якіх (мама казала) і відно мяне не было. І ў калгасе працавала, і на прадпрыемстве, і санітаркай у бальніцы. Чаго мае ручанькі толькі не рабілі! Цяпер, як старасць надышла, баляць. Сынок мой даўно не прыязджаў. За тры гады — ні радочка. Мабыць, сур'ёзна захварэў. Тут абвінавачваюць: забыўся. А чаго саромецца? Я ж яму напісала: «Сынок, не хвалюйся, мілы. Тут такія старэнькія ёсць, па трое, чацвёра дзяцей выгадавалі». Я яго не расстройваю. Можа, з Новым годам павіншуе? Толькі б паспеў, смяротны клунак я ўжо звязала, каб людзям лішніх турбот не было...».

«У гэтым годзе не прыязджалі. І хату, і хлеў сыну адпісаў. Усім траім дапамагаў, унукаў у армію выпраўляў. Цяпер спісалі. Ніхто да мяне не едзе».

«З нас смяюцца, што дзеці пакінулі. Таму не плачу, нікому не адкрываю, з чаго прыехала. Не каюся. Укінулі ў гэты пакой, і жыву. Суседка мая зусім змарнела, па начах дамоў просіцца, а мне тут падабаецца...».

«Гавораць, пішаце вы, каб з дзяцей грошы бралі? Хай як сабе хочуць. Хто цябе на руках будзе насіць, калі родныя дзеці адмовіліся?»

Хопіць!!!

Не чуць бы больш гэтых прызнанняў. І слоў пра шаблонны падыход да старых у доме-інтэрнаце. Але як гэта ўявіць сабе фарміраванне нешаблонных адносін, калі чатыры санітаркі павінны запомніць, што Аляксеевай з сорак пятага пакоя нельга спаць на левым баку, а Пракопаў з першага — любіць, каб з ім пагаварылі перад сном?

Пракопавых і Аляксеевых у іх — 241 чалавек.

«Калі б мы змаглі набраць поўны штат»,— марылі ў Слуцку, Лясной, Маладзечне, Лагойску. Не змогуць. Пакуль заробкі ў санітарак па штату (практычна ж — сядзелак, пасудамыек, грузчыкаў) будуць нізкія.

Грамадства заўсёды вызначаецца сваімі адносінамі да старых. Наша — сарамлівa прыкрывае плотам язвы і пролежні тых, хто сваё ўжо адпрацаваў, а цяпер мае патрэбу ў дапамозе. Кіламетры агароджаў чэрствасці, душэўнай глухаты паміж бацькамі і дзецьмі, жывымі і «аджыўшымі»...

Дом заўсёды падобны да свайго гаспадара. Тужлівай і маркотнай становіцца старасць, якая не мае дому. І калі на здымку я ўбачу ўсмешлівую бабулю ў яскрава мазаічным фае дома састарэлых — я не паверу...

**Марына МАРАВА.**
**Фота Віктара ДРАЧОВА.**





# МІЖНАРОДНЫ ПАКТ АБ ГРАМАДЗЯНСКІХ І ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАВАХ

*Працягваем публікацыю асноўных міжнародных дакументаў па правах чалавека, распачатую ў № 1—3 «Беларусі» за гэты год.*

### Артыкул 36

Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый выдзяляе неабходны персанал і матэрыяльныя сродкі для эфектыўнага ажыццяўлення функцый Камітэта ў адпаведнасці з гэтым Пактам.

### Артыкул 37

1. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый склікае першае пасяджэнне Камітэта ў Цэнтральных установах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

2. Пасля свайго першага пасяджэння Камітэт збіраецца ў такі час, які прадугледжаны ў яго правілах працэдуры.

3. Камітэт звычайна збіраецца ў Цэнтральных установах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый або Аддзяленні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Жэневе.

### Артыкул 38

Кожны член Камітэта да пачатку выканання сваіх абавязкаў робіць урачыстую заяву на адкрытым пасяджэнні Камітэта аб тым, што будзе ажыццяўляць свае функцыі непрадузята і добрасумленна.

### Артыкул 39

1. Камітэт выбірае сваіх службовых асоб на двухгадовы тэрмін. Яны могуць быць пераабраны.

2. Камітэт вызначае свае ўласныя правілы працэдуры, але гэтыя правілы павінны, у прыватнасці, прадугледжваць, што

*a*) дванаццаць членаў Камітэта ўтвараюць кворум;

*b*) пастановы Камітэта прымаюцца большасцю галасоў прысутных членаў.

### Артыкул 40

1. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязуюцца падаваць даклады аб прынятых імі мерах па ажыццяўленню праваў, што прызнаюцца ў гэтым Пакце, і аб прагрэсе, дасягнутым у выкарыстанні гэтых праваў:

*a*) на працягу аднаго года пасля ўступлення ў сілу гэтага Пакта ў адносінах адпаведных Дзяржаўудзельніц;

*b*) пасля гэтага ва ўсіх выпадках, калі гэтага патрабуе Камітэт.

2. Усе даклады падаюцца Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які накіроўвае іх у Камітэт для разгляду. У дакладах называюцца фактары і пе-

рашкоды, калі такія маюцца, якія ўплываюць на правядзенне ў жыццё гэтага Пакта.

3. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пасля кансультацый з Камітэтам можа накіраваць зацікаўленым спецыялізаваным установам экземпляры тых частак дакладаў, якія могуць тычыцца сферы іх кампетэнцыі.

4. Камітэт вывучае даклады, пададзеныя Дзяржавамі, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце. Ён адпраўляе Дзяржавам-удзельніцам свае даклады і такія заўвагі агульнага парадку, якія ён палічыць мэтазгоднымі. Камітэт можа таксама адправіць Эканамічнаму і Сацыяльнаму Савету гэтыя заўвагі разам з экземплярамі дакладаў, атрыманых ім ад Дзяржаў, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце.

5. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, могуць прадстаўляць Камітэту свае меркаванні па любых заўвагах, якія могуць быць зроблены ў адпаведнасці з пунктам 4 гэтага артыкула.

### Артыкул 41

1. У адпаведнасці з гэтым артыкулам Дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, можа ў любы час заявіць, што яна прызнае кампетэнцыю Камітэта атрымліваць і разглядаць паведамленні аб тым, што якая-небудзь Дзяржава-ўдзельніца сцвярджае, што іншая Дзяржава-ўдзельніца не выконвае сваіх абавязацельстваў па гэтаму Пакту. Паведамленні, прадугледжаныя гэтым артыкулам, могуць прымацца і разглядацца толькі ў тым выпадку, калі яны прадстаўлены Дзяржавай-удзельніцай, якая зрабіла заяву аб прызнанні для сябе кампетэнтнасці гэтага Камітэта. Камітэт не прымае ніякіх паведамленняў, калі яны тычацца Дзяржавы-ўдзельніцы, якая не зрабіла такой заявы. Паведамленні, атрыманыя згодна з гэтым артыкулам, разглядаюцца ў адпаведнасці з наступнай працэдурай:

*a*) Калі якая-небудзь Дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, лічыць, што другая Дзяржава-ўдзельніца не праводзіць у жыццё пастаноў гэтага Пакта, то яна можа пісьмовым паведамленнем давесці гэтае пытанне да ведама зазначанай Дзяржавы-ўдзельніцы. На працягу трох месяцаў пасля атрымання гэтага паведамлення Дзяржава, якая яго атрымала, падае ў пісьмовай форме Дзяржаве, якая паслала такое паведамленне, тлумачэнне або любую другую заяву з растлумачэннем па гэтаму пытанню, дзе павінна ўтрымлівацца, наколькі гэта магчыма і мэтазгодна, указанне на ўнутраныя працэдуры і меры, якія былі прыняты, будуць прыняты ці могуць быць прыняты па дадзеным пытанні.

*b*) Калі пытанне не вырашана да задавальнення абедзвюх зацікаўленых Дзяржаў-удзельніц на працягу шасці месяцаў пасля атрымання Дзяржавай-атрымальніцай першапачатковага паведамлення, любая з гэтых Дзяржаў мае права перадаць гэтае пытанне ў Камітэт, паведаміўшы пра гэта Камітэту і другой Дзяржаве.

*c*) Камітэт разглядае перададзенае яму пытанне толькі пасля таго, як ён пераканаецца, што ў адпаведнасці з агульнапрынятымі прынцыпамі міжнароднага права ўсе даступныя ўнутраныя сродкі былі апрабаваны і вычарпаны ў дадзеным выпадку. Гэта правіла не дзейнічае ў тых выпадках, калі прымяненне гэтых сродкаў неапраўдана зацягваецца.

*d*) Пры разглядзе паведамленняў, прадугледжаных гэтым артыкулам, Камітэт праводзіць закрытыя пасяджэнні.

*e*) З захаваннем пастаноў падпункта *c* Камітэт аказвае свае добрыя паслугі зацікаўленым Дзяржавам-удзельніцам у мэтах дружалюбнага вырашэння пытання на аснове павагі правоў чалавека і асноўных свабод, прызнаных у гэтым Пакце.

*f*) Па любым перададзеным на яго разгляд пытанні Камітэт можа звярнуцца да зацікаўленых Дзяржаў-удзельніц, упамянутых у падпункце *b*, з просьбай падаць любую інфармацыю, якая тычыцца справы.

*g*) Зацікаўленыя Дзяржавы-ўдзельніцы, упамянутыя ў падпункце *b*, маюць права быць прадстаўленымі пры разглядзе ў Камітэце пытання і рабіць прадстаўленні вусна і/або пісьмова.

*h*) Камітэт прадстаўляе на працягу дванаццаці месяцаў з дня атрымання паведамлення ў адпаведнасці з падпунктам *b* даклад:

i) калі дасягаецца рашэнне ў рамках пастаноў падпункта *e*, то Камітэт абмяжоўваецца ў сваім дакладзе сціслым пераказам фактаў і прынятага рашэння;

ii) калі рашэнне ў рамках пастаноў падпункта *e* не дасягнута, то Камітэт абмяжоўваецца ў сваім дакладзе сціслым пераказам фактаў; пісьмовыя прадстаўленні і запіс вусных прадстаўленняў, дадзеных зацікаўленымі Дзяржавамі-ўдзельніцамі, дадаюцца да даклада.

Па кожным пытанні даклад пасылаецца зацікаўленым Дзяржавам-удзельніцам.

2. Пастановы гэтага артыкула ўступаюць у сілу, калі дзесяць Дзяржаў, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, зробяць заяву ў адпаведнасці з пунктам 1 гэтага артыкула. Такія заявы дэпаніруюцца Дзяржавамі-ўдзельніцамі ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які пасылае іх копіі астатнім Дзяржавам-удзельніцам. Заява можа быць у любы час забрана назад паведамленнем Генеральнага сакратара. Такое дзеянне не пярэчыць разгляду любога пытання, якое з'яўляецца прадметам паведамлення, ужо перададзенага ў адпаведнасці з гэтым артыкулам; ніякія наступныя паведамленні любой Дзяржавы-ўдзельніцы не прымаюцца пасля атрымання Генеральным сакратаром паведамлення аб прыняцці заявы назад, калі зацікаўленая Дзяржава-ўдзельніца не зробіць новай заявы.

### Артыкул 42

1. *a*) Калі якое-небудзь пытанне, перададзенае Камітэту ў адпаведнасці з артыкулам 41, не вырашана да задавальнення зацікаўленых Дзяржаў-удзельніц, Камітэт можа з папярэдняй згоды зацікаўленых Дзяржаў-удзельніц прызначыць спецыяльную Пагаджальную камісію (якая ў далейшым будзе называцца «Камісія»). Добрыя паслугі Камісіі робяцца зацікаўленым Дзяржавам-удзельніцам у мэтах палюбоўнага вырашэння дадзенага пытання на аснове захавання палажэнняў гэтага Пакта;

*b*) Камісія складаецца з пяці асоб, прымальных для зацікаўленых Дзяржаў-удзельніц. Калі зацікаўленыя Дзяржавы-ўдзельніцы не дасягнуць на працягу трох месяцаў згоды адносна ўсяго саставу або часткі саставу Камісіі, то тыя члены Камісіі, аб прызначэнні якіх не было дасягнута згоды, выбіраюцца шляхам тайнага галасавання большасцю ў дзве трэці галасоў Камітэта з саставу яго членаў.

2. Члены Камісіі выконваюць абавязкі ў сваёй асабістай якасці. Яны не павінны быць грамадзянамі зацікаўленых Дзяржаў-удзельніц або Дзяржавы, якая не ўдзельнічае ў гэтым Пакце, або Дзяржавы-ўдзельніцы, якая не зрабіла заявы ў адпаведнасці з артыкулам 41.

3. Камісія выбірае свайго Старшыню і вызначае свае ўласныя правілы працэдуры.

4. Пасяджэнні Камісіі звычайна праводзяцца ў Цэнтральных установах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый альбо ў Аддзяленні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Жэневе. Аднак яны могуць праводзіцца ў такіх іншых зручных месцах, якія могуць быць вызначаны Камісіяй у кансультацыі з Генеральным сакратаром Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і адпаведнымі Дзяржавамі-ўдзельніцамі.

5. Сакратарыят, які прызначаецца ў адпаведнасці з артыкулам 36, таксама абслугоўвае камісіі, што прызначаюцца на падставе гэтага артыкула.

6. Атрыманая і вывучаная Камітэтам інфармацыя аддаецца ў распараджэнне Камісіі, і Камісія можа звярнуцца да зацікаўленых Дзяржаў-удзельніц з просьбай прадставіць любую інфармацыю, якая тычыцца справы.

7. Калі Камісія цалкам разгледзіць пытанне, але ва ўсялякім выпадку не пазней, чым праз 12 месяцаў пасля таго, як ёй было перададзена гэтае пытанне, яна прадстаўляе Старшыні Камітэта даклад для накіравання яго зацікаўленым Дзяржавам-удзельніцам:

*a*) Калі Камісія не можа завяршыць разгляд гэтага пытання ў межах дванаццаці месяцаў, яна абмяжоўвае свой даклад сціслым выкладаннем стану разгляду ёю дадзенага пытання.

*b*) Калі дасягаецца палюбоўнае вырашэнне гэтага пытання на аснове захавання правоў чалавека, якія прызнаюцца ў гэтым Пакце, Камісія абмяжоўвае свой даклад сціслым выкладаннем фактаў і дасягнутага рашэння.

*c*) Калі рашэнне, указанае ў падпункце *b*, не дасягаецца, даклад Камісіі ўтрымлівае яе заключэнні па ўсіх пытаннях фактычнага характару, якія тычацца спрэчак паміж зацікаўленымі Дзяржавамі-ўдзельніцамі, і яе меркаванні аб магчымасцях палюбоўнага ўрэгулявання гэтага пытання. Гэты даклад таксама ўтрымлівае пісьмовыя паведамленні і запіс вусных паведамленняў, зробленых зацікаўленымі Дзяржавамі-ўдзельніцамі.

*d*) Калі даклад Камісіі падаецца адпаведна пункту *c*, зацікаўленыя Дзяржавы-ўдзельніцы на працягу трох месяцаў пасля атрымання гэтага даклада паведамляюць Старшыні Камітэта аб тым, ці згодны яны са зместам даклада Камісіі.

8. Пастановы гэтага артыкула не прымяншаюць абавязкаў Камітэта, прадугледжаных у артыкуле 41.

9. Зацікаўленыя Дзяржавы-ўдзельніцы ў роўнай меры нясуць усе расходы членаў Камісіі ў адпаведнасці з каштарысам, прадстаўленым Генеральным сакратаром Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

10. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый мае права аплачваць расходы членаў Камісіі, калі неабходна, да іх пакрыцця зацікаўленымі Дзяржавамі-ўдзельніцамі ў адпаведнасці з пунктам 9 гэтага артыкула.

### Артыкул 43

Члены Камітэта і спецыяльных пагаджальных камісій, якія могуць быць прызначаны згодна з артыкулам 42, маюць права на льготы, прывілеі і імунітэты экспертаў, якія накіроўваюцца Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый у камандзіроўкі, як гэта прадугледжана ў адпаведных раздзелах Канвенцыі аб прывілеях і імунітэтах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

### Артыкул 44

Палажэнні аб ажыццяўленні гэтага Пакта прымяняюцца без шкоды для працэдур у галіне правоў чалавека, якія прадпісваюцца ўстаноўчымі актамі і канвенцыямі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і спецыялізаваных устаноў альбо ў адпаведнасці з імі, і не пярэчаць Дзяржавам, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, скарыстоўваць іншыя працэдуры вырашэння спрэчкі на падставе агульных і спецыяльных міжнародных пагадненняў, якія дзейнічаюць між імі.

### Артыкул 45

Камітэт прадстаўляе Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый праз Эканамічны і Сацыяльны Савет штогадовы даклад аб сваёй рабоце.

## ЧАСТКА V

### Артыкул 46

Нішто ў гэтым Пакце не павінна тлумачыцца як прымяншэнне значэння пастаноў Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і статутаў спецыялізаваных устаноў, якія вызначаюць адпаведныя абавязкі розных органаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і спецыялізаваных устаноў па тых прадметах, якіх тычыцца гэты Пакт.

### Артыкул 47

Нішто ў гэтым Пакце не павінна тлумачыцца як ушчамленне неад'емнага права ўсіх народаў валодаць і карыстацца ў поўнай меры і свабодна сваімі натуральнымі багаццямі і рэсурсамі.

## ЧАСТКА VI

### Артыкул 48

1. Гэты Пакт адкрыты для падпісання любой дзяржавай — членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый або членам любой з яе спецыялізаваных устаноў, любой дзяржавай — удзельніцай Статута Міжнароднага Суда і любой іншай дзяржавай,

запрошанай Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый да ўдзелу ў гэтым Пакце.

2. Гэты Пакт падлягае ратыфікацыі. Ратыфікацыйныя граматы дэпаніруюцца ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

3. Гэты Пакт адкрыты для далучэння любой дзяржавы, названай у пункце 1 гэтага артыкула.

4. Далучэнне робіцца дэпаніраваннем дакумента аб далучэнні ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

5. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый паведамляе ўсім дзяржавам, якія падпісалі гэты Пакт ці далучыліся да яго, аб дэпаніраванні кожнай ратыфікацыйнай граматы або дакумента аб далучэнні.

### Артыкул 49

1. Гэты Пакт уступае ў сілу праз тры месяцы з дня дэпаніравання ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый трыццаць пятай ратыфікацыйнай граматы або дакумента аб далучэнні.

2. Для кожнай дзяржавы, якая ратыфікуе гэты Пакт ці далучаецца да яго пасля дэпаніравання трыццаць пятай ратыфікацыйнай граматы ці дакумента аб далучэнні, гэты Пакт уступае ў сілу праз тры месяцы з дня дэпаніравання яго ўласнай ратыфікацыйнай граматы альбо дакумента аб далучэнні.

### Артыкул 50

Пастановы гэтага Пакта распаўсюджваюцца на ўсе часткі федэратыўных дзяржаў без якіх бы там ні было абмежаванняў або выключэнняў.

### Артыкул 51

1. Любая дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, можа прапанойваць папраўкі і падаваць іх Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адпраўляе затым любыя прапанаваныя папраўкі дзяржавам, што ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, з просьбай паведаміць яму, ці выказваюцца яны за скліканне канферэнцыі дзяржаў-удзельніц з мэтай разгляду гэтых прапаноў і правядзення па іх галасавання. Калі па крайняй меры адна трэць дзяржаў-удзельніц выкажацца за такую канферэнцыю, Генеральны сакратар склікае гэтую канферэнцыю пад эгідай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Любая папраўка, прынятая большасцю дзяржаў-удзельніц, якія прысутнічаюць і ўдзельнічаюць у галасаванні на гэтай канферэнцыі, падаецца Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый на зацвярджэнне.

2. Папраўкі ўступаюць у сілу пасля зацвярджэння іх Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і прыняцця іх большасцю ў дзве трэці дзяржаў, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, у адпаведнасці з іх канстытуцыйнымі працэдурамі.

3. Калі папраўкі ўступаюць у сілу, яны робяцца абавязковымі для тых дзяржаў-удзельніц, якія іх прынялі, а для іншых дзяржаў-удзельніц застаюцца абавязковымі пастановы гэтага Пакта і любыя папярэднія папраўкі, якія імі прыняты.

### Артыкул 52

Незалежна ад паведамленняў, якія робяцца адпаведна пункта 5 артыкула 48, Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый паведамляе ўсім дзяржавам, пра якія ідзе гаворка ў пункце 1 гэтага ж артыкула, аб наступным:

*a*) падпісаннях, ратыфікацыях і далучэннях адпаведна артыкулу 48;

*b*) даце ўступлення ў сілу гэтага Пакта адпаведна артыкулу 49 і даце ўступлення ў сілу любых паправак адпаведна артыкулу 51.

### Артыкул 53

1. Гэты Пакт, англійскі, іспанскі, кітайскі, рускі і французскі тэксты якога роўна аўтэнтычныя, падлягае здачы на захаванне ў архіў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

2. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адпраўляе завераныя копіі гэтага Пакта ўсім дзяржавам, названым у артыкуле 48.

---

# ФАКУЛЬТАТЫЎНЫ ПРАТАКОЛ ДА МІЖНАРОДНАГА ПАКТА АБ ГРАМАДЗЯНСКІХ І ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАВАХ

ПРЫНЯТЫ І АДКРЫТЫ ДЛЯ ПАДПІСАННЯ, РАТЫФІКАЦЫІ І ДАЛУЧЭННЯ РЭЗАЛЮЦЫЯЙ 2200 А (XXI) ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ АД 16 СНЕЖНЯ 1966 ГОДА

УСТУПЛЕННЕ Ў СІЛУ: 23 сакавіка 1976 года ў адпаведнасці з артыкулам 9.

**Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пратаколе,**

**беручы пад увагу,** што для далейшага дасягнення мэт Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (у далейшым называнаму Пакт) і ажыццяўлення яго пастаноў было б мэтазгодна даць Камітэту па правах чалавека, заснаваным на падставе часткі IV Пакта (у далейшым называнаму Камітэт), магчымасць прымаць і разглядаць, як прадугледжана ў гэтым Пратаколе, паведамленні ад асобных людзей, якія сцвярджаюць, што яны з'яўляюцца ахвярамі парушэнняў якога-небудзь з правоў, выкладзеных у Пакце,

**пагадзіліся** аб наступным:

### Артыкул 1

Дзяржава — удзельніца Пакта, якая робіцца ўдзельніцай гэтага Пратакола, прызнае кампетэнцыю Камітэта прымаць і разглядаць паведамленні ад асоб, якія падлягаюць яе юрысдыкцыі і якія сцвярджаюць, што яны з'яўляюцца ахвярамі парушэння гэтай дзяржавай-удзельніцай якога-небудзь з правоў, выкладзеных у Пакце. Ніводнае паведамленне не прымаецца Камітэтам, калі яно тычыцца дзяржавы — удзельніцы Пакта, якая не з'яўляецца ўдзельніцай гэтага Пратакола.

### Артыкул 2

Пры ўмове захавання палажэнняў артыкула і асобы, якія сцвярджаюць, што якое-небудзь з іх правоў, пералічаных у Пакце, было парушана, і якія вычарпалі ўсе наяўныя ўнутраныя сродкі прававой абароны, могуць падаць на разгляд Камітэта пісьмовае паведамленне.

### Артыкул 3

Камітэт можа прызнаць непрымальным любое пададзенае ў адпаведнасці з гэтым Пратаколам паведамленне, якое з'яўляецца ананімным ці якое, на яго думку, уяўляе сабой злоўжыванне правам на паданне такіх паведамленняў альбо несумяшчальнае з палажэннямі Пакта.

### Артыкул 4

1. Пры ўмове захавання палажэнняў артыкула 3 Камітэт давodзіць любое пададзенае яму адпаведна гэтаму Пратаколу паведамленне да ведама дзяржавы, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце і, як сцвярджаецца, парушае якое-небудзь з палажэнняў Пакта.

2. Дзяржава, якая атрымала паведамленне, падае на працягу шасці месяцаў Камітэту пісьмовыя тлумачэнні ці заявы, якія тлумачаць гэтае пытанне і любыя меры, калі такія мелі месца, якія маглі быць прыняты гэтай дзяржавай.

### Артыкул 5

1. Камітэт разглядае атрыманыя ў адпаведнасці з гэтым Пратаколам паведамленні з улікам усіх пісьмовых даных, пададзеных яму асобным чалавекам і зацікаўленай дзяржавай-удзельніцай.

2. Камітэт не разглядае ніякіх паведамленняў ад асоб, пакуль не пераканаецца ў тым, што:

*a*) гэтае ж пытанне не разглядалася ў адпаведнасці з іншай працэдурай міжнароднага разбору ці ўрэгулявання;

*b*) даная асоба вычарпала ўсе магчымыя ўнутраныя сродкі прававой абароны.

Гэтае правіла не дзейнічае ў тых выпадках, калі прымяненне такіх сродкаў неапраўдана зацягваецца.

3. Пры разглядзе паведамленняў, прадугледжаных гэтым Пратаколам, Камітэт праводзіць закрытыя пасяджэнні.

4. Камітэт паведамляе свае меркаванні адпаведнай дзяржаве-ўдзельніцы і асобе.

### Артыкул 6

Камітэт уключае ў свой штогадовы даклад, прадугледжаны артыкулам 45 Пакта, кароткую справаздачу аб сваёй дзейнасці ў адпаведнасці з гэтым Пратаколам.

### Артыкул 7

У далейшым, да дасягнення мэт рэзалюцыі 1514 (XV), прынятай Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый 14 снежня 1960 года, адносна Дэкларацыі аб даванні незалежнасці каланіяльным краінам і народам палажэнні гэтага Пратакола ніякім чынам не абмяжоўваюць права на падачу петыцый, якое дадзена гэтым народам Статутам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і іншымі міжнароднымі канвенцыямі і дакументамі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і яе спецыялізаваных устаноў.

### Артыкул 8

1. Гэты Пратакол адкрыты для падпісання любой дзяржавай, якая падпісала Пакт.

2. Гэты Пратакол падлягае ратыфікацыі любой дзяржавай, якая ратыфікавала Пакт ці далучылася да яго. Ратыфікацыйныя граматы перадаюцца на захаванне Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

3. Гэты Пратакол адкрыты для далучэння любой дзяржавы, якая ратыфікавала Пакт або далучылася да яго.

4. Далучэнне ажыццяўляецца дэпаніраваннем дакумента аб далучэнні ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

5. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый паведамляе ўсім дзяржавам, якія падпісалі Пратакол ці далучыліся да яго, аб дэпаніраванні кожнай ратыфікацыйнай граматы або дакумента аб далучэнні.

### Артыкул 9

1. Пры ўмове ўступлення Пакта ў сілу гэты Пратакол уступае

ў сілу праз тры месяцы з дня дэпаніравання ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый дзесятай ратыфікацыйнай граматы або дакумента аб далучэнні.

2. Для кожнай дзяржавы, якая ратыфікуе гэты Пратакол або далучыцца да яго пасля дэпаніравання дзесятай ратыфікацыйнай граматы ці дакумента аб далучэнні, гэты Пратакол уступае ў сілу праз тры месяцы з дня дэпаніравання яго ўласнай ратыфікацыйнай граматы або дакумента аб далучэнні.

## Артыкул 10

Пастановы гэтага Пратакола распаўсюджваюцца на ўсе часткі федэратыўных дзяржаў без якіх бы там ні было абмежаванняў ці выключэнняў.

## Артыкул 11

1. Любая дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пратаколе, можа прапаноўваць папраўкі і падаваць іх Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Генеральны сакратар перадае затым любыя прапанаваныя папраўкі дзяржавам — удзельніцам гэтага Пратакола з просьбай паведаміць яму, ці выказваюцца яны за скліканне канферэнцыі дзяржаў-удзельніц з мэтай разгляду гэтай прапановы і правядзення па ёй галасавання. Калі за скліканне такой канферэнцыі выкажацца не меней як адна трэць дзяржаў-удзельніц, Генеральны сакратар склікае гэтую канферэнцыю пад эгідай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Любая папраўка, прынятая большасцю дзяржаў-удзельніц, якія прысутнічаюць і ўдзельнічаюць у галасаванні на гэтай канферэнцыі, перадаецца Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый на зацвярджэнне.

2. Папраўкі ўступаюць у сілу пасля зацвярджэння іх Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і прыняцця большасцю ў дзве трэці дзяржаў, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пратаколе, у адпаведнасці з іх канстытуцыйнымі працэдурамі.

3. Калі папраўкі ўступаюць у сілу, яны становяцца абавязковымі для тых дзяржаў-удзельніц, якія іх прынялі, а для іншых дзяржаў-удзельніц застаюцца абавязковымі пастановы гэтага Пратакола і любыя папярэднія папраўкі, якія імі прыняты.

## Артыкул 12

1. Кожная дзяржава-ўдзельніца можа ў любы час дэнансаваць гэты Пратакол шляхам пісьмовага паведамлення на імя Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Дэнансацыя ўступае ў сілу праз тры месяцы з дня атрымання гэтага паведамлення Генеральным сакратаром.

2. Дэнансацыя не перашкаджае працягу прымянення палажэнняў гэтага Пратакола да любога паведамлення, што будзе пададзена ў адпаведнасці з артыкулам 2 да даты ўступлення дэнансацыі ў сілу.

## Артыкул 13

Незалежна ад паведамленняў, зробленых у адпаведнасці з пунктам 5 артыкула 8 гэтага Пратакола, Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый паведамляе ўсім дзяржавам, пра якія гаворыцца ў пункце 1 артыкула 48 Пакта, аб ніжэйпададзеным:

*a*) падпісаннях, ратыфікацыях і далучэннях згодна з артыкулам 8;

*b*) даце ўступлення ў сілу гэтага Пратакола згодна з артыкулам 9 і даце ўступлення ў сілу любых паправак згодна з артыкулам 11;

*c*) дэнансацыях згодна з артыкулам 12.

## Артыкул 14

1. Гэты Пратакол, англійскі, іспанскі, кітайскі, рускі і французскі тэксты якога роўна аўтэнтычныя, падлягае здачы на захаванне ў архіў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

2. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый перадае завераныя копіі гэтага Пратакола ўсім дзяржавам, названым у артыкуле 48 Пакта.

**ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ.** Стварэнне кантрольнага механізма — заключны этап у распрацоўцы Міжнароднай хартыі правоў чалавека. Прапанова аб яго распрацоўцы зыходзіла ад заходніх краін, якія яшчэ ў 1946 годзе выступілі з ініцыятывай у Камісіі міжнароднага права аб жыццёвай неабходнасці стварэння міжнароднага органа кантролю за ўсеагульным захаваннем правоў чалавека. У 1949 годзе рабочая група Камісіі па правах чалавека з шасці членаў, сярод якіх былі прадстаўнікі СССР і Украіны, прыступіла да падрыхтоўкі праекта.

Аднак сама ідэя распрацоўкі міжнароднага кантрольнага органа выклікала рашучыя пярэчанні з боку савецкай дэлегацыі, якая лічыла, што вызначэнне статуса грамадзяніна з'яўляецца выключна ўнутранай кампетэнцыяй тае ці іншае дзяржавы, і таму настойвала на дапушчальнасці толькі нацыянальных форм кантролю за рэалізацыяй пактаў аб правах чалавека. Любыя міжнародныя меры па захаванню правоў разглядаліся нашымі дыпламатамі як умяшанне ва ўнутраныя справы дзяржавы.

Заходнія краіны слушна сцвярджалі, што замацаваныя ў Статуце ААН палажэнні аб міжнародным супрацоўніцтве ў галіне правоў чалавека сведчаць аб неабходнасці ўвядзення міжнародных форм кантролю за захаваннем міжнародных абавязацельстваў.

Не дамогшыся падтрымкі сваёй пазіцыі, Украіна выйшла са складу рабочай групы, а прадстаўнік СССР застаўся ў якасці назіральніка.

У 1954 годзе Камісія па правах чалавека большасцю галасоў (супраць галасавалі прадстаўнікі сацыялістычных краін) ухваліла пададзены праект механізма міжнароднага кантрольнага органа — Камітэта па правах чалавека — і ўключыла яго ў заключныя артыкулы праекта Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Адначасова былі распрацаваны мерапрыемствы па правядзенню ў жыццё Пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, хаця савецкія прадстаўнікі настойвалі на стварэнні адзінага кантрольнага органа па абодвух Пактах. Аднак пункт гледжання савецкай дэлегацыі не знайшоў падтрымкі ў членаў Камісіі.

Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах замацоўваў абавязацельствы дзяржаў па неадкладнаму ажыццяўленню абвешчаных правоў пасля яго ратыфікацыі. Пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах абавязваў дзяржавы толькі да «паступовай рэалізацыі» прызнаных правоў.

Пададзены Камісіяй на абмеркаванне Трэцяга камітэта Генеральнай Асамблеі ААН праект форм міжнароднага кантролю за захаваннем Пактаў па правах чалавека, асабліва тых, што тычацца статуса Камітэта па правах чалавека, выклікаў вострае рознагалоссе адносна функцый гэтага Камітэта паміж заходнімі краінамі і савецкімі прадстаўнікамі.

У гэтым кантэксце паказальная дыпламатычная барацьба ў Трэцім камітэце на XXI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 1966 годзе пры прыняцці Пактаў аб правах чалавека. Заходнія краіны прапанавалі надзяліць Камітэт наступнымі функцыямі: разглядаць даклады дзяржаў аб мерах па рэалізацыі правоў чалавека, атрымліваць і разглядаць скаргі адной дзяржавы на другую аб невыкананні апошнімі сваіх абавязацельстваў, прымаць петыцыі прыватных асоб аб парушэнні іх правоў дзяржавай.

Прадстаўнікі СССР, Украіны і Беларусі, вымушаныя пагадзіцца са стварэннем міжнароднага кантрольнага органа ў асобе Камітэта па правах чалавека, рашуча пярэчылі супраць надзялення Камітэта паўнамоцтвамі на разгляд скаргаў ад дзяржаў і, асабліва, ад прыватных асоб. Яны лічылі дастатковым абмежаваць яго функцыі толькі перыядычным заслухоўваннем дакладаў дзяржаў, якія будуць падавацца па патрабаванню Камітэта.

Палітычны рэжым, характэрны для савецкай дзяржавы, а таксама тых сацыялістычных краін, якія яе падтрымлівалі — Польшчы, Чэхаславакіі і Венгрыі,— неадпаведнасць нацыянальнага заканадаўства прынцыпам аховы правоў чалавека, беспакаранае парушэнне гэтых правоў — усё гэта і тлумачыла ўпартае супраціўленне сацыялістычных краін пашырэнню функцый Камітэта.

Абараняючы свае пазіцыі, савецкія прадстаўнікі вырашылі заручыцца падтрымкай дэлегацый афра-азіяцкіх краін, пераконваючы іх у тым, што прыняцце скаргаў ад прыватных асоб прымяншае суверэнітэт дзяржавы, прыраўновае яе да падапечных тэрыторый (калоній), насельніцтва якіх, адпаведна Статуту ААН, мае права на петыцыі.

Многія афра-азіяцкія краіны, якія толькі што заваявалі незалежнасць, надзвычай хваравіта ставіліся да любых спроб абмежавання іх суверэнітэту і таму без асаблівых ваганняў падтрымалі пазіцыю сацыялістычных краін. У выніку савецкай дыпламатыі ўдалося дамагчыся адхілення прапаноў заходніх краін і ўключыць у Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах шэраг кампрамісных палажэнняў. Замест абавязковай працэдуры разгляду Камітэтам скаргаў адной дзяржавы на другую ў Пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах па ініцыятыве афра-азіяцкіх краін быў замацаваны іншы варыянт: Камітэт мае права разглядаць паведамленні адной дзяржавы аб парушэнні абавязацельстваў па Пакту другой дзяржавай толькі ў выпадку, калі дзяржавы — удзельніцы Пакта зробяць афіцыйную заяву аб прызнанні такой кампетэнцыі Камітэта (арт. 41). Што тычыцца давання Камітэту магчымасці прымаць скаргі ад прыватных асоб, то нязначнай перавагай галасоў (41 супраць 39, пры 16, што ўстрымаліся) была прынята прапанова Лівана замацаваць такое права ў асобным дакументе — факультатыўным пратаколе да Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, з якім чытач мае магчымасць пазнаёміцца ў гэтым нумары «Беларусі».

СССР, Украіна і Беларусь галасавалі супраць прыняцця Факультатыўнага пратакола, абвясціўшы, што яны ў прынцыпе не згодны з працэдурай падачы індывідуальных скаргаў на дзяржаву.

Факультатыўны пратакол уступіў у сілу ў 1976 годзе. Аднак колькасць дзяржаў, якія ратыфікавалі яго, нязначная (49) у параўнанні з колькасцю дзяржаў, што ратыфікавалі Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах (95).

Камітэт па правах чалавека, які ажыццяўляе кантроль за выкананнем Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, прыступіў да работы ў 1977 годзе. Яго дзейнасць заключаецца ў заслухоўванні і абмеркаванні дакладаў, якія падаюцца праз 5 гадоў дзяржавамі — удзельніцамі Пакта. У прыватнасці, Беларусь ужо двойчы — у 1981 і 1986 гадах — рабіла справаздачу перад Камітэтам адносна рэалізацыі ў заканадаўстве БССР палітычных і грамадзянскіх правоў і свабод, прадугледжаных у Пакце. Абмеркаванне было надзвычай дэталёвым. Дастаткова заначыць, што членам беларускай дэлегацыі экспертамі Камітэта было зададзена больш як 400 пытанняў. У 1991 годзе Камітэт разгледзіць трэці даклад Беларусі.

Што тычыцца кантролю за выкананнем Пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, то ў самім Пакце не ўтрымліваецца распрацаванага кантрольнага органа, як у Пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах. У ім толькі гаворыцца аб накіраванні дакладаў дзяржаў — удзельніц Пакта ў Эканамічны і Сацыяльны Савет — адзін з галоўных органаў ААН. Таму ў 1978 годзе па рашэнню ЭКАСАС была створана група з 15 экспертаў ад дзяржаў — членаў ЭКАСАС і адначасова ўдзельніц Пакта. Яны разглядаюць даклады дзяржаў аб рэалізацыі ў нацыянальным заканадаўстве сацыяльна-эканамічных і культурных правоў, прадугледжаных Пактам. У 1985 годзе створаны Камітэт па эканамічных, сацыяльных і культурных правах. Мяркуецца распрацаваць яго структуру і функцыі па аналогіі з Камітэтам па правах чалавека.

Савецкія грамадзяне не маюць права звяртацца са скаргамі на парушэнне сваіх правоў у ААН, таму што СССР, Украіна і Беларусь не ратыфікавалі Факультатыўнага пратакола. Аднак цяпер савецкая дзяржава, афіцыйна абвясціўшая аб прыхільнасці да канцэпцыі прыярытэту міжнароднага права, заявіла аб сваім намеры ў хуткім будучым далучыцца да Факультатыўнага Пратакола.

Уяўляецца, што Беларусь як суверэнная дзяржава і ўдзельніца Пактаў аб правах чалавека, не чакаючы рашэння саюзных органаў, магла б ратыфікаваць Факультатыўны пратакол, што спрыяла б больш эфектыўнай абароне правоў яе грамадзян.

**Людміла ПАЎЛАВА,**
дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна.

**Буслы прыспешвалі вясну. І сады цвілі на здзіўленне — роўна, дружна, радуючы сялянскае сэрца прадчуваннем шчодрай восені. Ладная, добрая вясна выдалася: і сонца і дажджоў было ў меру. І тая далёкая раніца — росная, ціхая, настоеная на бэзе і ландышах, поўная бадзёрай свежасці і звонкага птушынага гоману — абяцала такі ж светлы дзень.**

**А бяда ўжо стаяла на парозе; нябачныя, але атрутныя часцінкі разбуджанага атама асядалі на дахі дамоў, дружную рунь азімых, на людзей і птушак... Горкімі, нікому не патрэбнымі яблыкамі суджана было стаць вясновай яблыневай кіпені. Яе, восені, ужо не было. І будучага ў гэтай зямлі — таксама. Але аб гэтым пакуль не ведаў тут ніхто.**

**З той трагічнай красавіцкай раніцы мінула пяць гадоў. У нашым лексіконе з'явіліся словы, якіх даўно не ўжывалі: эвакуацыя, зона адчужэння, адсяленне, радыеактыўны распад, чарнобыльскія «вожыкі», «рыжы» лес... Чарнобыль стукаецца ў нашы сэрцы. Ён — наш боль, гісторыя, памяць.**

ЗНАЁМЦЕСЯ:
ЧЛЕН УРАДА



**Іван КЕНІК,**
**намеснік Старшыні Савета Міністраў, старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС**

# НАБАТ У БУД

**— Іван Альбінавіч, да гэтага часу не сціхаюць спрэчкі аб вашым імклівым узлёце: мэр правінцыяльнага горада раптам аказваецца на вышэйшых паверхах кіраўнічай іерархіі рэспублікі. Адны сцвярджаюць, што перабудова зараз вылучае на авансцэну свежыя сілы, аднак знаходзяцца і такія, хто заяўляе: «У Keніка ёсць рука». А як было ўсё на самай справе!**

— Адбылося ўсё нечакана. У Мазыр, дзе я працаваў, пазванілі з Мінска, прапанавалі гэту пасаду. Я прыехаў у Дом урада, прайшоў субяседаванні ў чатырох пастаянных камісіях — і адразу ж на трыбуну сесіі. Праўда, перад гэтым была гутарка з Вячаславам Францавічам Кебічам. Парламент пераважнай большасцю галасоў зацвердзіў мяне намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР. Многія дэпутаты мяне ведалі па мінулым скліканні, памяталі мае выступленні па прынцыповых пытаннях. Летась, дарэчы, дэпутатам я выбраны на альтэрнатыўнай аснове, у мяне былі дастойныя сапернікі — дырэктар завода «Меліярмаш» і загадчык кафедры педінстытута. Але ў першым туры я набраў пераважную большасць галасоў. Можа таму, што ў Мазыры мяне добра ведаюць: пачынаў майстрам у будаўнічым трэсце, вырас да кіраўніка. Апошнія тры гады ўзначальваў гарвыканкам. Шкада, што прыйшлося скласці дэпутацкія паўнамоцтвы, але сувязі з мазыранамі я не парываю.

Знакамітых сваякоў, сяброў ці, як кажуць, «валасатай рукі» ў мяне няма. Вырас у сялянскай сям'і, бацька загінуў на фронце. Часта ў хаце кавалка хлеба не было. Тым не менш маці, вялікі дзякуй ёй, змагла трох сыноў паставіць на ногі, вывучыць, вывесці ў людзі. Мой, як вы кажаце, узлёт — гэта, хутчэй, новы падыход да падбору кадраў, які нарадзіла перабудова.

**— Мазыр, як вядома, не абышла бокам чарнобыльская хмара. Цікава, дзе вы знаходзіліся і чым займаліся ў тыя красавіцкія дні 1986 года?**

— Думаеце, што я дзесьці адседжваўся ці хаваўся? Не. 27 красавіка, у нядзелю, мяне паднялі па трывозе. Перад будтрэстам былі пастаўлены адказныя і складаныя задачы. Амаль усю вясну і лета правёў у Брагінскім і Хойніцкім раёнах. Будавалі кашары, сталовыя, дарогі... Часта без праектаў, удакладненняў з начальствам. На гэта не заставалася часу. А ў жніўні ўзяліся за жыллё для перасяленцаў.

Для будаўнікоў гэта было нялёгкае выпрабаванне. Але ніхто не скардзіўся, не патрабаваў дадатковых выхадных, не было панікёраў, гультаёў. Я заўсёды знаходзіўся сярод людзей.

**— Калі мы ўжо вярнуліся ў той змрочны час, то давайце, Іван Альбінавіч, паспрабуем, як кажуць, расставіць кропкі над «і». Справа ў тым, што дагэтуль не змаўкаюць гнеўныя галасы ў адрас тагачаснага кіраўніцтва рэспублікі, якое нібыта самаўхілялася ад выратавання людзей, чакала загадаў Масквы. Наколькі мне вядома, у вас ёсць храналогія тых падзей.**

— Што ж, давайце прааналізуем іх, выбраўшы найбольш значныя. Дык вось, першыя звесткі аб трагедыі паступілі ў штаб грамадзянскай абароны рэспублікі 26 красавіка ў 18 гадзін 30 мінут. Кіраўніцтва рэспублікі даведалася аб гэтым на наступны дзень. А к канцу дня ў Брагінскім, Хойніцкім і Нараўлянскім раёнах ужо ўдакладнялася радыяцыйнае становішча.

28 красавіка да работы прыступілі аператыўныя службы грамадзянскай абароны. Адначасова пачалі лабараторны кантроль Гомельскай вобласці, а праз два дні і ўсёй тэрыторыі рэспублікі.

30 красавіка прынята рашэнне аб адсяленні цяжарных жанчын і дзяцей першых 25 населеных пунктаў. 1 мая яны былі эвакуіраваны. 5 мая завершана эвакуацыя ўсіх людзей з 30-кіламетровай зоны, а 7 мая ў зоны адпачынку вывезены дзеці і цяжарныя жанчыны Брагінскага, Хойніцкага і Нараўлянскага раёнаў.

Вось такая, калі можна так сказаць, хроніка тых чорных дзён. Канечне, зараз можна рэвізаваць іх, а заадно і дзеянні тых, хто непасрэдна адказваў за адсяленне, выратаванне людзей. Але ці справядлівай будзе гэтая крытыка? Для роздуму прывяду такі факт. Толькі ў Брагінскім раёне за суткі з забруджанай мясцовасці вывезена 7,5 тысячы чалавек і 22 тысячы галоў жывёлы. Канечне, можна ўявіць мора слёз, смутак і боль людзей, якіх вырывалі з роднай хаты і везлі ў невядомасць. Але пры гэтым трэба стаць на месца тых, хто адказваў за эвакуацыю.

**— І ўсё ж, згадзіцеся, што мы доўга трымалі народ у невядомасці. Літаральна да апошняга часу заставалася закрытай інфармацыя аб захворваннях людзей, якія падвергліся ўздзеянню радыяцыі, аб экалагічных выніках трагедыі і г. д.**

— Балючую тэму вы закранулі, аднак шчыра скажу: так, нашы людзі аб маштабах катастрофы былі апавешчаны са спазненнем. І яшчэ невядома, як і чым гэта адгукнецца. З-за «сакрэтнасці» цяпер нельга вызначыць дозу абпраменьвання, якое атрымалі жыхары ў першыя дні і тыдні пасля чарнобыльскага пажару. Да таго ж, узнікае шмат цяжкасцей з прагназіраваннем аддаленых вынікаў.

Сёння закрытых тэм няма, аб гэтым заяўляю афіцыйна. Мы падрыхтавалі шмат даведачных матэрыялаў па ўсіх пытаннях, звязаных з вынікамі катастрофы. У іх расказваецца і аб падрабязнасцях распаўсюджвання радыяцыі, і аб выніках лячэння людзей, аб захворваннях, аб экалагічным становішчы ў многіх раёнах рэспублікі, змешчана і шмат іншых звестак. Такія даведнікі выдадзены народным дэпутатам рэспублікі, яны ёсць у выканкомах мясцовых Саветаў. Азнаёміцца з імі шырокай грамадскасці хутка можна будзе ў перыядычным друку.

Утойванне праўды ад народа хай застаецца на сумленні тых, хто хаваў яе аднолькава пільна ад усіх — кіраўнікоў і падначаленых. Тых жа Аляксандрава, Веліхава і іншых. Хто-хто, а яны ведалі аб маштабах Чарнобыля, не маглі не ведаць. Аднак маўчалі. Хто, скажыце, ім забараняў звярнуцца да народа па тэлебачанні, каб расказаць усё як ёсць, шчыра, па-чалавечы? Што, не хапіла грамадзянскай муж-



насці? А што тычыцца непасрэдных удзельнікаў ліквідацыі вынікаў трагедыі, то зноў жа паўтару: і савецкія, і партыйныя, і гаспадарчыя органы ў тыя дні не спалі суткамі, рабілі ўсё магчымае, каб не даць разрасціся маштабам бяды. Да работы былі падключаны практычна ўсе міністэрствы і ведамствы, шматлікія навуковыя ўстановы і праектныя арганізацыі.

**— Згодны з вамі: беспадстаўнымі абвінавачваннямі можа займацца толькі той, хто ні разу не быў у пацярпеўшых раёнах, хто ведае аб бядзе іх жыхароў па размовах у курылках. Работы па адсяленню, як вядома, працягваюцца. Што ўжо зроблена, і што наперадзе!**

— У Беларусі, як вы ведаеце, распрацавана комплексная схема перасялення людзей з забруджаных месц. Праблема не простая. Мяркуйце самі: кожны, хто перасяляецца, «каштуе» 75 тысяч рублёў, адна сям'я — 172 тысячы. Вялікія грошы! А дзе іх узяць? І ўсё ж у імя людзей мы павінны ісці на значныя матэрыяльныя затраты.

# УЧЫНЮ



Так, перасяленне працягваецца. Толькі ў мінулым годзе на новыя месцы пераехала 21 тысяча сямей, усяго 57 тысяч чалавек.

У рэспубліцы дзейнічаюць дзве праграмы ліквідацыі вынікаў катастрофы: саюзна-рэспубліканская і рэспубліканская. Згодна першай, патрэбна закончыць адсяленне людзей з зоны са шчыльнасцю забруджвання 40 і вышэй кюры на квадратны кіламетр у 1991 годзе. На другім этапе прадугледжана правесці адсяленне сем'яў, у якіх ёсць дзеці да 14 гадоў і цяжарныя жанчыны, з зоны 15—40 Ku/кв. км.

Рэспубліканская ж праграма прадугледжвае больш кароткія тэрміны. У студзені мы вывезлі на новыя месцы апошнюю тысячу сем'яў з зон першачарговага адсялення (40 Ku/кв. км і вышэй). Там засталіся толькі тыя, хто не захацеў выязджаць з усімі, а прэтэндуе на лепшае месца жыхарства. Сёлетні год павінен стаць пераломным: мяркуем перасяліць усіх жадаючых, якія жывуць у зоне са шчыльнасцю забруджвання 15—40 Ku/кв. км. Гэта 118 тысяч чалавек. Заўважце, што згодна саюзна-рэспубліканскай праграме плануецца перасяліць толькі 55,5 тысячы чалавек. Такім чынам, мы апярэджваем яе на два гады. Я хачу гэта асабліва падкрэсліць.

Для перасяленцаў патрэбна 35 тысяч кватэр — кожная другая, якая будуецца ў рэспубліцы. Грошы на жыллё ёсць. Больш таго, 50 працэнтаў кватэр думаем вярнуць тым калектывам, якія ў свой час выручылі чарнобыльцаў. Астатнія вернем крыху пазней. Цалкам разлічымся і з тымі, хто прадаставіў жыллё пацярпеўшым у 1986 годзе.

Канечне, выкананне будаўнічай праграмы залежыць не толькі ад Дзяржаўнага камітэта па праблемах вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Патрэбны цесныя ўзаемаадносіны, дакладныя дзеянні заказчыкаў і падрадчыкаў, мясцовых Саветаў, дзесяткаў і соцень арганізацый і ўстаноў. Мы даб'ёмся мэты, калі пазбавімся ад местачковага і калектыўнага эгаізму, калі кожны праявіць прыклады велікадушнасці і гуманізму. Так, аднаму прыйдзецца ўступіць сваю чаргу на кватэру, другому — папрацаваць на нядзельніку ці ў начную змену, трэцяму — звядаць нязручнасці, чацвёртаму — перадаць сваё рабочае месца... Але на гэта трэба ісці. У імя тых, хто пазбавіўся сваёй «малой» радзімы.

**— Летась на ліквідацыю вынікаў катастрофы рэспубліцы было выдзелена 2 мільярды рублёў. Па няпоўных жа падліках патрэбны дзесяткі мільярдаў. Зразумела, што сама Беларусь такую ношку не панясе. Не хапае і прыцягнутых сродкаў міжнародных арганізацый, а таксама саюзных інвестыцый. Дзе выйсце?**

— Так, на ліквідацыю вынікаў катастрофы неабходны вялізныя сродкі. Разліковая ацэнка страт і затрат народнай гаспадаркі БССР вызначалася прыкладна 95 мільярдамі рублёў. Канечне, такіх грошай у нас няма.

Як вы ведаеце, Вярхоўны Савет краіны пайшоў насустрач і зараз мы не адчуваем фінансавых цяжкасцей. Выдзяляецца ўсё, што толькі можам асвоіць. Без СССР мы, вядома ж, з бядой не справімся. Хочацца, каб аб гэтым памяталі, шматлікія прамоўцы, якія ледзь не на кожным скрыжаванні заклікаюць беларусаў выйсці з Саюза.

Так, вялікую дапамогу аказваюць рэспубліцы дабрачынныя арганізацыі і людзі добрай волі з усяго свету. Аднак у гэтай справе шмат непаразуменняў. Няма дамоўленасці паміж грамадскімі фондамі, і часта ў адну і тую ж бальніцу ідуць грузы з некалькіх краін. Не навучыліся мы пакуль і дастойна прыняць падарунак, аддзячыць, паведаміць дарыльшчыку, калі і каму ўручаны яго прэзент. Карацей кажучы, ёсць над чым працаваць.

**— Чарнобыльская бяда не магла не зрабіць уплыву на настрой людзей, іх погляды і ўзаемаадносіны. Як бы вы ахарактарызавалі сённяшняе маральнае становішча ў рэспубліцы!**

— Чарнобыльская катастрофа — смутак і боль нашага народа, яго глыбокая незагойная рана. Канечне, яна не змагла не сказацца на псіхалогіі людзей. І не толькі тых, якія жывуць у пацярпеўшых раёнах, але і па ўсёй рэспубліцы. Аднак не хацелася б за ўсім гэтым бачыць толькі «радыяфобію», «чарнобыльскі сіндром», хаця, безумоўна, гэтыя элементы выключаць нельга. Трэба, урэшце, сказаць самім сабе поўную праўду аб тым, што здарылася. Тое, што адбылося ў Чарнобылі — буйнейшая за ўсю гісторыю чалавецтва тэхналагічная катастрофа. І толькі зараз пачалося пераасэнсаванне яе вынікаў.

Цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што маральна-псіхалагічны стан людзей палепшыўся. Па-першае, яны ведаюць, што іх чакае ў бліжэйшы час: куды будуць перасяляцца, з кім жыць, дзе працаваць. Робіцца ўсё, каб не парушыць уклад іх жыцця, суседскія і сваяцкія сувязі. Па-другое, зараз яны матэрыяльна незалежныя, дзяржава ўзяла на сябе выдаткі. Наша задача — дамагчыся, каб іх жаданні супалі з нашымі магчымасцямі.

Патрэбна праўда аб кожнай ампуле дэфіцытных лекаў, кожным кубаметры чыстага лесу, аб кожнай пуцёўцы на цёплае і чыстае мора, якія выдзяляюцца пацярпеўшым.

**— Іван Альбінавіч, на жаль, на першым этапе ліквідацыі вынікаў трагедыі не абышлося без памылак. Успомніце хаця б, колькі атрутных стрэл было выпушчана ў адрас тых, хто «пасадзіў» новыя пасёлкі для перасяленцаў у забруджаныя мясціны. Зараз вядзецца другі — навукова абгрунтаваны, эканамічна вывераны — этап. Але ці ёсць гарантыя, што памылкі не паўторацца!**

— Так, памылкі былі. Пра пасёлак Майскі Чэрыкаўскага раёна пісалі бадай што ўсе рэспубліканскія газеты. Славуціч і той пабудавалі на тэрыторыі, далёкай ад нармальнай чысціні. У пытаннях, якія датычаць здароўя людзей, спешкі не павінна быць. Памылкі, думаю, не паўторацца. Ёсць гарантыі. Па-першае, канцэпцыя пражывання насельніцтва ў пацярпеўшых раёнах. Па-другое, крытэрыі выбару пляцовак для будаўніцтва. У адпаведнасці з канцэпцыяй, распрацаванай беларускімі вучонымі, устаноўлена: пачынаць будаўніцтва толькі ў месцах з даваарыйным узроўнем радыяцыі, гэта значыць са шчыльнасцю забруджвання 0,1 кюры на квадратны кіламетр па цэзію. Адразу адзначу, што гэтая норма больш жорсткая, чым на Украіне.

**— У пісьмах, якія паступаюць у рэдакцыю, часта паўтараецца адно і тое ж пытанне: ці ёсць небяспека пашырэння радыеактыўных зон! Бываюць жа выпадкі: там, дзе гадзіну назад было «чыста», становіцца «небяспечна».**

— Ведаеце, на ваша пытанне пакуль нельга даць адназначны адказ. Аднак скажу: новых радыеактыўных выпаданняў няма. Радыяцыйна-экалагічнае становішча стабілізавана. Асноўнымі формамі, якія вызначаюць яго змяненне, з'яўляюцца натуральны распад, друганы ветравы перанос, гарызантальная і вертыкальная міграцыя радыенуклідаў.

Так, бываюць выпадкі, калі людзі са сваёй маёмасцю заносяць радыенукліды на чыстыя месцы. Пераносяць іх і дзікія звяры. Што тут можна сказаць? Павінен быць парадак. Нельга дапускаць вываз ці вынас маёмасці з зоны адчужэння. Адначасова трэба адзначыць і такі факт. Тэрыторыя рэспублікі даволі падрабязна вывучана па забруджванню цэзіем-137, і гэтыя даныя сістэматычна ўдакладняюцца. А вось, з-за складанасці метадаў аналізу, работы па вызначэнню ў глебе, вадзе, паветры стронцыю-90, плутонію, іншых трансуранавых элементаў яшчэ далёка не закончаны.

**— З вашага расказу, Іван Альбінавіч, можна ўявіць, якая складаная задача стаіць перад Дзяржкамітэтам па праблемах вынікаў катастрофы. Камітэт створаны параўнаўча нядаўна. Цікава ведаць, што ён сабою ўяўляе!**

— Наш камітэт, перш за ўсё, з'яўляецца цэнтральным органам дзяржаўнага кіравання рэспублікі, які каардынуе і кантралюе дзейнасць міністэрстваў, дзяржкамітэтаў, ведамстваў, выканкомаў мясцовых Саветаў, аб'яднанняў, прадпрыемстваў і арганізацый, незалежна ад іх падначаленасці, па выкананню Дзяржаўнай праграмы пераадолення ў рэспубліцы вынікаў катастрофы. Іншае пытанне: ці зможам мы ўсё гэта выканаць у поўным аб'ёме? Я не выпадкова стаўлю яго. Бо казаць, што камітэт створаны, пакуль рана. Мяркуйце самі: укамплектаванасць кадрамі складае толькі 40 працэнтаў. Няма памяшканняў для супрацоўнікаў. Яны працуюць у паўпадвалах, прыёмных, у холах ці сталамі наведвальнікаў... А ўсе яны — спецыялісты высокай кваліфікацыі.

Усяго ў нас павінна быць 13 аддзелаў і ўпраўленняў. Шмат? А гэта як паглядзець. Бо і праблема, якой мы займаемся, неардынарная. Таму і дыяпазон прафесій вельмі шырокі — ад сацыялогіі да радыялогіі. Правільна мяне толькі зразумейце: нашы праблемы ні ў якім разе не закранаюць праблем зоны. І мы імкнёмся, каб там іх наогул не існавала. Занадта многа вынеслі і страцілі людзі. Надта шмат укладзена сіл і здароўя, народных грошай, нашых з вамі грошай. І ўсім трэба распарадзіцца па-гаспадарску.

І яшчэ: надзею і веру забівае маўчанне тых, хто павінен важка, аргументавана, чэсна не толькі па абавязку высокай службы, але і па абавязку партыйнага, чалавечага сумлення, гаварыць з народам, адказваючы на яго простыя і бязмерна складаныя пытанні. Толькі так мы зможам даказаць усім, хто прайшоў зону, хто жыў у зоне, хто працуе там цяпер, што яны патрэбны нашаму грамадству, краіне, што без іх мы не абыдземся, не выжывем.

**— Раней, расказваючы аб буйных дзяржаўных работніках, журналісты звычайна пазбягалі нейкіх дэталей, звязаных з асабістым жыццём сваіх герояў. І перад чытачамі ўзнікаў вобраз такіх непадступных, зашпіленых на ўсе гузікі чыноўнікаў. Зараз падыход мяняецца. Дык ці не маглі б вы крыху расказаць аб Кеніку як аб чалавеку!**

— Сям'я мая пакуль жыве ў Мазыры: жонка, сын-студэнт, нявестка і ўнук. Старэйшая дачка замужам за ваенным у Астрахані, у іх двое дзяцей. Кватэры ў Мінску яшчэ няма.

Шчыра прызнацца, не думаў, што столькі клопатаў выпадзе на новым месцы. Без перабольшвання, працую па 10—12 гадзін у суткі. Часта без выхадных. Ну, а выкраіцца вольная хвіліна — за кнігу. У нас дома вялікая бібліятэка. Асабіста я захапляюся гістарычнай літаратурай. З задавальненнем прачытаў Караткевіча, Іпатаву, ну і, зразумела, Быкава, Мележа, Шамякіна... Хоць сам я нарадзіўся на Украіне, але ведаю беларускую мову, творы беларускіх пісьменнікаў чытаю ў арыгінале.

У заключэнне хачу сказаць: я ведаў, на што іду, уяўляў цяжкасці, якія будуць мяне суправаджаць. Але не шкадую аб гэтым. Галоўнае — зрабіць усё, каб хутчэй перасяліць людзей у небяспечныя раёны, вярнуць ім страчаныя надзеі на шчасце.

**Інтэрв'ю ўзяў У. БАЦКАЛЕВІЧ,**
**удзельнік ліквідацыі**
**вынікаў катастрофы**
**на Чарнобыльскай АЭС.**



Андрэй
**ФЕДАРЭНКА**

АПАВЯДАННЕ

Гэта лухта, калі кажуць, што моцнага чалавека ломяць толькі вялікія жыццёвыя буры, страшныя трагедыі альбо неймаверныя страты; на самай справе чалавек лёгка можа прайсці праз усё гэта, выстаяць, а зваліцца ад нязначнай драбязы, пстрычкі, якую і ўлічыць было немагчыма.

Так адбылося і з нашым Зміцерам Івановічам. Смешна, неверагодна было нават прадбачыць, з якой нагоды такі моцны, культурны, шчаслівы ў жыцці чалавек за кароткі час выслізне з гэтага свайго дабрабыту, як семка з гарбуза. А жыў жа, паўтаруся, як і ўсе, а мо нават і лепш, больш удала. У няпоўныя трыццаць гадоў ён ужо меў выгодную службу, аднапакаёвую кватэру і красуню-жонку. Ён часта так і гаварыў свайму суседу з трэцяга паверха, пенсіянеру Якаву Раманавічу Меламеду, з якім любіў летнімі вечаркамі пасядзець на лаўцы каля пад'езда:

— Я, Якаў Раманавіч, шчаслівы ў параўнанні з усімі сваімі знаёмымі, і шчаслівы ведаеце чым? Не знешнімі нейкімі абставінамі, не, хоць і гэтае знешняе для мяне многа значыць. Але найперш тым, што, напрыклад, я вось без блату, без багатай цешчы, без хітрай жаніцьбы і без падлізвання, сам, толькі сваім розумам заслужыў і гэтую вось кватэрку, і сваю Галю, і гэтую сямейную ўтульнасць, пра якую столькі марыў некалі на халодным прагнутым студэнцкім ложку... Маё шчасце — не зусім, не толькі ў гэтым, а найперш у тым, што я не жадаю сабе нічога ні лепшага, ні горшага. Яно, разумееце, як бы ў канкрэтным моманце. Я ўгадаў гэты момант, я сказаў сабе — стоп, Дзіма! Будзь разумнейшы за іншых. Вось як гэта на фактах: напрыклад, будуць даваць новую, большую кватэру — адмоўлюся, будуць павышаць па службе — выкручуся, каб астацца на сваім цяперашнім месцы... Разумееце, Якаў Раманавіч? Здаецца, у Зіеданіса: як пераканаць п'яніцу, што найвышэйшая і адзіная асалода толькі ад першай чаркі? Я хачу, Якаў Раманавіч, захаваць асалоду першай чаркі — разумееце цяпер мяне?

Меламед, схіліўшы набок лысую, з рэдкім сівым вяночкам галаву, цікаўна, але трошкі і скептычна, слухаў і зацікнутым паміж каленяў драўляным кіёчкам круціў у пяску дзіркі. Адзінокі, хворы чалавек, Якаў Раманавіч належаў да рэдкага сярод пенсіянераў тыпу: ён не ведаў настальгіі па ранейшым, не трымаўся старога, а падтрымліваў толькі новае, перадавое, ці, як ён сам сябе канкрэтна называў, быў леваралдыкалам. Ён зусім нядаўна выйшаў з партыі, якой служыў ад юнацкіх гадоў і да пенсіі, у знак пратэсту супраць парушэння правоў асобы пачаў насіць адбеленыя джынсы і з'яўляўся нязменным аўтарам нефармальных выданняў дэмакратычнага кірунку. Словам, чалавек гэта быў, несумненна, неардынарны, цікавы — а чаму б інакш і спадабаўся яму Івановіч?

Выслухаўшы, Якаў Раманавіч клаў свой кіёчак на калені і звонка і прыемна пачынаў шапялявіць:

— Ты сам кажаш — студэнцкі халодны ложак. Я жыва ўяўляю сабе гэты ложак. Пасля гэтага салдацкага ложка любая наша грубая савецкая канапа будзе табе райскім пухам. Сапраўднага ложка мы не ведаем усё жыццё. Хіба мы спалі на людскіх ложках? Можа, мы елі людскую ежу, культурна сервіраваную? Можа, мы ведаем сапраўдную культуру, літаратуру? А мы ж пушчаны ў свет для сапраўднага, поўнага шчасця, гэта ўсе прызнаюць. Тваё шчасце — мікрон ад сапраўднага. Незакамплексаваны чалавек адтуль, з Захаду, паслухаўшы пра тваё шчасце, захацеў падаць бы табе міластыню.

Івановіч выслухоўваў гэтыя словы таксама, як і Меламед ягоныя, з недаверам.

— Якаў Раманавіч,— адказваў ён, закурваючы,— калі ў мяне душа спакойная і мне нічога не хочацца, я магу спаць і на падлозе, есці аднымі рукамі і абыходзіцца без культуры і без літаратуры — і ўсё роўна быць шчаслівейшым за ўсіх вашых амерыканцаў, разам узятых.

— О не, Дзіма,— уздыхаў Меламед, адганяючы цыгарэтны дым, які вельмі кепска пераносіў.— Вы шчаслівыя толькі адным — няведаннем. Па прынцыпу: мы не знаем, мы з калгаса, нам не трэба. Калі б вы хоць адзін дзень пажылі ў сапраўднай цывілізаванай краіне — якім смешным, вартым жалю і духоўна бедным убачылася б вам цяперашняе вашае жыццё!.. Мы цярплівыя: не далі гарэлкі — вытрывалі, потым — каўбаса знікла, мяса, кансервы, і ідзе тэндэнцыя, будзе знікаць усё падрад, разумееце? У Маскве ўжо, кажуць, цыгарэт нават няма! Як у тым анекдоце: асталося толькі дустам пасыпаць, і калі вытрываем — даць другога Героя...

— Я трохі інакш чуў...— смяяўся Івановіч.

Ён расказваў свой варыянт анекдота; яны, задаволеныя, як шахматысты пасля партыі, падавалі адзін другому рукі і разыходзіліся. Адзін — купацца ў ванне, піць гарбату, глядзець у мяккім крэсле па тэлевізары пра стыхійныя бедствы і крымінальную хроніку, а пасля, у цёплым ложку, абдымаць і лашчыць прыгожую пакорлівую жанчыну... Другі — у свае пустыя чатыры сцяны, дзе стол ды лямпа, ды нікому не патрэбныя паперы, ды, можа, шклянка кефіру на ноч па модзе старых, адзінокіх бабылёў... Шмат тут няма чаго распісваць, і так усім ясна — Бог няроўна дзяліць!

Неўзабаве адной цудоўнай ранічкай збылося Меламедава прароцтва: па ўсім горадзе ў адначассе знікла ўсё курыва. «Пацалаваўшы замок» на трох табачных кіёсках, Івановіч пачуў, што даюць у Зарэчным мікраёне «Астру», узрадаваўся, заспяшаўся быў туды, і раптам успомніў, што трэба ж ісці на службу! Ён успомніў — і з нянавісцю ўявіў сабе нумар тралейбуса, якім ездзіў заўсёды на гэтую сваю службу. Нянавісць яго спалохала, нават курыць перастала хацецца. Такога ніколі яшчэ не было, бо ён любіў сваю работу.

«Трэба проста кінуць курыць! — прыйшло яму лёгкае і простае рашэнне ўжо ў тралейбусе.— Ніхто ад гэтага не паміраў, і я не памру. Па-першае, здароўе, чыстыя лёгкія, здаровыя зубы,— Івановіч застагнаў ад сораму, успамінаючы, як апошнім часам уночы жонка стараецца спаць тварам да сцяны, адвярнуўшыся ад яго.— Яна не скажа, самой сорамна, але ж гэта — пахне з рота... Ад курыва... А фінансы? Трэцяя частка маёй зарплаты. Чым займаць час? А рыбалкай, грыбамі, чытаць, адкрыць кааператыў...»

Івановічу ад сваіх думак да таго стала радасна, што нясцерпна захацелася «замачыць» гэты радасны настрой двума-трыма моцнымі зацяжкамі. Выскачыўшы з тралейбуса, ён папрасіў закурыць у аднаго, другога, трэцяга — ні ў кога не аказалася. Сціснуўшы зубы, Івановіч прымусіў сябе абыякава адвярнуцца ад доўгага «бычка», што ляжаў пад сметніцай, а, адышоўшы крокаў на пяць, спыніўся і ледзь не ў голас прамармытаў:

— Можна было так, што ніхто б і не ўбачыў... Ён рашуча павярнуўся і анямеў. Бычка не было; не было і людзей, здаецца, блізка, якія маглі б яго падняць, хіба што толькі нейкі мужчына, нагнуўшыся, папраўляў шнурок...

Івановіч працёр вочы, глянуў на гадзіннік і паляцеў на службу.

Як ён дабыў, небарака, да абеду, пра тое ведае толькі ён сам. У абед удалося стрэльнуць адну цыгарэтку, але страх, што яна хутка скончыцца, яшчэ больш разнерваваў яго. Пацягнуўшы пару разоў, ён цыгарэту затушыў, паклаў у кішэню і праз кожныя пяць — дзесяць хвілін стаў выходзіць і пакурваць. Ад яго несла, як з пустой попельніцы, саслужыўцы круцілі насамі і дэманстратыўна расчынялі вокны — ён і гэта перажыў...

З работы Івановіч вяртаўся, нібы лунацік, гледзячы немавед куды і немавед пра што думаючы. Яму саступалі дарогу. Каля лазні, недалёка ўжо ад дамоўкі, яго спыніў высокі лысаваты мужчына ў спартыўным касцюме, са скураным партфелем.

— Выручай, добры чалавек! — узмаліўся ён. Голас быў лагодны, нават жаласлівы нейкі, а твар чысты, выгалены і бліскучы як у манекена.— Купіў два білеты ў «люкс» на шэсць дваццаць, хацеў свайму шэфу сюрпрыз зрабіць, адздякаваць, а ён не прыйшоў... А я, дурань, і піва набраў, і нават ракаў па блату, «Рускай» бутэлечку — чым, думаю, табе толькі ўгадзіць? Дарэмна стараўся... Партакрат нейкі, праўда? Можа б, вы згадзіліся скласці кампанію? Каб білецікі не згарэлі? Ці й вы такі ж самы бюракрат? — Мужчына нечакана расхваляваўся: — Пайшоў ты, скажы, са сваімі ракамі разам, мы больш ікру чорную ўважаем! Ракі для чорных — нам падай каньячку з грыльяжам!

У чалавека ад крыўды, калі ён выцягнуў пачак «Арбіты», аж дрыжэлі рукі. Івановічавы пальцы самі сабой заварушыліся, а позірк зрабіўся вастрэйшы.

— Дай,— хрыпата сказаў ён.

Чалавек радасна і пільна на яго глянуў, даў дзве, прыкурыў і зусім неяк па-свойску ўзяў пад руку. Мала што разумеючы, разамлелы ад нечаканай удачы Івановіч пакорна пайшоў з ім да лазні. Мужчына купіў у дзеда, што расклаў на ганку свой тавар, два дубовыя венікі, а дзядок, весела хіхікаючы, пажадаў ім лёгка парыцца. У дзвярах ад іх шарахнуліся дзве распараныя, з мокрымі пасля лазні валасамі дзеўкі і таксама зарагаталі ўслед. Івановіч прагна смактаў «арбіціну» і нічога гэтага не заўважаў. Каля самай прапускной круцёлкі на іх весела і груба крыкнула жанчына ў белым халаце:

— Ну, куды ўжо, галубнякі, маршыруеце з папяросамі! Вуй, ды шчэ й пад рукі пабраліся!..

Жанчына зарагатала.

— Сцяпанаўна, рыбка, радасць мая,— плаксіва замаляўся мужчына і палез у свой партфель,— сувенірчык прыміце на памяць...

Івановіча быццам аглушылі паленам па галаве. Нарэшце да яго дайшло. Ён, як ашпараны, выскачыў на вуліцу і хутка, прыціскаючы да бакоў локці, пабег. Мужчына з партфелем пабег следам.

— Красавец, радасць мая...— задыхаючыся, гукаў ён,— вярніся! Даю пачак «Арбіты»... за адзін пацалуначак... Пяць пачкаў... Дзесяць... Блок!..

Івановіч уляцеў у кватэру і ў адзенні, як быў, рухнуў на канапу. Праз хвіліну белая ад страху жонка, не ведаючы, што рабіць, насілася па кватэры: з мужам здарыўся нервовы прыступ... Але памагла валяр'янка, памог валідол, ручнік мокры на галаве — і хвілін праз дзесяць Івановіч ачуняў; больш таго, аказалася, за дзень жонка дастала яму пару пачак «Астры», так што пакуль неяк жыць можна было.

Увечары пацішэлы, з асунутым, памятым тварам Івановіч сядзеў з Меламедам на лаўцы і толькі смаліў адну за адной.

— Я ж казаў,— радаваўся Меламед,— так і выйшла. Усё паступова прападае. І нічога, ніякай рэакцыі. Усе падцягнулі паясы і маўчаць, чакаюць.

— Цярпяць,— згаджаўся з усім Івановіч.— Але добра ўжо тое, што прыпякае. Можа, хоць трохі заварушацца.

— Нічога не зробіш, Якаў Раманавіч,— пакорліва адказваў Івановіч.

— Трэба...— Меламед налёг на сваю кавеньку і пракруціў глыбокую дзірку, як бы паказаўшы, што менавіта трэба,— трэба бунтаваць. Супраціўляцца!

— Ужо колькі бунтуюць, а не лепш, а горш і горш.

— Вось іменна — бунтуюць. Другія. А мы шчаслівыя, нам булку хлеба далі. І пачак «Прымы». Мы дзякуем за такое шчасце — маглі ж і не даць! — і нікому яго не аддадзім! Вось каб усім падняцца...

— Відаць, гэта так,— не пярэчыў сусед.

Меламед пад канец аж пачаў глядзець на яго з падазронасцю.

На другі дзень Івановіч вырашыў так курыць, каб астачу двух пачкаў расцягнуць на месяц сама мала, і якраз пагэтаму скурыў іх за паўтара дня. Больш не было ні дзе дастаць, ні ў кага стрэльнуць.

Калі хто моцна курыў і пасля кідаў, ведае, што самы цяжкі дзень — трэці. На трэці дзень, перад канцом работы, з Івановічам пачало адбывацца нешта няладнае. Ён ні з таго ні з сяго пачаў шчыкаць сябе за вуха, мацаць па кішэ-

нях, выкладаць з іх усё на стол, потым збіраць назад... Злавіўшы на сабе некалькі цікаўных позіркаў, ён падняўся і выйшаў на вуліцу.

Каля аўтобуснага прыпынку, не хаваючыся ні ад кога, ён падняў недакурак. Адна дзяўчына ў зялёных штанах убачыла, як ён нагінаўся, і гідліва скрывілася. Ён падбег да яе і гучна стаў прасіць:

— Красавіца, сонейка маё — дай адзін пацалуначак! За блок «Арбіты»! Я дастану, мне мой знаёмы «блакітны» абяцаў! Не верыш, можа? А ў што ж ты тады верыш?! — раптам злосна гаркнуў ён і замахнуўся кулаком з заціснутым недакуркам.— Застойных часоў захацела? Дулю табе!..

Дзяўчына задрыжэла ўся і, не зводзячы з яго белых ад жаху вачэй, пачала адступаць, а Івановіч павярнуўся і з усіх сіл пабег дадому.

Недзе тры ці чатыры тралейбусныя прыпынкі трушком прабег Івановіч — ніхто за ім не гнаўся. Каля павароткі на сваю вуліцу (а гэта было якраз насупраць лазні) ён сцішыў хаду, і... учарашні мужчына, толькі сёння апрануты ў джынсавыя шорты, у белую кашулю і ў белай кепцы, стаяў перад ім і свяціўся, як ранішняя ружа.

— Дазвольце вам...— мядова праспяваў ён, але, глянуўшы на Івановіча больш пільна, застыў з разяўленым ротам.

Ёсць такі сорт курыльшчыкаў, на якіх кіданне курыць, асабліва прымусовае, адбіваецца біялагічна; людзі называюць гэта «вушы пухнуць». Не толькі вушы — і твар у Івановіча быў цяпер пачарнелы, і вочы круглыя і чырвоныя, як у труса...

— Цыгарэту мне! — страшна аскаліўся Івановіч.— Бо затаўку чорта! — Ён скочыў да мужчыны, хапаючы яго за кашулю і драпаючы горла.

Мужчына тонка віскнуў, вырваўся і праз газон кінуўся наўцёкі.

— Не выйшла,— прахрыпеў, прыціскаючы да грудзей кулакі, Івановіч,— уцёк... Але ж другі астаўся! Якаў Раманавіч! Я магу і ў яго сабе выцыганіць... А калі Меламед пачне загрудкі хапаць, стане біцца сваім кіёчкам, дык я проста віскну і адбягу сабе далей. Хай тады сам сябе лупіць... У нас не застой, дзякуй Богу, можна і самога сябе пасцябаць...

Ён папляваў на далоні, задумаўся, доўга стаяў з апушчанай галавою, потым паплёўся ў свой двор.

Невядома, якая ліхая сіла так падгадала, што якраз гэтым вечарам Якаў Раманавіч выйшаў на вуліцу раней чым звычайна. Ён сядзеў сабе ціха на сваёй лавачцы, чытаў газеты, але, убачыўшы Івановіча, ледзь не выпусціў з рук свайго кіёчка.

— Зміцер,— выціснуў ён,— што з вамі?!

Замест адказу Івановіч рухнуў перад ім на калені:

— Якаў Меламедавіч — дазвольце адзін пацалуначак! Толькі, чур, не біцца!

— Дык ты п'яны! — адсунуўся гідліва пенсіянер, які баяўся і ненавідзеў п'яных усё жыццё.

— П'яны? Я-а-а?!

Далей і адбылося тое страшнае, бязглуздае (але й лагічнае, бо ўсё ішло да гэтага) завяршэнне шчасця чалавечага... Івановіч рэзка падскочыў і вырваў у Якава Раманавіча кавеньку. Першы ўдар прыйшоўся нейкі нямоцны, збоку і па руцэ, затое два наступныя прысталі да беднай пенсіянерскай спіны гладка.

— Вось табе за тваю дэмакратыю! — шалёна ўскрыкваў Івановіч пасля кожнага ўзмаху.— За тваю галоснасць!.. За твае пацалуначкі!..

Потым, на судзе ўжо, усе сведкі пацвердзілі: на тым і скончылася. Тры ўдары толькі і паспеў нанесці падсудны — больш не далі. Двор быў поўны людзей, набеглі мужчыны, выкруцілі хулігану рукі, звязалі...

Судова-медыцынская экспертыза прызнала матывам дзейнасці Івановіча надзвычай рэдкую форму бессвядомасці — нервова-псіхічны зрыў у выніку г. зв. «тытунёвага пахмелля», «абсціненцыі». Ад недахопу ў крыві нікаціну адбылося рэзкае парушэнне многіх функцый арганізма. Івановіч быў вызвалены ад адказнасці і пастаўлены на ўлік у наркалагічныя дыспансеры. Яму трэба было прайсці курс лячэння. Пацярпелы Я. Р. Меламед да суда ў сувязі з гэтым ніякіх прэтэнзій не выказаў.

Была, праўда, яшчэ адна ці то грэшная, ці то смешная рыска ва ўсёй гэтай тытунёвай гісторыі. Калі Івановіча звязалі і выклікалі машыну, ён сядзеў вельмі ціха, быў спалоханы, і нехта з тых, што вязалі, пашкадаваў яго:

— Ты ж не п'яны, нашто ты ўсё гэта заварыў?

І звязаны цвяроза і ясна сказаў:

— Перабудова мяне сажрала.

А, зрэшты, гэта магла быць і плётка.

**Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

# СІНДРОМ



# Кантрольны вузел

Пасля тыдня дажджоў нарэшце вызірнула сонца. Вада стаяла ў лужынах, перапаўняла ўсе канавы, таму паветра было насычана вільгаццю, нібы ў тропіках. К., натуральна, там ніколі не быў, хаця трапіць куды-небудзь у джунглі Афрыкі ці Індыі была ягоная запаветная, яшчэ са школы, мара. Наколькі магчыма па кнігах, ён уяўляў вялізныя дрэвы, чые шаты зліваюцца, змыкаюцца ў адзіны дыван недзе ўверсе, ліяны, што даўгімі безжыццёвымі канатамі звісаюць да самай зямлі, нерухомае, з мірыядамі казюрак, паветра. Казюркі мітусяцца ў гэтай жэшкай задушлівасці, абляпляюць твой твар, рукі, шукаюць якую шчылінку ў адзенні, каб да крыві раз'есці скуру.

І паўсюль цішыня. У гэтай цішыні, у самай нетры, невялікая палянка, дзе ў засені дрэваў стаіць ашрам. На палянцы крыніца, усе — і вучні, і махатмы — у спёку схіляюцца над чыстай вадой, каб абмыць твар і адчуць яе смак. Часам К. здавалася, што там, у далёкім ашраме і ён; вакол няспешнасць жыцця прыроды, простыя і глыбокія словы не аб штодзённай мітусні і тлуме, але пра мэту, чалавечае прызначэнне і сэнс.

Але ў сапраўдным жыцці было іначай. Бракавала, напэўна, галоўнага, што адрознівала пустэльню ў лесе — лагічнасці і паслядоўнасці. Тут, у гэтым жыцці, пачатак ніяк не вязаўся з канцом, у вынікаў адсутнічала прычына і нішто не мела працягу.

К. апаноўвала апатыя. За год ён стаміўся, абрыдлі кнігі, праца, ён знікаў з бібліятэкі, бязмэтна бадзяўся па парках, любіў падысці да Свіслачы. Каляровыя плямы бензіну на вадзе выклікалі пачуццё пратэсту.

Аўтобус, якім К. вяртаўся дахаты, заўжды быў перапоўнены. Асабліва непрыемна гэта было менавіта ўлетку, калі ад распараных людзей пахла потам, брудным, нямытым целам, калі цябе з усіх бакоў сціскала гарачая, ліпкая маса. У аўтобусе з яго літаральна выціскалі вантробы, і калі ён выходзіў на сваім прыпынку, то колькі хвілін стаяў нерухома, спрабуючы прыйсці ў сябе.

Ад прыпынку дадому ісці было недалёка: вузенькім праходам паміж дзвюх аднолькавых камяніц, потым голым, быццам бубен, дваром, дзе рэдкія дрэвы заўжды стаялі з абламаным голлем. За бруднымі сценамі камяніцы цякло бязладнае жыццё. У кожным з маленькіх задушлівых катушкоў яно было сваё. К. нібы бачыў яго: у адной кватэры п'яны мужык на горкі яблык збіваў ціхмяную жонку, якая толькі задушана ўсхліпвала пад цяжкімі кухталямі, у другой — раз'юшаная жонка ганяла па хаце змучанага мужыка; у адным пакоі маладыя, забыўшы ўсё на свеце, ніяк не маглі насыціцца адзін адным, а па суседству, у раскошных апартаментах, маладая прыгожая шлюшка, прысеўшы негліжэ на крайчык ложка ў стылі рустык, нахабна патрабавала яшчэ чырвонец у дрыжачага ад жадання старога; на адной кухні гаспадыня рабіла рэвізію нарыхтовак, цягнучы да авансу, а за сцяной мажная маладзіца патрабавала ў мужыка грошы на французскую касметыку.

Кватэра сустрэла яго нежылым духам, К. паставіў рандолу на пліту і выраашыў нарэшце сабраць заплечнік. Да адпачынку было яшчэ далёка, амаль цэлы месяц, але ён не любіў спяшацца, дый зборы давалі адчуванне набліжэння да мэты: з кожным скруткам недасяжныя горы рабіліся ўсё бліжэй. Ён знайшоў спіс, які склаў кагадзе, і пачаў акуратна збіраць усё, адзначаючы ў ім.

Макароны зварыліся хутка, гара рэчаў у куце не паспела нават вырасці. Зборы крыху паднялі настрой, К. вырашыў з гэтае нагоды пабаляваць — выцягнуў з халадзільніка маленькі кавалачак паляндвіцы, узважыў на руцэ, з жалем адпалавініў і рэштку паклаў назад. Фатаграфія жонкі, адзіная, што засталася ў яго, стаяла на стале. Седзячы насупраць, К. жаваў паляндвіцу і размаўляў з жонкай.

Пасля вячэры ён хацеў збірацца далей, але нервовы дзень даваўся ў знакі, няўхільна цягнула спаць, К. крыху павагаўся, але стома перамагла, амаль скрозь сон ён разабраў ложак і хутка заснуў.

Раніца была бадзёрая, свежае паветра струменіла праз адчыненыя дзверы гаўбца. К. любіў такія часы ўлетку, яны хоць трохі давалі адпачыць ад дзённай спёкі, галава рабілася свежая, думкі цэльныя і паслядоўныя. Такімі раніцамі К. выходзіў з хаты раней, каб прайсці крыху далей — там у аўтобусе было не так тлумна. Сонца яшчэ не ўзышло, і прывід змроку захаваўся ў шатах дрэў. К. ішоў даўгімі прысадамі, што цягнуліся паралельна дарозе, сустрэчных такім часам не было — усе адразу спяшаліся па аўтобусах, людзям было не да шпацыраў. Абапал прысадаў раслі кусты, у якіх хаваліся ўтульныя лаўкі; К. ішоў няспешна, на поўныя грудзі дыхаў, смакуючы тонкі водар зеляніны, што за ноч трохі аджыла ад дзённае спёкі. Недалёка ад прыпынку, на адной з лаў, К. убачыў парачку: дзяўчына сядзела, закінуўшы галаву назад, на яе вуснах блукала нейкая адсутная, нетутэйшая ўсмешка, у яе на каленях ляжала галава хлопца, ён нешта казаў, дзявочыя рукі раз-пораз пяшчотна прыкрывалі хлапечыя вусны, нібы пазбаўляючы яго права на працяг, але праз імгненне зноў усё вярталася на кругі свае. Было падобна, што вось так, разам, яны правялі ўсю ноч і нават зараз ніяк не маглі развітацца.

К. усміхнуўся, але на душы зрабілася непамысна; згадаліся свае спатканні, бяссонныя ночы, калі забываў аб усім на свеце, потым думкі нейкім чынам перайшлі на К'еркегара, якога К. чытаў апошнім часам. У К'еркегара жыццё было простым і зразумелым, бо каранілася на адной, магчыма ў нечым і слушнай, думцы: на ўсіх тваіх учынках, думках, памкненнях накладзена адна пячатка — смерць, нябыт, знікненне цябе. Гэта страшна, але гэта сапраўды так — ужо праз дзесяць гадоў аб табе не ўзгадае ніхто, толькі лепшы сябра і дзеці, а праз дваццаць гадоў нават дзеці з цяжкасцю прыгадаюць, які ты быў. А яшчэ праз колькі гадоў нават твой нашчадак, у якім ёсць яшчэ заўважная часцінка тваёй крыві, спатыкнецца аб твой магільны камень і нічога не падумае... І ты скончышся.



**Стах ДЗЕДЗІЧ**



## АПАВЯДАННЕ

К. не падабалася перспектыва гэткага канца, ён разумеў Герастрата, які хаця б дзеля бессмяротнасці ў памяці людзей пайшоў на смерць. Але ад гэтага разумення К. не рабілася лягчэй, бо калі зараз (нават зараз!) ён спрабаваў узнавіць у памяці апошнія гады, яны падаваліся аднолькавымі, як бясконцая анфілада пакояў, якія ты праходзіш, не спыніўшы вока. У гэтай шэрай аднастайнасці адно вылучаліся шабашкі, вандроўкі, першыя месяцы шлюбу. І арыентавацца ў гадах можна было толькі па гэтых яркіх плямах.

Шабашкі цягнуліся яшчэ з універсітэта, з будатрадаў. Увачавідкі бачыў К. перапоўнены цягнік спецфарміравання. Ён ішоў абдзёрты, з выбітымі ў тамбурах і прыбіральнях шыбамі, а ў вагонах віравала шалёнае, ні на што не падобнае жыццё: у перапоўненых купэ звінелі гітары, большасць хадзіла са шклянымі вачыма, лінейныя камандзіры рабілі выгляд, быццам нічога не заўважаюць, а занальнае начальства раз-пораз праходзіла па вагонах, рэквізуючы карты. А за акном — тайга і азёры падступаюць пад самую каляіну, так што часам здаецца, што насып проста падзяляе ваду на дзве паловы. Памятаў К. і як прачнуўся ўночы на сваёй, з цяжкасцю адваяванай, другой паліцы, ад таго, што па спацелай руцэ пацякло нешта цёплае і ліпкае. У цемры К. не адразу ўцяміў, што ён і дзе ён. Лямпы былі ўжо згашаны, вагон кідала на стыках, у такт штуршкам пустая бутэлька, забытая некім, перакочвалася ў праходзе. А над ім, на трэцяй паліцы, нешта стагнала і варушылася. Ён падняўся паглядзець, у слабым святле начніка з суседняга купэ бялела ў цемры жаночая нага, якая то згіналася, то разгіналася ў такт рыпенню, матляла рукавом з новенькімі нашыўкамі кінутая пад галаву куртка, астатняе хавала цемра.

Яшчэ ў памяці малюнак, ужо з другога атрада. Зноў ноч, серабрыстая цёплая казахстанская ноч. Сяйво месяца робіць стэп і кавыль прывідамі, яны на пляскатым даху, ад сяйва таксама срэбныя.

Толькі што, знямоханыя, выцягнутыя да апошняга — сёння ўвесь дзень лілі бетон — яны прыйшлі ў лагер, папілі халоднай гарбаты і палезлі спаць. І няма ніякіх ні думак, ні жаданняў, усё выгарала, выцвіла пад бязлітасным сонцам, нават сны сняцца аднастайныя, як стэп пасярод лета. Але гэтым разам сніласа нешта вар'яцкае — вялізны стол, увесь застаўлены ежай, ён хапае кавалкі мяса, скрылі каўбасы, цэлыя памідоры і піхае усё ў рот. Але гэтага яму мала, пад руку трапляецца кельма, уся ў нацёках рашчыны, ён чэрпае кельмай салату і зноў адпраўляе усё ў рот.

Канечне, той, хто ніколі не жыў гэткім жыццём, ніколі не здолее зразумець, навошта чалавек выбірае непрытульнасць, нязручнасць, стому да знямогі. Гэтага не мог растлумачыць і К. Не мог ён растлумачыць і таго, чаму аднойчы, ужо пасля універсітэта, плюнуў на ўсё, узяў месяц сваім коштам і паехаў мужчынскай кампаніяй на шабашку.

У пакоі, які штогод ім адводзілі, было чатыры ложкі, стары, цяжкі, надзейны стол з парэзанымі краямі стальніцы, яны яшчэ зрабілі з дошкі-цалёўкі палічку, на якой расклалі свае дробязі. За акном было паўночнае сонца, што не хавалася зараз за поземам, высокія прыступкі, на якіх яны часам спявалі ў ахвоту.

Пасля таго як яны ўжо паслалі падлогу, К. раптам працяла думка: усё, хутка з'язджаць. Сякера, што стаяла ўторкнутая пад кутом у маснічку, ясным абрысам была намалявана на фоне адчыненых дзвярэй і нібыта таксама сцвярджала: «Так, хутка канец». І разам з гэтым канчалася, хавалася ў глыбіні душы цэлае жыццё, абсалютна іншае, не падобнае на тое, якім ты жыў дагэтуль і якім будзеш жыць пасля. Супакойвала толькі тое, што па табе застанецца добры след на зямлі.

У цягніку дадому гарадскі клопат паступова апаноўваў усіх, а пачуццё ўнутранага разнявольнення хавалася пад тоўстую абалонку, як зерне ў раллі прыкрывае да часу тоўстая скіба зямлі за аратым.

□ □ □

Узяць білеты ў Горна-Алтайску было цяжка. Вакзал быў перапоўнены, бадзягі, такія самыя, як і яны, спалі на каберцах проста на бетанаванай падлозе. К. днямі блукаў па наваколлі, праз рэчку падымаўся на невысокія адгор'і хрыбта Іялга, з іх укрытых тайгой вяршынь добра быў бачны ўвесь горад, шчыльна заціснуты ў даліне.

Ехаць ім было далёка, аўтобус выходзіў на золку, доўга караскаўся ўверх і асцярожна спускаўся ўніз, спыняўся на абед, і ўрэшце, ужо прыцемкамі, яны даехалі да невялікай рачулкі, сваёй першай мэты. К. выйшаў адным з першых, спрактыкавана прымаў заплечнікі, што выкідалі з цёмнага жарала аўтобуса.

Чырвоныя агеньчыкі схаваліся за паваротам дарогі, і яны засталіся адны ў цемры. Недзе ўнізе гаманіла рака, грукатала ў камянях, пад парывамі ветру часам нешта прамаўляла тайга. Шацёр паставілі хутка. Маленькае цяпельца ледзьве разганяла цемру, усе сядзелі каля яго засяроджаныя, поўныя сваіх думак і міжволі ўрачыстыя. Усе слухалі горы, і перапыніць гэтую размову было б сапраўдным святатацтвам.

Назаўтра зранку дзяжурныя падняліся са святлом — пачаўся нармальны расклад вандроўкі. К., хаця была не ягоная чарга, таксама вылез з шатра. Сонца яшчэ ледзь-ледзь ружавела на пакрытых снегам вяршынях. К., з прыемнасцю адчуваючы холад лёду ў вадзе, памыўся, накінуў анарак і прысеў каля вогнішча. Катлы ўжо стаялі, каша пачынала булькатаць, быў той кароткі момант, калі ў лагеры ўжо няма чаго рабіць, але падымаць другіх яшчэ рана. У нейкі момант ён згубіў адчуванне рэчаіснасці, задумаўся аб нечым сваім, потым схамянуўся — над вухам нехта моцна фыркнуў. К. азірнуўся — каля лагера, нібы раптам вырас з-пад зямлі, стаяў вершнік. Невялікі, насуплены, у махнатым каптуры, нібы прырослы да спіны каня, ён моўчкі глядзеў на К. Ад ракі падышлі дзяжурныя, таксама знямела глядзелі на конніка. Пастаяўшы яшчэ якое імгненне, чалавек злёгку сціснуў каленямі конскія бакі, конь паслухмяна зрабіў крок наперад, трапіў проста ў гарачы прысак, але нібы нічога не заўважыў. Коннік яшчэ раз уважліва агледзеў лагер, сустрэўся позіркам з К. У позірку была нечуваная журба, журба чалавека, які бачыў бясконцыя прасторы, дзе шлях вымяраецца тысячагоддзямі гісторыі, дзе ў дарозе скуты ланцугом мінуўшчына і цяперашняе, сучаснасць і будучыня.

Пад вершнікам рыпнула скуранее сядло, конь бязгучна заматаляў галавой. Госць папраставаў праз рэчку; перад тым, як зусім схавацца за вялізным, памерам з хату, каменем, ён азірнуўся, устаў на страмёнах, працягнуў руку ўверх, да вяршынь, што ўжо магутна блішчэлі ў промнях сонца, і нешта кароткае крыкнуў. Плёскат ракі заглушыў словы, але К. усё-ткі разабраў адно: «Чысціня!»

□ □ □

Колькі б разоў чалавек ні бачыў засыпаныя снегам хрыбты зверху, з перавалу або вяршыні, яны кожны раз будуць здавацца іншымі, новымі. У гэтай навізне ёсць нейкі схаваны сэнс, і мы, людзі, увесь час будзем спрабаваць зразумець яго. Вы, горы, тысячы і мільёны гадоў стаялі халодна-недаступныя, велічна-суровыя, недасяжна-прывідныя ў сваёй грэблівай велічы. Мы прыйшлі да вас, але Я, чалавек, не скажу, што перамог. Колькі людзей ішлі вашымі грабянямі, рэбрамі, сценамі — усё адно вы застаяцеся недасяжнымі, вы застаяцеся эталонам нечага, што вечнай таямніцай відно ў смузе, прыхаванае туманам і прыкрытае вэлюмам. Мы хацелі стаць упоравень з вамі, каб вы маглі без пасрэднікаў, проста адкрыць тыя таямніцы, што захавалі ў сваіх ледавіках, але зараз, калі вы побач, калі я дакранаюся да вашых камянёў, я зразумеў — спадзяванні мае марныя. Мае дрэнныя думкі, кепскі настрой і эгаізм неадольнай сцяной паўсталі між намі, мае здрады і хлусня аддзялілі нас адзін ад аднога, не дазваляюць глядзець мне ў вашыя вочы-правалы. Вы сапраўды чыстыя, вы гэтага вымагаеце ад мяне, я адчуваю, як вашыя ледзяныя схілы пякучым полымем выпальваюць цаглінны гэтае сцяны, што яна развальваецца па каменьчыку, па драбочку. У гудзе гэтых камянёў я чую пытанне — пагрозу: «Нашто Вы, людзі, некуды ідзяце, некуды імкняцеся, нашто парушаеце наш спакой, нашу сумоту?». Гэтае пытанне і ў гуле вады сярод камянёў, у шуме галля пад ветрам.

А сапраўды, чаму ногі носяць нас па ўсім свеце? Ці не таму, што наша жыццё заўжды барацьба, змаганне, пераадоленне. Мы змагаемся — вучоба, праца, жыццё. Толькі самае галоўнае пераадоленне — гэта перамога над самім сабой. Унізе ціха, спакойна, цёпла, можна хадзіць асфальтам, можна смачна есці і спаць у мяккім ложку, баяцца самага маленькага скразняку і хутаць горла цёплым шалікам. Але калі ўсё рабіць будзённа, звычайна — гэта будзем не мы, не людзі, гэта будзе нешта шэрае, аднолькавае. І праз колькі часу мы ўжо і ўсвядоміць не здолеем, што гэта ўжо шэрае. Вось мабыць таму мы цяпер ля гэтых скал, стомленыя, змораныя, без сіл прываліліся да сваіх заплечнікаў. Хвіліну назад мы паміралі, з апошніх сіл перасоўваючы ногі, грузнучы ў снезе, цяжкім і ліпкім, набрынялым вадой і нашым потам. І здаецца няма сіл варухнуць нават пальцам, але ты мусіш біць бясконцыя прыступкі, бо інакш застанешся, як жук, іголкай прышпілены да дзеравяшкі, сярод бясконцай снежнай белі. І горы не заўважаць нас, як мы не заўважаем тых мурашоў, што мімаходзь расціскаем на лясной сцяжынцы, ідучы па грыбы; цябе засыпле снегам, прыкрые мяккай коўдрай лавіны, акрые ледзяным панцырам і ўзвядзе помнік з вялікіх камянёў. Але на гэтым помніку не будзе твайго імя і той, хто пойдзе потым тваім шляхам, не будзе ведаць, што гэта ты, ён проста абапрэцца на той камень, што прыкрыў твой ледзяны саркафаг. І камень той дапаможа яму дайсці туды, куды ты не здолеў. Лічы, што ты выканаў сваё прызначэнне — дапамог у сваім жыцці некаму.

Але мы прайшлі, пераадолелі маленькі кавалачак на шляху ўверх і цяпер, адпачываючы, мы бачылі далёка ўнізе лясы, што адсюль здаюцца мілымі і прыемнымі. І ўжо выпалі з памяці бясконцыя карчы і вываратні, кусты, якія імкнуцца зачапіцца за самыя неверагодныя месцы, перацягнуць па вачах, па твары, апячы рукі вострым шыпам. Прывідам здаюцца хмары камароў, гэты мільён лятаючых джалаў, што ўп'юцца ў цябе, прабо'юць усе штармоўкі і анаракі. У памяці застаецца толькі цуд таго імгнення, калі выйдзеш на якую палянку, поўную сонца, святла, цеплыні, убачыш велічэзна-велічны кедр ці лістоўніцу, якія адзінока-ганарліва стаяць пасярод яе, не зламаныя ніякай маланкай і навальніцай.

А паглядзіш трохі далей, калі не вачыма, дык у думках, убачыш імклівыя рэкі, якія нясуць у сабе ўсё, што трапляе ў іхнія пашчотныя, але адначасова ўчэпістыя абдымкі. Ты ідзеш над гэтай зялёнай імклівасцю па хліпкім, дрыготкім

бервяне, ледзь прытрымліваючыся за тоненькую нітачку вяроўкі — яна здаецца зусім не моцнай у параўнанні з бурлівай вадой — і не можаш глядзець на яе, на ваду; калі вока раптам учэпіцца за белы бурун ад схаванага на дне каменя, то цябе пацягне, зачаруе, завалае гэтая празрыстасць, і тады толькі надзея на сябра, на ягоныя рукі, што будуць трымаць тваё жыццё на тоненькай павуцінцы страхоўкі.

А яшчэ далей нябачныя нават з гэтай вышыні за лініяй позему іншыя перашкоды, іншыя цяжкасці. Там тлумныя ненажэрныя пачвары гарадоў, якія паглынаюць процьму людзей, перарабляючы ў аднолькавыя, быццам кланіраваныя істоты, і дзе немагчыма застацца адметным духам, асаблівым душой.

□ □ □

Так, у гэтым магутным жыцці гор не было месца такой дробязі, як К. Але зараз, на фоне натуральных і чыстых фарбаў, гэта зусім не бянтэжыла, страхі адступаліся, жыццё, здавалася, мае сэнс, як у тым далёкім, схаваным у лясной нетры, ашраме.

Ледавік Мёнсу плаўна выгінаўся і вёў уверх. Пабурэлы ад сонца снег набрыняў вадой і зусім не трымаў, вібрамы правальваліся ў яго, як у кашу. Яны ішлі дзвюма звязкамі, якраз была чарга К. ісці першым. За дзень цела ўвайшло ў рытм, рухі атрымліваліся вывераныя да аўтаматычнасці — нага, ледасек, зноў нага. Ясны ланцужок слядоў вёў уніз, уверсе быў толькі снег.

Трэшчын было мала, амаль усе раскрытыя, іх абыходзілі без цяжкасцяў. Сонца ўжо ішло на вечар, вось-вось яны мусілі выйсці пад скалы, дзе меліся спыняцца на ноч. К. усё часцей пагдядаў на гадзіннік — неўзабаве ўжо мусілі мяняцца звязкамі. Раптам нага замест цвёрдасці лёду адчула пустату, ён аўтаматычна паспрабаваў упасці назад, але снегавы мосцік не вытрымаў, абвязка балюча разанула грудзі і ён на імгненне страціў прытомнасць.

Акрыяў ён хутка. К. адчуваў сябе ў цэнтры гіганцкага крышталя, чые паўпразрыстыя сцены сонечнымі промнямі набывалі аб'ёмнасць. Лёд быў неаднародны, у ім вылучаліся стужкі зялянейшыя, болей празрыстыя, праступалі прывідныя абрысы нечага, замураванага ў тоўшчы. К. паглядзеў уверх, дзе паміж зеленаватымі гладкімі сценамі праз дзюрку, прабітую ім у снезе, бачны былі высокія белыя хмары; заплечнік згубіўся недзе ў бездані ўнізе, сам К. марудна круціўся вакол у двух метрах ад бліжэйшае сцяны. Абвязка перацiскала грудзі, К. пачаў задыхацца, перад вачыма паплылі ружнакаляровыя плямы, але раптам ён згадаў пра пятлю на назе, з апошніх сіл падкурчыў ногі, расслабіў чапельны вузел, пасунуў яго як мага вышэй, колькі хапіла рукі, выпрастаў нагу. Вузел не праслізнуў па вяроўцы, адразу схапіўся, вяроўка да груднога карабіна аслабла, і ён нарэшце здолеў расслабіць абвязку. Ад прыліву крыві зазвінела ў вушах, ён дзвюма рукамі прыцягнуўся да вяроўкі паблізжай, і нават сляза раптам выкацілася з ягонага вока. Пятля таксама перацiскала нагу, але гэта зусім не замінала дыхаць.

Наўкола пацямнела — напэўна, наверсе сонца схавалася за якую гару. Вяроўка не варушылася, яму раптам зноў зрабілася страшна — чаму ніхто нічога наверсе не робіць, чаму не спрабуюць цягнуць, чаму нічога не чуваць? Ён паспрабаваў разгайдацца, але толькі бездапаможна боўтаўся — не было ад чаго адпіхнуцца, потым пачаў крычаць, валаць наверх, але ў адказ не даносілася ні гуку. К. здалося, што ён трапіў у велічэзны крышталёвы саркафаг, вось зараз апусціцца цяжкае века — і будзе пахаваны назаўжды. Холад ад ледзяных сцен пачаў працінаць яго, К. дрыжэў — апрануцца не было як, вопратка разам з заплечнікам была недзе там, у бездані. Нечакана вяроўка здрыганулася, К. паляцеў некуды ўніз і раптам з дзіўным спакоем падумаў, што там, уверсе, востры выступ вырашыў ягоны лёс. Але падзенне рэзкім рыўком спынілася, потым ён пачаў марудна падымацца з цемрадзі наверх, туды, дзе ён зноў мусіў нарадзіцца на зямлі. А наверсе ледзяныя волаты паглядзелі на імгненне на яго з вышыні сваёй недасяжнасці і зноў забыліся на ягонае існаванне.

□ □ □

Самалёт прылятаў на Мінск-1. Яны разам атрымалі багаж, звыкла закінулі цяпер ужо бязважкія заплечнікі на спіну, за руку развіталіся і разышліся. Ужо пачыналася гадзіна пік, тралейбусы ішлі перапоўненыя. К. ледзьве ўціснуўся ў заднія дзверы, натоўп шчыльна сціснуў яго. Пасля свежага паветра ў К. закружылася галава, было мляўка. Ён ледзьве датрываў да перасадкі, з палёгкай выдыхнуў, прагна хапаў паветра. Але тутака было не лепей, вецер цягнуў ад ліцейкі, у К. пачало дзерці ў горле, ён старанна стрымліваў кашаль, але не стрымаў. Кашляць было балюча, ён пляваў чырвоную сліну проста на асфальт — пасля падзення ў яго балела ў грудзях, але там ён крыві неяк не заўважаў.

Аўтобус падышоў такі самы набіты, але К. усё-ткі ўціснуўся — хутчэй хацелася дахаты. Яго зноў абступілі камяніцы, навіслі над ім, закрываючы святло, К. адчуваў, што за гэтымі сценамі таксама нічога не змянілася: тутака пілі, тутака спалі, тутака марылі, а за гэтым акном аддавалі свае цела. Усё было як да вандроўкі, хіба толькі болей было пылу на вуліцах, болей выгарала лісце на дрэвах, ды зусім стапталі чэзлую траву.

Каля дзвярэй аўтобуса голасна выпінаўся п'яны мужык, людзі моўчкі крывіліся і адварочваліся. К. трэба было выходзіць, ён патроху праціскаўся бліжэй да выхаду, п'яны апынуўся проста перад ім. Мужык, напэўна, вырашыў, што з'явіўся варты ўвагі аб'ект, пачаў чапляцца. К. маўчаў, думкі ягоныя былі далёка адсюль. Дзверы адчыніліся, К. памкнуўся выходзіць, п'яны з раптоўнай учэпістасцю ўхапіўся за заплечнік, К. ірвануў на сябе. Мужык доўга і груба вылаяўся і харкнуў наўздагон К. Сліна трапіла на каўнер, на шыю, К. хацеў нешта зрабіць, але аўтобус зачыніў дзверы і паехаў. Ён знайшоў у кішэні нейкую скамечаную паперку, як мог выцер каўнер, але адчуванне брыдкага і гідкага засталося. Ён старанна выціраў шыю, але гэта не дапамагала, наадварот, брыдота распаўзлася па ўсім целе, урэшце К. перасіліў сябе і рушыў дахаты.

У кватэры ўсё было пакрыта тоўстым слоем пылу, ён скінуў лямкі і адразу палез пад душ, потым, каб не запэцкацца, выграб усё з заплечніка, а яго пацягнуў у ванну мыць. Вада на хвілінку зняла непрыемныя адчуванні, але калі К. пачаў мыць кашулю, усё вярнулася зноў. Мокрую кашулю трэба было недзе павесіць сохнуць, К. пакорпаўся ў рэчах, выцягнуў з-пад нізу змаркіраваную вяроўку (яе аддалі на памяць пасля расколіны), адным канцом прывязаў да ражка люстры, другім да трубы ацяплення, што ішла пад столлю з панелі ў панель. Вяроўка была доўгая, канец яе ляжаў на падлозе. К. падышоў да акна, паглядзеў на мурашнік на падворку, потым паглядзеў на вялікую рэпрадукцыю: стэп, аранжава-чырвоны, далёкія блакітна-ліловыя горы, напаўпрывідны, ірэальны вершнік, наструнены некуды ўдалячынь. Потым у галаве мільганула, што на такім даўгім канцы, напэўна, можна і не вязаць кантрольны вузел, пальцы спрытна зрабілі пятлю, і праз імгненне, здзіўлены сам сабе, К. зрабіў крок з зэдліка ўніз.

Праз адчыненыя дзверы гаўбца вецер яшчэ данёс да яго пах ці то прагорклага, ці то скіслага піва; потым ён убачыў яркі малюнак — ягоная жонка стаіць каля адчыненых дзвярэй з вялізным вандзэлкам, глядзіць проста ў вочы і ціха кажа: «Мне не патрэбен новы Хрыстос!». Потым дзверы за ёй ціха зачыняюцца, і далей ідзе толькі бясконцая цемра.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# ПАЭЗІЯ

## Святлана САЧАНКА



Насунула цёмныя хмары,
Залева струменіць па шкле.
Вясновыя лёгкія мары
Дождж холадам-сцюжаю б'е.
Патхне толькі свежасцю вечар —
Адна я прайду па траве...
Не будзе? Не трэба сустрэчы!
Няхай табе верш душу рве!

### Санет

Паміж іржавых сцёртых медзякоў
Ты быў адзінай залатой манетай...
Маўчы, лепш не кажы разумных слоў:
Нас пераехаў лёс цяжкой карэтай,

Каб, разлучыўшы нас, забраўшы ўсё,
Пакінуць успамін аб нечым светлым,
Які гарэў бы верна праз жыццё
І грэў душу салодка і прыветна...

Я, лічачы старыя медзякі,
Знаходжу залацінку... Не забыцца,
Што я табе не падала рукі,
Не напілася з чыстае крыніцы!

Застаўся толькі боль. Душу пячэ
Нясцерпна, невыносна... Хлопча мілы,
Трывожыш маю памяць ты яшчэ.



Бялюткая сняжынка спыніла хуткі лёт.
Яна на раздарожжы: на захад ці на ўсход?
У лёгкім задуменні ў міжвольным харастве,
Растопленая сонцам — жыве ці не жыве?

Ужо цёплаю вадзіцай сцякае па зямлі
Да мора далучыцца няведама калі.
Знікаючы ў сінечы, салёнаю расой
У твар раптоўна пырсне, парушыўшы спакой.

А бераг дзіўны, новы
Пад хвалямі шуміць —
Катаецца каменне,
Вада бяжыць, бяжыць,
Агонь паволі гасне
На вежы маяка...
Самотна, вольна, ясна.

І болей ні радка.





Я памяняла мітуслівы тлум
Шырокіх і бясконца брудных вуліц
На звыклы ціхі сум чароўны сум
Які аловак да паперы туліць

Павук да ніці далучае ніць
І вось у творы ніці ўсе спляліся
Празрыстая хусцінчака ляціць
Каб зачапіцца за калючкі ўнізе

У келлі змрок адна сяджу вару
Напоі з зёлак даліваю слёзы
Глытаючы зіхоткую зару
Няхай п'янее той хто быў цвярозы

Нясу на свет няпэўнаю рукой
Вялізны да краёў наліты кубак
Ён плешчацца чырвонаю расой
І прагна п'юць яе чыесьці губы

Магутны вецер павуцінне рве
Зашмальцаваны кубак ўраз пусцее
Ды боскі дух яшчэ відаць жыве
Спляценне словаў пакрысе гусцее

Каб разарваным быць дапітым быць

# Прыступкі да чалавечай душы



Кожную раніцу, пасля малітвы, фіззарадкі і кавы, айцец Леанід спускаецца ў храм. Дзесятак мураваных прыступак аддзяляюць ягоны прыстанак ад месца святатворства. Кожны крок па вінтавой лесвіцы скарачае адлегласць паміж двума асяродкамі — зямным і нябесным, часовым і вечным. Гэта кароткая дыстанцыя проста неабходна, каб вызваліцца ад будзённых думак і думаць толькі пра Яго, каб пакінуць свае словы і несці Ягонае слова. Наверсе, у пакоях пад скляпеннямі, застаюцца любімыя кніжкі святара, фарбы і пэндзлі, якімі ён аднаўляе папсаваныя часам абразы. І яшчэ вялікі чорны дог па клічцы Цэзар, які сваім барытонам нярэдка парушае векавую цішыню пакояў.

Нібыта тыя прыступкі, мінаюць і гады, пражытыя ксяндзом у Іўі. Пражытыя на карысць братам і сёстрам, у нястомным служэнні Яму, падмацаваным добрымі справамі.

— Самае галоўнае, што мне ўдалося за гэты час зрабіць, гэта распачаць і амаль скончыць рэстаўрацыю будынка касцёла бернардзінцаў,— з гонарам, але без ценю выхваляння заўважае айцец Леанід.

Старажытны помнік даўно чакаў такога руплівіца, і ён па міласці Божай з'явіўся ў асобе Леаніда Несцюка — выхаванца Каўнаскай духоўнай семінарыі, заўзятага аўтагоншчыка, кандыдата ў майстры спорту па ралі. На пасадзе іўеўскага святара айцу Леаніду заставалася так мала часу на спаборніцтвы, на далёкія вандроўкі па краіне і за яе межамі, што неўзабаве адзінай справай яго жыцця стала духоўнае адраджэнне грамадства. За гэта сёння малады (яму ўсяго толькі трыццаць пяць) ксёндз мае вялікую пашану ад тых, да каго штораніцы і штовечар спускаецца па мураваных прыступках. Ідзе, каб лячыць душэўны боль, каб падказваць шлях да здароўя цялеснага. І яго з хваляваннем чакаюць тыя, хто прагне пакаяння, суцяшэння і ўзвышэння.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

Анатоль
КАЗЛОЎ



# Крывавы прысмак

Завіруха. Нябачна ні дрэў, ні хат. Снежныя сумёты замест дарогі і сцежак. Абламанае голле з вербаў застылымі пачварамі чапляецца за рэдкія частаколіны плоту. Стогнуць і галосяць сіратлівыя журавы калодзежаў. Яны перагукваюцца па вёсцы, адмольваюць у няшчаднага ветру вырataванне. А ён раздзімае грудзі, шчокі і гоніць абтрапаную і разбэрсаную завіруху па хлявах і дахах хат, прыбівае гаротную да сцюдзёных сляпых акон.

А нікога-нікагусенькі на вуліцы. І толькі гоман на Петраковым загуменні. Ды з далечы, з-за рэчкі, цягнецца ланцуг бялютКіх зданяў. Побач з імі снег сажай здаецца. І вецер з завірухай непасільны пашкодзіць іхняй хадзе. Нясуць нябожчыкі крыжы з асінавага дрэва. І тут з рыпам і грукам ляснуліся плашмя вароты ў Петраковым гумне і высыпалі ў ноч, на свежы снег нячысцікі. Гундзіла выраўняў зграю ў шыхты, выхапіў з-пад пахі прыпалены квач і ўсклікнуў:— Дзеці мае, дзеці прадонняў, граху і здрады — зараз будзе вялікі бой! Ці гатовыя вы?!

— Угу, гатовы! Давай бой!

— Ці ўнюхалі асіну? Яны ўжо побач. Запалім жа квачы і подбегам пад вокны. Я стану на дзвярах, а вас з дзесятак у комін.

Пятрок у хаце паміраў. Арына з лямпай стаяла каля яго галавы, выцірала ручніком пот з запалых вуснаў і вачніц.

— Падай вады пасоленай! Густа пасалі, не шкадуючы. Цяпер змачы мае ногі, палі на рукі і ўспырсні на лоб. Во, лягчэй стала. Ты б, Арынка, клікнула Гундзілу. Хачу яму мовіць нешта.

— Петрачок, баюся. Не перасільвай. Я кажу — усё наладзіцца: адпусціць твая хвароба. Ці ўпершыню нам?

— Душыць смерць. Цісне горла погань кашчавая. Клікні, Арынка, Гундзілу, упусці ў хату...

Але ўстрасянулася і загойсалася ўмёрзлая зямля за вокнамі. Пахіснуліся сцены, пакаціліся па падлозе стол, услончыкі і канапа. З боку на бок пераваліўся куфар. Глухім стрэлам пачуўся трэск зламаных дрэў.

— Ратуй, Арынка?! Прыкрый сабою?!

Пятрок завыў глыбока і працяжна. Лядашчы голас біўся аб столь. Усё цела яго скурчылася ў камяк.

На вуліцы ж, каля Петраковай хаты, сышліся сілы моцныя, сілы гнёткія ды ёмкія. Прывялі нябожчыкі Смерць-матухну па Петракову душу. Прывялі ўсім суладдзем: ад хліпкіх старцаў да хісткіх немаўлят. Жанчыны з косамі распушчанымі, мужчыны з голымі грудзьмі — усе да аднаго націскалі на шыхты нячысцікаў. Ламаліся крыжы асінавыя, успыхвалі агнём здані бялютКія. І мелі б усе яны кроў і плоць — патанула б Петракова хата, сплыла б у Нёман вялікі вёска ад крыві-крывушкі.

Завіруха ж мацнее, круціць спадніцай, бязглуздая, і няма на яе ўправы ніякай. І ўладарыць ноччу вецер. А воддаль, за першым колам нябожчыкаў, якія змагаюцца з нечысцю, стаіць у чаканні атрад незлічоны. То ўсе шыбенікі ды тапельцы, палкім зеллем атручаныя — усе загублены Петраковымі рукамі. Чакаюць яны чаргі сваёй, Смерці-матухне сцежку пракласці. Толькі ж сцеражэ дзверы Гундзіла, абляпілі вокны д'яблы. І на стрэхах яны, і паўз сцены. Не пракацццца з-за шчыльнасці іхняй і макавінцы да Петраковага котлішча.

— Арына, Арыначка, дай нож! Хутчэй! Не вытрымае напору Гундзіла. Клікаць мушу дапамогу.

— Пакарыся лёсу, Пятрок. Выйдзі сам з хаты. Не выратавацца сёння.

— Падай нож, ламіна! І не сёрбай соплямі!

— Як я падам? Цябе ж б'е калатун. Ляснешся на падлогу і яшчэ зачісне канапай ці куфрам. Усім сваім целам цябе трымаю.

— Прывяжы вяроўкай ці якой хусцінай да лежака. Ну чым-небудзь, а сама нож мне, нож!

— Сасмылела б яно ўсё прахам. Каб маё веданне, з кім рукі злучыла, каму сэрца ўверыла!

— Ну цыц, цыц ты! Не хлюпай сапаткай. Няўжо карціць удавою застацца? Наракаеш яшчэ. Тут дыхаць няма чым. Чую: падступаюць смертаносцы да сценаў. А Гундзіла бяссілы. Нож, Арынка, нож падай?!

І яна састуціла. Ракам папаўзла да стала, выграбла посуд і вобмацкам намацала каваны нож. Спатыкаючыся, кідуном кінулася да пасцелі. Але затрашчала столь. Каля парога, паўз печ, лопнула фанерная абшыўка, і ў хату пасыпаліся ашалелыя мышы. Яны, як пераспелыя грушы-гнілушкі, мякка шлёпаліся аб масніцы і вокамгненна знікалі па зацемненых кутках.

Арына саўганула нож у Петракову руку. Ён, задыхаючыся, успароў руку вышэй локця. Пырснула кроў.

— Пі, Гундзіла! Піце, дзеці яго! Набірайцеся сілы, бараніце сцены. Кроў даю з душою, з той часцінай, якую меў яшчэ.

Кроў не паспявала ў Петрака збегчы з рукі на пасцель, а ўжо знікала. Выпаралася і шызавата-чырвонымі паскамі плыла да шчылін у дзвярах паўз парог, да шыбін акон, у загнет печы.

— Арына, давай сваю руку. Мяне аднаго не хопіць. Не пужайся, гэта не балюча. Жыгну, як камар, і ўсё — ніякага пярэпалаху.

— Не, Пятрок! Не! Не бяры лішні грэх, не пікай на згубу. Я і так па самыя шчэлепы ў багне. Скарыцца трэба.

— Скура ты свінячая. Няма ў цябе шкадобы і жалю. Дык нясчуеш ты і нязбачыш спакою ніколі — ні цяпер, ні пасля згубы маёй. Апошнія кроплі крыві-крывіцы ахвярую вам, русаліцы-дзявіцы. Ой, бегма бяжыце ды лётма ляціце на могілкі нашы, магілы разамкнёны. Палягце вы ў труны нябожчыкаў збегшых, на скобы вазьміце ўсе ўваходы і выйсці. Каб яны стогнам стагналі, прытулку не малі, без мейсца хадзілі, вадзіцу муцілі. Русаліцы-красны, чароўны дзявіцы, заняўшы магілы, сароку пашліце, каб вестку данесла да зданяў бясплотных, што йны ўжо не маюць ні мейсца, ні ложа!

Пятрок спрытна зацІснуў рану на руцэ. Кроў спынілася.

З вуліцы ж хата акручвалася новымі і новымі радамі нябожчыкаў. Гундзіла з д'ябламі не паспяваў адбіваць цапамі бязмежнае нашэсце. Смерць-матухна здавалася во-во дакранецца выстуджаных завірухай і ветрам сцен Петраковай схованкі. Нябожчыкі чапляліся за поўсць д'яблаў, хмелем абвіваліся вакол іх, сціскалі ім глоткі. Нячысцікі валіліся, як падгніўшыя дрэвы ад навальніцы. Гундзіла губляў сілу. На яго без перадыху наступалі і наступалі загубленыя Петраком здані. Яны здымалі са сваіх шыяў вяроўкі, накідвалі Гундзілу на рукі, рогі — гуртам цягнулі з месца. Другія ж пляваліся атрутнай слінаю ў вочы бацьку нечысці.

— Налівайце вакол хаты смалу! Цягніце ўсю, што ёсць! — Гундзіла аддаваў распараджэнні, не адступаючы ад дзвярэй.

Некалькі тузінаў д'яблаў шуснула ў гумно. Па снезе пакаціліся бочкі, ад якіх патыхала жарам і растопліваўся снег. Пад самымі сценамі лопаліся на бочках кляпаныя абручы, і смала па прачэрчанай баразне расплывалася жывым ручаём. Гундзіла кінуў запалены квач, і ўстрапянулася полымя, разрываючы цемрадзь. Заенчылі нябожчыкі, адхінаючыся ад агню. Зарагатаў Гундзіла, у экстазе запішчалі, заскавыталі д'яблы. Толькі працягвалася гэта не даўжэй за водбліск маланкі. Тапельцы з падолаў, прыгаршчаў выплёхвалі ваду на агонь. Ён захлёбваўся і ўрэшце падаваўся пругкім клубком дыму.

— Вось і ўсё. Чую пад сэрцам холад. Арына! Арынка, дай ратунку! Зашчапі дзверы, чапялішнікам загарадзі. Ну рабі ж што-небудзь.

— Ці не дзёўбнуўся ты галавою?! Які чапялішнік на зашчэп? Не ад людзей жа баронімся. Чым жа табе пасобіць, мой ты Петрачок?

— Просам ды каноплямі абсып падлогу. Няхай спатыкаецца, сука кашчавая. Пакуль дабярэцца — павываротвае свае дылды. Усе мяшкі высыпай. Пад парог і вокны — купкамі... Як апруцянею, Арынка, столь узарвеш над покутам. І глядзі не збывай коней. Сама хоць адну ваду сёрбай, а кабылы каб пры доглядзе былі. Казу зарэжаш на дзевяты дзень, памажаш вуглы ў хаце і гумне.

— Ды што ты, Пятрок?! Яшчэ курачка ў гняздзечку, а ты з патэльняй носішся. Наладзіцца. Гундзіла хутчэй сам сасвяжыцца, чым да цябе смярцінішчу дапусціць.



— Тады дай крыві на яго сілу.

— Пад сякерай не зраблю етага.

— Ну знацца...

За акном засакатала сарока. Пятрок улавіў яе голас сярод вэрхалу, ляску і енку. У істэрыцы забіліся нябожчыкі. Яны зліліся гуртам. Напор на Петракову хату аслаб. Гундзілу з д'яблам палягчэла.

— А магілы то русаліцы занялі. Ніводнай труны вольнай! Ваюйце ды біцеся, хату прыступам бярыце, а назад не вернецеся. На скобы каменныя ўваходы замкнёны.

І вецер прыціх, і завіруха ўшчукла. Ноч праблескам маладзіка пракаўтнула навіну. А сарока была ды і няма. Шуснула дзесь пад страху. Нядоўга мешкаліся нябожчыкі. Што не кажы, а выганяць русаліц прыйдзецца. Толькі ж і прыступ на хату здымаць не варта. І тут Смерць-матухна слова ўзяла:

— Мне прытулку не трэба. Я застаюся, а са мною самагубцы. Іхнія магілы за ровам вялікім, туды ніхто не пасквапіцца легчы. А вы ўсе назад. Гонам ганіце распусніц нехрышчоных. Арэлі спляціце з бярозавага голля і часта паразвешвайце над крыжамі.

Петраку палягчэла.

— Арына, дай-ка жыдкай бульбы. Есці захацелася. Сасмягла ўсярэдзіне. Бач ты, русаліцы паслухалі. Трэба будзе адправіць ім двух ці трох хлопцаў палашчыцца. Вясной аддзячу.

А на вуліцы, ад Петраковай хаты, у бок могілак пацягнуўся ланцуг зданяў. Жанчыны неслі на руках знясіленых дзяцей. Мужчыны, быццам косы на плячах, трымалі цэлыя і зламаныя крыжы. Смерць-матухна з ладным гуртам засталася пад сценамі. Зноў насцярожыўся Гундзіла, натапырыліся д'яблы. Нечакана боўкнуў звон на званіцы вясковай царквы. Прабудзіўся вецер і пагнаў завіруху па падворках і сумётах вуліцы.

І тут наперад выскачыла Смерць-матухна. Яна знянацку шыбанула пад ногі Гундзілу. Ён, пахіснуўшыся, скаціўся з ганка. Нябожчыкі стралой шуснулі следам. Дзверы сарваліся з петляў, і ў хату ўваліліся, ой, да чаго ж нежаданыя госці.

Пятрок не паспеў праглынуць лыжку бульбянога супу. Чыгунок споўз з яго каленяў і разваліўся на падлозе. Арына промеццю кінулася ў запечча, нацягваючы на сябе ўсялякія лахманы.

— Во мы і стрэліся,— Смерць ленавата падыходзіла да Петрака.— Давай жа абдымемся, згубіцель. Паглядзі, як з тваіх рук сцякае кроў люду праведнага. Загляні ім у твары, у прадонне вачэй. Скажы — за што? Маўчыш. Тады давай абдымацца.

Смерць-матухна прыхінулася да Петрака. Адразу ўсё сціхла. Толькі зябкае марознае паветра клубкамі кацілася па падлозе, выстуджваючы хату. Пад ранне з-пад лахманоў запечча выпаўзла Арына. Яна пужлівая, з асцярогай падышла да ложка, дзе канаў Пятрок. З надзеяй глянула і ў жаху адскочыла. Петраковы рукі мёртвай хваткай сціскалі сваё горла.

**Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

## Міхась СКОБЛА



■

Горад грэў на грудзёх змяю,
а казалі, што гэта рэчка.
Дратавала змяя зямлю.
Хто ў чаротах уночы крэкча?

Чый чуцён на світанні плач?
Гусі-лебедзі ці русалкі?
Ды ніводзін не выцер квач
і ў змяю не кідаў апалкі.

Берaглі змяю, бераглі,
выпаўзаць не хацела з горада.
Варушыліся берагі,
і ліхтарні хадзілі ходырам.

Парасоны мастоў тугіх
затулялі яе ад залевы.
Вызваленне нябёс ад крыг —
для Змяінае Каралевы і

Горад грэў на грудзёх Змяю,
а змялелай сівой Нямізе
волю выказаў так сваю:
— Адмывацьмеш яе ад слізі!

І ў ратугах уся, рака,
як бязродная, як рабыня,
закасаўшы вышэй рукаў,
прымусовы свой хрост рабіла.

Чалавек ваяваў за мір
ды гучаў пад сурдзінку горда...
Вецер дзьмуў у трубу, як факір,
каб паўстала Змяя над горадам...

■

У прыполе роднай хаты
на старэнькай парэпанай прызбе
застаўся мой бурштынавы плач
да яго прыслухоўваецца студня
але далёка не чуе
косяцца з-за фіранак вокны
але занадта блізка не бачаць
нейкія людзі сядзяць на прызбе смяюцца
і маленькія бурштынінкі
зняважаныя гэтым дарослым смехам
хаваюцца надвячоркам у шчыліны на сцяне

слухае хата мой бурштынавы плач
сваім спапахнелым нутром
спадзяецца мо хоць немаўлячыя слёзы
выратуюць яе ад шашалю
збірае ў прыпол вянкі пахучай цыбулі
каб узімку пачаставаць мяне
каб я як некалі заплакаў

і хата яшчэ доўга жыцьме верачы
што гэтыя слёзы хоць і не бурштынавыя
але таксама шчырыя

■

І вынайшаў Бог чалавека
і пакінуў яму дзесяць сваіх наказаў
і сатварыў для яго рай на зямлі

а сам вырашыў хоць напрыканцы веку
адаспацца на белых пярынах
словам пажыць па-людску

ды дзе там —
чалавек яшчэ ў немаўлячым узросце
вынайшаў Бога
і з тае пары
кожны дзень пытае ў яго нейкае рады
назірае за ім у вялізныя тэлескопы
штораніцы крычыць на яго са сваіх мінарэтаў
а пры дапамозе залатых купалаў
пускае яму ў вочы сонечных зайчыкаў

і сонны Бог у роспачы пытае:
— Чаго ж вам яшчэ трэба?

Ды не даюць адпачыць Богу
званы Полацкае Сафіі
і толькі адныя беларусы
(да чаго ўжо рахманы народ)
тыя патрабуюць дакладна:
— Вярні нам Бацькаўшчыну, Божа!

Сядзіць сярдзіты Бог на воблаку
і разгублена камечыць кавалак свежае гліны

а раптам не атрымаецца
гэты самы Беларус?

■

Я хацеў бы памерці у сне.
Каб не ведалі родныя ўсе.

Наказаўшы світальным вятрам
развітацца з радзінаю,
і з абдымкаў заплаканых траў над радзімаю

узляцець, пралунаць, нібы птах,
каб не бачылі нават начніцы,
так высока, нязмушана так,
як магло да скanання прысніцца...

Па шашы пракрадзецца аўто...
Хай вас бог, мае родныя, крые!
Не завесіць люстэрка ніхто
тут, дзе жыў я,— у гэтай краіне.

І драмацьмуць і рэчка, і сад,
толькі вецер абдыме, як брата.
Не вярнуся ніколі назад,
адчыняйся, паднебная Брама!

Не прачнуся за сонца раней,
і душа маё цела пакіне,
і ўздыхнецца ў нябёсах вальней,
чымся ў роднай зямлі ў дамавіне.

### *Аднойчы*

На запацелай шыбе неба
аднойчы я напісаў Тваё імя,
і ўночы
Яно заззяла так,
што пабляклі сузор'і,
а закаханыя па ўсім усходнім паўшар'і
спалохаліся, няўжо так хутка
настаў новы дзень?

А я веpыў —
ніхто ня зможа дакрануцца да Цябе,
ніхто ня будзе прысвячаць Табе вершы,
бо ў Багдановіча ёсць Зорка Венера,
а астатнія дасягалі нябёсаў толькі ў сне;
ніхто ня зможа ўзімку сагравацць Цябе,
хукаючы на зоры,
бо гэтак жа высока —
і Ты будзеш належаць толькі мне.

Але аднойчы звычайны клён,
што рос недзе пад Слуцакам
і памятаў Цябе маленькай дзяўчынкай,
прыўзняўся на пальчыкі,
узмахнуў зялёнай грывай
і лёгка выцер маё Пісанне,
мяркуючы, несур'ёзна ўсё гэта.

А неба зрабілася пустое і шэрае.

## ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

# ЛЮДЗІ

*Дзеці сямідзесятых і васьмідзесятых сёння ўжо працуюць, служаць у войску, заводзяць свае сем'і. А яшчэ эмігрыруюць і сядзяць у турмах, засядаюць у парламентах і гінуць са зброяй або без зброі ў руках. Розныя яны — учарашнія піянеры — і менавіта ім наканавана вярнуць дабрабыт сваёй зямлі. Вярнуць або... Або XXI стагоддзе, гэтак жа, як і стагоддзе XX, пачнецца з вялікіх і страшных падзей, і зноў жа тут, на нашай зямлі.*

*А ці добра ведае наша сённяшняя вярхоўная ўлада, як і чым жыве гэта новае пакаленне? Хто і навошта цяпер піша, тэлефануе, грукае ў дзверы Камісіі па справах моладзі Вярхоўнага Савета БССР? Можна лічыць, што гэта пытанне стала цэнтральным у нашай гутарцы з Валерыем КУРДЗЮКОВЫМ. Гутарылі мы на ты: равеснікі, цёзкі, да таго ж, як высветлілася, маем агульных сяброў і знаёмых.*

### ДАВЕДКА ДЛЯ АМАТАРАЎ АНКЕТ

**Само сабой зразумела, што ніякага «дасье» на старшыню Камісіі па справах моладзі ВС БССР В. КУРДЗЮКОВА я не чытаў і не меў жадання чытаць. Праўда, у «Народнай газеце» пра яго прачытаў наступнае:**

**...«Прыгожай» біяграфію Валерыя Курдзюкова зрабіла адна з галоўных рыс яго характару — імкненне жыць адкрыта і сумленна. У звычайны для многіх пералік жыццёвых вех — суворыскае і ваеннае вучылішчы, служба...— трапілі і Афганістан, і Арменія. Першы беларускі выратавальны атрад з былых «афганцаў» адправіўся ў разбураны землятрусам Ленінакан пад яго кіраўніцтвам.**

**...Трэба было набыць грамадзянскую спецыяльнасць — Валерый Курдзюкоў паступіў у БДУ імя Леніна на юрыдычны факультэт. Атрымаў прапанову перайсці на работу ў ЦК камсамола.**

**Работа ў ЦК дала магчымасць засвоіць навуку зносін, непрыкметна неяк перайсці ад «бунтаў» да мэтанакіраванай працы, якая прыносіць плён. Жаданне ж працаваць у яго заўсёды хапала — падлічыў неяк, што апошнія два гады 140 дзён з 365 правадзіў у камандзіроўках.**

**Цяпер Валерыю Курдзюкову даводзіцца працаваць адразу па некалькіх напрамках. Работа ў камісіі ўключае ў сябе абмеркаванне законапраектаў, якія выносяцца на разгляд сесіі, працу над праектам закона аб моладзі і палажэннем аб грамадска-дзяржаўнай маладзёжнай структуры. Да таго ж ён старшыня не так даўно зарэгістраванай рэспубліканскай Асацыяцыі воінаў-інтэрнацыяналістаў.»**



— Мы перажываем зараз не лепшыя дні — у іх мала аптымізму і шмат трывог. А як па-твойму, Валерый, які час на падыходзе?

— Няма сумнення: пачынаецца час мужных людзей. І ў нашай камісіі, на шчасце, падабраліся менавіта такія.

— Коратка раскажы пра камісію.

— Нас усяго трынаццаць. Рабочыя, вайскоўцы, два журналісты, міліцыянер... Карацей кажучы, па біяграфіях, па папярэдняй «кар'еры» мы вельмі розныя, а па адсутнасці сур'ёзнага вопыту ў палітычнай дзейнасці, па сваіх адносінах да перамен, якія чакаюцца,— блізкія, падобныя.

— Але бывае, што спрачаецеся?

— Амаль заўсёды. Ведаеш, маладосць, азарт барацьбы, максімалізм...

— І як жа «выплываеце» з бурных патокаў эмоцый?

— Проста стараемся не губляць арыенціры.

— І што гэта за арыенціры?

— Іх некалькі. Напрыклад, калі размова ідзе пра эканамічныя пытанні, мы галасуем за цвярозы сэнс у гаспадарчым будаўніцтве, у развіцці горада і вёскі. Мы за плюралізм форм уласнасці, за рынак. Вядуцца дэбаты аб праблемах культуры — тут таксама наша мэта ясная: трэба ратаваць культуру, дапамагаць ёй не марудзячы. Іншая справа, як канкрэтна дапамагаць, што рабіць у першую чаргу. Аб чарнобыльскай бядзе і мерах па ліквідацыі вынікаў катастрофы наогул, на мой погляд, дыскусіраваць позна — трэба хутчэй ратаваць зямлю, людзей. Гэта злачынства — шкадаваць грошы і не шкадаваць дзяцей, жанчын, старых, развозіць «бруд» па ўсім Саюзе.

— Я бачыў, як працуе ваша камісія. Маладыя, шчырыя твары, імгненная рэакцыя на слова, на жэст... Мяне здзівіла ўпэўненасць, з якой робіцца прапановы, даюцца парады. Нібыта на камсамольскім сходзе, а не на камісіі Вярхоўнага Савета рэспублікі прысутнічаеш. Ты ж сам гаварыў: сабраліся і высветлілі, што сур'ёзнай падрыхтоўкі для эфектыўнай, разумнай... словам, прафесійнай палітычнай дзейнасці ніхто з вас не мае.

— Дык жа вучымся! Акрамя таго нам спецыялісты дапамагаюць. Запрашаем іх пастаянна.

— Якія спецыялісты? Юрысты? Эканамісты?

— Гледзячы які дакумент разглядаем.

— Маладзёжныя праблемы ёсць амаль у кожнай краіне. Але не ўсюды яны такія вострыя, як у нас або, скажам, у Польшчы. Вы маеце магчымасць вывучаць вопыт работы сваіх калег у парламентах Еўропы, Азіі, Амерыкі?

— Магчыма, нам неўзабаве ўдасца сустрэцца з маладымі палітычнымі дзеячамі Францыі, Германіі, іншых краін. Ды гэта проста неабходна, калі мы не хочам паўтараць іх памылкі, іх пошукі рашэнняў...

— А як справы ў аналагічных камісіях вярхоўных органаў улады суседніх рэспублік? Вы сустракаецеся?

— У нас трывалыя кантакты з расіянамі і ўкраінцамі. Клопаты ў нас адны і тыя ж. А сустракаемся мы, на жаль, вельмі рэдка.

— Чаму? Няма часу? Ці неабходнасці?

— Няма магчымасці.

— Хаця б канцэпцыя маладзёжнай палітыкі ўрада Беларусі ўжо ёсць? Што ў ёй галоўнае, прынцыпова важнае?

— Так. Яна распрацавана. Трэба ствараць грамадскія маладзёжныя структуры, разнявольваць энергію і думку маладых, абараняць зусім юных ад магчымага беспрацоўя, галечы, жыллёвага крызісу...

— Але ж «кватэрнае пытанне» непакоіць зараз не толькі маладыя сем'і...

— Я ўсё разумею і здагадваюся, пра што ты хочаш запытаць. Адкажу адразу: мы і не чакаем, што для юнакоў і дзяўчат аднекуль адразу возьмуцца сродкі, дамы, добрыя рабочыя месцы...





Н а з д ы м к а х **Яўгена ПЯСЕЦКАГА, Уладзіміра УСЦІМЕНКІ, Аляксандра ШАБЛЮКА** і **Эдуарда ЛАПІНА** — імгненні з жыцця маладых. Тых, для каго і працуе сёння Камісія па справах моладзі Вярхоўнага Савета Беларусі.



# НОВАГА ВЕКУ

— Добрыя — гэта якія?

— Каб улічваліся (пры прыёме на работу) не толькі ўзрост, але і кваліфікацыя чалавека, яго жаданне працаваць менавіта там, дзе яму хочацца.

— Што ж, усё правільна: нашы традыцыі гарантуюць працавітаму юнаку-трактарысту стары трактар, таленавітаму маладому спецыялісту ў НДІ — месца лабаранта за мізэрную зарплату, выпускніку ПТВ — брудную работу на заводзе і зноў жа невялікі заробак нават разам з «брудным» прываркам. Дарэчы, нядаўна я быў у Дзяржкамстаце і там убачыў сярод многіх ашаламляльных даных адну маленькую табліцу. Вось яна:

| | Усяго | у тым ліку | |
|---|---|---|---|
| | | з вышэйшай адукацыяй | з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Апытана спецыялістаў, тыс. чалавек | 10,7 | 6,5 | 4,2 |
| У тым ліку працуюць не па спецыяльнасці | 4,9 | 2,6 | 2,3 |
| з іх: па прычынах, у працэнтах: | | | |
| гэта работа вышэй аплачваецца | 13,0 | 9,5 | 16,9 |
| незадаволенасць атрыманай спецыяльнасцю, гэта работа больш цікавая і перспектыўная | 20,9 | 19,4 | 22,6 |
| адсутнасць вакансій па спецыяльнасці | 26,7 | 27,9 | 25,3 |
| недастатковы ўзровень падрыхтоўкі ў навучальнай установе | 3,2 | 3,7 | 2,5 |
| сямейныя абставіны і іншыя прычыны | 36,2 | 39,5 | 32,7 |

З ліку апытаных каля паловы спецыялістаў працуе не па спецыяльнасці, атрыманай у навучальнай установе. Больш як 30 працэнтаў інжынераў і тэхнікаў затрачваюць увесь рабочы дзень на інжынерна-тэхнічную працу, 20 працэнтаў — дзве трэці дня, 12 працэнтаў — палову і 7 працэнтаў — толькі трэцюю частку дня. Толькі 40 працэнтаў адказалі, што яны задаволены вынікамі работы, якую выконваюць.

— Валерый, як вы на гэтым фоне мяркуеце хутка ўзняць жыццёвы ўзровень маладых сямей, перамагчы песімізм і апатыю тых, каму «да 16 і больш»?

— Упэўнены: нават падлеткі павінны атрымаць магчымасць для самавыяўлення ў грамадскім і эканамічным жыцці. Неабходна стварыць умовы, пры якіх выказванні тыпу «людзей трэба накарміць, апрануць, даць ім жыллё» будуць абсурдныя. Ва ўсе часы людзі самі сябе і кармілі, і апраналі, і пра сваё жытло клапаціліся. У дваццаць гадоў хлопец меў хату, жонку, дзяцей, уласнасць. Між іншым, менавіта так зараз і жывуць у краінах, пра якія мы з зайздрасцю гаворым: цывілізаваныя!

— Дык там жа свабоднае прадпрымальніцтва! А ў нас да гэтага часу стары крымінальны кодэкс. І законаў «рынавых» — раз, два і аблічыўся.

— Вось ты сам толькі што вызначыў адзін з галоўных «тармазоў» перамен, прычыну беднасці, безвыходнасці, азлаблення. Людзі заўсёды аб'ядноўваюцца вакол сапраўднай справы, яны пераўвасабляюцца! Ім становіцца прыемна працаваць да поту, ім падабаецца багацець, рабіць падарункі, падарожнічаць, яны пачынаюць разумець, як трэба берагчы здароўе...

На гэтым Валерый вымушаны быў папрасіць прабачэння і на некалькі хвілін перапыніць нашу гутарку: прыйшла група хлопцаў, і ў кожнага свае праблемы... У час вымушанай паўзы я яшчэ раз перагартаў свае «статыстычныя паперы» і знайшоў тое, што шукаў:

**АБ'ЁМ АСОБНЫХ ВІДАЎ ПЛАТНЫХ ПАСЛУГ НА ДУШУ НАСЕЛЬНІЦТВА ПА САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІКАХ (у рублях)**

| | Бытавыя паслугі | Паслугі пасажырскага транспарту | Паслугі сувязі | Паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі | Паслугі культуры | Турысцка-экскурсійныя паслугі | Паслугі фізічнай культуры і спорту | Санаторна-курортныя і аздараўленчыя паслугі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| СССР | 50,2 | 64,2 | 12,8 | 38,8 | 7,9 | 11,9 | 0,6 | 7,0 |
| РСФСР | 51,9 | 77,2 | 14,8 | 44,1 | 8,9 | 13,2 | 0,6 | 7,5 |
| Украінская ССР | 51,2 | 54,1 | 12,7 | 39,7 | 8,0 | 11,9 | 0,6 | 9,5 |
| Беларуская ССР | 66,4 | 54,0 | 14,3 | 32,5 | 8,0 | 12,1 | 0,6 | 4,8 |
| Узбекская ССР | 33,6 | 35,3 | 4,8 | 20,7 | 3,6 | 5,9 | 0,5 | 2,1 |
| Казахская ССР | 44,9 | 55,3 | 10,8 | 38,0 | 6,4 | 6,9 | 0,6 | 4,4 |
| Грузінская ССР | 68,0 | 69,9 | 10,9 | 20,8 | 9,6 | 24,9 | 1,6 | 13,7 |
| Азербайджанская ССР | 34,9 | 45,2 | 8,3 | 20,9 | 3,9 | 4,9 | 0,1 | 3,6 |
| Літоўская ССР | 68,3 | 60,8 | 14,8 | 41,3 | 8,0 | 21,4 | 0,7 | 8,7 |
| Малдаўская ССР | 46,7 | 38,5 | 10,1 | 35,8 | 6,6 | 13,5 | 0,6 | 5,8 |
| Латвійская ССР | 69,0 | 78,3 | 18,1 | 54,4 | 11,4 | 21,4 | 1,3 | 10,4 |
| Кіргізская ССР | 38,4 | 39,3 | 7,1 | 21,7 | 5,4 | 5,6 | 0,6 | 4,9 |
| Таджыкская ССР | 33,0 | 29,9 | 4,4 | 16,1 | 3,3 | 3,9 | 0,5 | 1,6 |
| Армянская ССР | 48,3 | 48,6 | 11,9 | 31,1 | 4,9 | 12,3 | 0,7 | 4,9 |
| Туркменская ССР | 36,4 | 44,2 | 5,7 | 29,2 | 4,4 | 4,2 | 0,2 | 4,5 |
| Эстонская ССР | 90,4 | 77,6 | 17,3 | 59,3 | 12,1 | 26,3 | 1,7 | 6,4 |

Мяркую, каментарыі тут не патрэбны. Прыкладна ва ўсіх аднолькава кепска. Таму што і грошай мала і магчымасцей паставіць тэлефон, паехаць у санаторый, зрабіць падарожжа, узяць білет куды хочаш — яшчэ меней.

Натуральна, сувязь і зручны транспарт, турысцкі сервіс і фізкультурныя аб'екты неабходны ўсім. Маладым — асабліва.

Вярнуўся Валерый. Расказаў, з кім і пра што давялося гаварыць. Адзін з хлопцаў — малады спецыяліст, за пятнаццаць гадоў работы «па размеркаванню» стаў ветэранам вытворчасці, а кватэру... правільна, абяцаюць. І не даюць. Дрэнна просіць?

— А якую дапамогу спадзяюцца атрымаць ад камісіі ўсе тыя, хто звяртаецца да вас? Я разумею, скаргі, заявы ёсць розныя. Але якія часцей за ўсё?

— Працаваць людзі хочуць! Жыллё — на другім плане. Хочаш вер, хочаш — не. На першым месцы (па колькасці) — просьбы дапамагчы ўладкавацца на працу на сучаснае прадпрыемства, сп, у кааператыў. А чым мы можам дапамагчы? Нічым. Раім: вось вы, маладыя, разумныя, работы не баіцеся, ад руціны, галечы, бяздзейнасці і п'янства на ўласных прадпрыемствах вас даўно ванітуе. А калі так, дык што перашкаджае вам распачаць сваю справу?

— Можаш не працягваць. Дзе ў іх пачатковы капітал? Яны прайшлі хаця б сціплы эканамічны, «рыначны» лікбез?

— Усё правільна. Неабходны блок адпаведных дакументаў! Як арганізаваць сваё прадпрыемства, з чаго пачаць і куды ісці, каму кланяцца (гэта пакуль абавязкова), хто падкажа кан'юнктуру, хто дасць памяшканне... Мора пытанняў, і ніводнага адказу. Пакуль што ніводнага.

— Вось хлопцы і «тонуць». Падазроныя кааператывы, рэкет, ашуканства. А хочаш, пакажу статыстыку самазабойстваў?

— Нічога дзіўнага. Падзенне фальшывых ідэалаў, напружаная атмасфера ў побыце, на рабоце, на вуліцы... Крызіс, злом...

— Сапраўды, так часта, як цяпер, па сваёй волі пакідалі жыццё, яшчэ не пачаўшы жыць, толькі ў пачатку дваццатых і пасля вайны. Ты заўважыў: чым больш цяжкая сітуацыя ў грамадстве, чым больш відавочныя памылкі бацькоў, тым больш дакораў, абвінавачванняў у адрас маладых. На іх зручна «зрываць злосць» — яны не ідуць у суд, у газету, да дэпутата. Яны ідуць на начныя вуліцы... Смерць ні аднаго афіцыйнага «куміра моладзі», грамадскага лідэра не выклікала такога шчырага болю і смутку маладых, як гібель Віктара Цоя. Чаму? Ён спяваў і дапамагаў ім знайсці сябе, ён гаварыў толькі тое, што знаў дакладна. Ты быў у Афганістане. Я — не. Гэта праўда, што хлопцы сталеюць на вачах, калі ім — **даверана**.

— Праўда. У юнацтве ніхто не застрахаваны ад недарэчных памылак, няправільных крокаў. У Афган траплялі і ўчарашнія камсоргі і тыя, хто канфліктаваў з участковым міліцыянерам. Я памятаю гэтыя пакутлівыя і абмежаваныя часам, абставінамі пошукі самога сябе, свайго месца, свайго погляду.

— Кім ты быў па вайсковаму званню?

— Старшым лейтэнантам.

— Камандаваў узводам? Або нават ротай?

— Не... Дакладней так: прыняў роту і праз дзве гадзіны падарваўся.

— Сяброў-афганцаў часта сустракаеш?

— Вядома!

— Як у іх склаліся лёсы?

— Нявесела. Гэта ўсё цяжка растлумачыць... Нядаўна сустрэў старога сябра. Яшчэ ў сувораўскім разам вучыліся. Цудоўны хлопец, смелы, дужы. Зараз у страхавым агенцтве служыць. Не знаходзяць многія «афганцы» цяпер месца ў арміі. Дый не толькі ў арміі... Чаму? Муштра і глупства забіваюць веру ў сапраўдную справу. Як, дарэчы, і ў цывільным жыцці.

— Што ты думаеш наконт альтэрнатыўнай службы хлопцаў, якія ўхіляюцца ад прызыву, хаваюцца ад ваенкаматаў?

— Я — за розныя формы праходжання службы. У Афгане здаралася: пастроілі ўзвод. Па васемнаццаць — дзевятнаццаць гадоў воінам. Хутка ў бой. А ва ўзводзе амаль палова хлопцаў — адзінае дзіця ў маці. З так званых «няпоўных сямей», без бацькі раслі. Але яшчэ страшней, калі ў адзінокай маці, якая са страхам чакае старасці, два сыны і абодва — на вайне. Гэта справядліва? Сумленна? Разумна, па сумленню, дыферэнцыравана трэба падыходзіць да вырашэння лёсаў прызыўнікоў. Марыць хлопец пра мора і просіцца на флот — няхай служыць там, а не танкістам або сапёрам. Хоча быць сувязістам, а не дэсантнікам — усё магчымае трэба зрабіць, каб жаданне юнака пры пэўных медыцынскіх паказаннях выканаць. Тады, я ўпэўнены, менш праблем у вайсковых камісараў і ў камандзіраў падраздзяленняў будзе. Трэба вучыцца па-сапраўднаму паважаць асобу чалавека, які становіцца не **ўласнасцю** арміі, а — абаронцам краіны.

— Дарэчы, якія да вас, маладзёжнай камісіі, адносіны ў нашага Вярхоўнага Савета? Я чаму спытаў? Нават звышпільны міліцыянер каля ўвахода не мог сказаць, як знайсці ваш пакой. Накіраваў зусім у іншы бок калідора. Дый на вашым чацвёртым паверсе Дома ўрада ніхто не ведаў, дзе знаходзіцца «маладзёжка». Трыццаць пяць хвілін шукаў. Хаця гэты Дом я ведаю.

— Так, нас размясцілі «па рэштаваму прынцыпу». Знайсці камісію сапраўды цяжка. Праўда, абяцаюць перасяліць бліжэй да калег. Не буду ўтойваць: адносіны да маладых дэпутатаў у Вярхоўным Савеце... назавём іх паблажлівымі. Вы, маўляў, пакуль вучыцеся, глядзіце, ваш час прыйдзе... Крыўды няма. Мы так і робім: інтэнсіўна вучымся, загартоўваемся як палітыкі, набліжаем наш час.

**Гутарку вёў Валерый ЛАПІН.**

*«Хто вінаваты? Чыёй злачыннай рукою*
*губіцца сувязі братнія,*
*бурацца храмы?»*

М. ГУСОЎСКІ. «Песня пра зубра».

# СЛЁЗНАЯ МАЛІТВА СУЧАСНІКА,

## АБО МАНАЛОГ, ПАДКАЗАНЫ ПРОДКАМ

Бедная мая, атручаная мая Зямля! Скалечаная вякамі грэблівых адносін да сябе, змучаная сынамі сваімі, якія штодня выракаюцца саміх сябе... Гордая мая Зямля, ты трымаешся на тых адзінках, якія, не шкадуючы сэрца, ад веку адстойваюць тваю годнасць...

Вечная мая Зямля! Час не да прызнанняў у каханні: чэргі, прадчуванне братазабойчай вайны, урад і яго загады, у якія ніхто не верыць і якія ніхто не выконвае... І як дзіўна бачыць, што ў гэтым вэрхале ідэй, бруду, жорсткасці, балючых думак пра будучыню ўласных дзяцей нехта ўсё ж піша музыку, складае вершы, малюе карціны, поўныя прыгажосці і чысціні, поўныя любові да цябе, Зямля мая. Вось толькі шкада, што пустуюць канцэртныя і глядзельныя залы, панурыя адзінокія постаці блукаюць сярод вясёлкавых фарбаў тваіх краявідаў, сумуюць на прылаўках кніжкі, «прысвечаныя табе...

Гасподзь міласэрны! Як рэдка смяюцца на вуліцах дзеці! Вяртаешся з-за тваіх меж, Зямля, і толькі тады заўважаеш усеагульную, адметную панурасць на тварах тваіх сыноў і дачок. А хочацца, хочацца бачыць светлыя шчаслівыя твары, бадзёрых людзей, у руках якіх рупілася б праца. Час цяжкі? А калі ён быў лёгкі для нас? Боль яшчэ вастрэйшы ад таго, што ты, Беларусь, і народ твой, як ніхто, гэтага добрага часу вартыя...

Музыка ў пустэчы...

Музыка сляпы...

У начы — крык!

І хто ў гэтым усім вінаваты? Недарэкі-мастакі? Дзівакі-тэатралы? Усе тыя, хто не пячэ хлеб, не здабывае нафту, не нясе яйкі,— яны вінаватыя? Ці той, хто ў цемры пячэ, здабывае, вырошчвае? Тыя, хто ўсіх нас з нашай маўклівай згоды такімі зрабілі,— яны вiноўнікі?

Я прашу вас, людзі маёй Зямлі (прабачце за смеласць звароту): не трэба больш шукаць вінаватых, бо шукаць далей, калі ўсё зразумела, значыць — не вытрымаць і адпомсціць. А помста... Не аб абстрактным дараванні прашу: чалавечую кроў, забітыя душы дараваць немагчыма! І ўсё ж такі — дараваць, дараваць, каб у дзецях не паўтарыць, дараваць, каб помніць. І шанаваць адзін аднаго, пачаць шанаваць цяпер, зараз — за Працу. Не за гучнасць заклікаў і прамоў, а за Хлеб і Карціну. Можа тады і запоўняць глядзельныя залы Мастацтва шчаслівыя дзеці нашы... Я ў гэта, прабачце, веру.

> **«Грамадства, у шырокім сэнсе супольнасць форм сумеснай дзейнасці людзей, якія гістарычна склаліся, гістарычна канкрэтны тып сацыяльнай сістэмы, пэўная форма сацыяльных адносін. Сапраўды навуковую тэорыю грамадства стварылі заснавальнікі марксізму-ленінізму».**
>
> Савецкі энцыклапедычны слоўнік.

Зямля мая
«Боская маці, прачыстая дзева Марыя,
Чуеш імя сваё ў песні і бачыш, напэўна,
Як затрымцела ад страху рука вершатворца?
Раб твой пакорлівы слёзную гэту малітву
Шле да цябе, баючыся: а можа, не прымеш?
Можа, маўчаць і цярпець? Я ў душы адчуваю:
Вартая ты не малітвы раба, а харала
Цэлага свету зямнога — людзей і стварэнняў,—
І велічання, і славы ты варта таксама.
Я ж ці знайду і ці вымаўлю вуснамі ўзнёсла
Слова-зваротак, тваю не прынізіўшы годнасць.
Знаю, што ты міласэрная, добрая маці —
Ты мне даруеш, і тут я з васковаю свечкай
Перад табою, святой багародзіцай, кленчу.
Бледны, прыгнечаны ношай грахоў сваіх цяжкіх,
Вусень-чарвяк падбірае будзённыя словы
Ў гэта маленне і шчэ спадзяецца, што зможа
Вымаліць краю тваю абарону-спагаду.
О, заступіся за нас! Праз любоў к Чалавеку
Бацька наш бог і абраў цябе сам, і паставіў
Першай заступніцай люду, і ты заступіся!
Як птушаняты ў нягоду пад матчына крылле,
Так пад тваю абарону і мы прыбягаем.
Хай хто пакрыўдзіць дзіця і малое заплача —
Маці ж прыгорне крывінку сваю і суцешыць.
Ты — наша маці-заступніца, мы — твае дзеці,
Крыўдзяць, цкуюць нас і ганьбяць —
утры нашы слёзы.
О міласэрная ўцешніца, дзева Марыя,
Не пакідай нас, прымі гэту скаргу-малітву.
Кінь свой спагадлівы позірк на нашы палеткі —
Гоні і ляды, што скрозь здратаваны і збіты
Коньмі татарскімі, коламі іхніх абозаў.
Бачыш, якія бясчынствы дазволены лёсам
Зброяй варожай? Там сёння страшэнныя здзекі
Чыняцца з нас, хрысціян, што адзінае веры
З сынам тваім, міралюбных і прагнучых міру!
Нашым князям, што ў сваіх міжусобіцах розум
Нашай крывёй замуцілі, падай на пахмелле
Мысляў і ўчынкаў цвярозасць, вярні раўнавагу
Мудрых дзяржаўцаў, напомні пра іх абавязкі,
Гэтак злачынна забытыя,— карай напомні!
Свет вар'яцее, і ўсе міратворцы на словах —
Гэта ваўкі пад ягнячым руном красамоўства.
Ім без твайго настаўлення, прамудрая дзева,
Думка не прыйдзе, што трэба за розум узяцца,
Дзе ім убачыць з харомаў, як з хатак вясковых
Гоняць бічамі галоту ў палон на пакуты!
Стань загародай на бітых шляхах і гасцінцах,
Вартай памежнай між воляй народаў і рабствам».

Зямля мая,
маці-пакутніца,
з цемры адвечнай
у ранак
разам з намі
паўстань.

**Маналог, падказаны ў XVI стагоддзі Міколам ГУСОЎСКІМ, запісаў 21 лістапада 1990 года Валерый МАСЛЮК, рэжысёр.**

# НА ГАЛЕРЭІ

**Арганізатары выставы «На галерэі» пад кіраўніцтвам Вольгі Каваленка сабралі пад дахам Дзяржаўнага мастацкага музея БССР розных, не падобных адзін на аднаго мастакоў: С. Малішэўскага, І. Цішына, Н. Залозную, А. Ксяндзова, В. Баранава, І. Кашкурэвіча, Л. Русаву, А. Задорына, Р. Заслонава. Кожны з іх валодае адметнай творчай манерай, арыгінальным светапоглядам, бескампраміснасцю. Але, каб зразумець гэтых мастакоў, і ад гледача патрабуецца спецыяльная падрыхтоўка. Любы неардынарны мастак супярэчлівы, іншы раз парадаксальны, нечаканы, і да яго нельга падыходзіць са звыклымі, а тым больш прымітыўнымі меркамі.**

**Нягледзячы, што зусім розныя творы выстаўляліся разам, яны з'яўляліся лагічным працягам адзін аднаго. Жанрава-тэматычную іерархію экспазіцыі вызначаў плюралізм. Ад строга акадэмічных твораў Р. Заслонава да нонфігуратыўных палотнаў І. Кашкурэвіча на выставе знайшлі прытулак і сюррэалізм, і экспрэсіянізм, канцэптуалізм, асамбляж і інсталяцыя. Але ніякія хітрыкі фантазіі, накірункаў у мастацтве і тэхніцы не далі б патрэбнага эфекту, калі б пад імі не было асновы — усхваляванага, шчырага стаўлення да жыцця самога творцы. У работах выразна праявілася характэрнае для прагрэсіўнага мастацтва імкненне да сувязі чалавека са светам, да ўсё большай напоўненасці мастацтва прысутнасцю чалавека.**

**Некалькі гадоў назад мастацтвазнаўца А. Дабравольскі пісаў, што яму страшна ад таго стану ўнутранай разбуранасці, якую так ярка выяўляюць у сваёй творчасці мастакі пакалення 80-х. І тады, і сёння я не магу пагадзіцца з гэтым выказваннем. Так, мы не даём прамых адказаў на пытанні, якія перад намі ставіць жыццё, але ўсё, што мы робім — робім шчыра. Сацыялістычны рэалізм успрымаецца намі як сусальны, кананічны стыль, які нішчыць усё жывое ў мастаку і на першае месца выводзіць ідэалогію, плакатную адназначнасць ідэала.**

**У заключэнне асмелюся сказаць, што на сённяшні дзень акрэсліваецца новы накірунак мастацтва — беларускі авангард, фарміруецца тая сапраўдная творчая свабода, якая ніколі не стане кабалой для таго, хто думае і бачыць інакш, чым большасць іншых.**

**Алесь ТАРАНОВІЧ,**
**мастак, удзельнік выставы «На галерэі».**





● Алесь ТАРАНОВІЧ.
Час нашага палёту.



● Алесь КСЯНДЗОЎ.
Мастак і мадэль.



● Андрэй ЗАДОРЫН.
Райскі сад.

● Раман ЗАСЛОНАЎ.
Выкраданне
Усходняй Еўропы.



# сумныя нататкі пра шоу-бізнес

## АБО КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА МІНСКУЮ ШКОЛУ МАДЭЛЕК



Першае, з чым сутыкаешся, калі пачынаеш развежаць пра вартасці прафесіі мадэлькі, гэта ўстойлівы, як ампірны канон, адмоўны стэрэатып, што склаўся, дзякуючы крывым люстэркам белетрызаваных раманаў і прыгодніцкіх кінастужак, дзе вобраз мадэлькі абавязкова асацыіруецца з «салодкім жыццём», натуральным футрам і шампанскім. Што ні кажы, а ў літаратуры і ў кіно мадэлькам не шанцавала. Калі з'яўляецца на старонках дэтэктыва зеленавокая прыгажуня-мадэлька, то чакай ліха.

Цяпер сітуацыя змянілася, і папялушка на вачах ператварылася ў князёўну,— прафесія мадэлькі набыла надзвычайную папулярнасць і прэстыжнасць. Раскрыю сакрэт, што яшчэ летась зарплата мадэлькі была на ўзроўні прыбіральшчыцы — 80—120 рублёў, а сёння, гэта шырока разрэкламавана па тэлебачанні, прыгажуням дораць срэбныя дыядэмы і замежныя наборы касметыкі. Бясконцыя шоу-праграмы і конкурсы прыгажунь прыцягваюць увагу замежных мецэнатаў. І на вачах ствараецца новы, але ж такі, як і раней, штучны, імідж мадэлькі. Адразу ж заўважу, што сусальны тэлепоспех, з якім дзяўчаты дасягаюць парнаскіх вяршынь, гэта чарговы шоу-міраж. За ўсмешлівымі Лікамі Ялінскімі раскручваецца цэлы музычны камбінат, спецыялізаваны ў асноўным на продажы білетаў на стадыённыя шоу. Не бяда, што слабы голас і бракуе густу, прафесіяналы, кшталту цэнтра «Родник», гандлююць не мастацтвам, а «першай прыгажуняй рэспублікі».



Праз колькі месяцаў адбудзецца першы выпуск Мінскай школы мадэлек. Дзесяць дзяўчат пройдуць паўгадавы курс падрыхтоўкі. У праграме артыстычнае мастацтва і пластыка, замежная мова і сакрэты касметалогіі, гісторыя мастацтва і моды і шмат іншых прафесійных дысцыплін. Даволі шырокая навучальная праграма дазваляе Мінскай школе мадэлек у нейкай ступені канкурыраваць з тэатральнымі інстытутамі. Але гэта не бярэцца за мэту. Папросту сёння сістэма адукацыі ў тэатральных інстытутах не разлічана на сучасныя патрэбы шоу-бізнесу, а арыентуецца на класічныя схемы камерных сцэн. Старая «сістэма Станіслаўскага» несувымерная з бетоннымі гмахамі палацаў спорту і стадыённай прастораў. Там дзейнічаюць іншыя законы манументальнага мастацтва.

**Міраслаў ШАЙБАК.**
**Фота Алены АДАМЧЫК.**

# ТУРАЎСКІ ВЯШЧУН

Стары спыніўся і насцярожана азірнуўся. Было вельмі ціха, не шамацела ніводная травінка. Але ў гэтай насцярожанай цішыні адчувалася, што нехта сочыць за ім. І раптам бліскучы пасак абвіў яго нагу. Змяя...

За велізарным, паваленым віхурай дрэвам і сапраўды ляжалі двое і сачылі за тураўскім вешчуном.

— Ен яе душыць,— прашаптаў адзін.— Толькі навошта рукамі?

— Цішэй, Мікіта,— папярэдзіў другі.— Ен яе забівае, зірні...

Стары дастаў з-за пояса гліняную біклажку адкаркаваўшы яе, паднёс да змяі.

— Дык ён жа здабывае атруту,— ледзь не закрычаў Мікіта.

Калі кроплі атруты сцяклі на дно пасудзіны, у якой ужо знаходзіўся адвар зёлак, стары адпусціў змяю. Але яна не ўцякла, быццам ведала, што вяшчун, выцягнуўшы з кішэні гліняны чарапок, нальє ёй малака.

— Навошта яму атрута? Чаму змяя не ўкусіла яго? Чаму яна не ўцякла, калі ён адпусціў яе? — усхвалявана пытаўся адзін.

— Пра гэтага вешчуна ў народзе гаворацъ, што ён з усімі га́дамі заключыў дагавор, і таму яны яго не чапаюць,— адказаў старэйшы і расказаў сябру наступную гісторыю.

Калі вяшчун быў яшчэ зусім малады і працаваў памагатым у каваля, неяк да іх у кузню запаўзла змяя, і іскра з-пад кавальскага молата выпадкова трапіла ёй на скуру. Змяя абпалілася і ледзь не памерла. Малады чаляднік пашкадаваў яе, узяў яе да сябе ў хату і пачаў лячыць. Змяя хутка ачуняла і настолькі прывыкла да чалавека, што нікуды не ўцякла і нават не спрабавала ўкусіць яго. А аднойчы вечарам загаварыла:

— Ты выратаваў мяне, чалавеча, і я хачу табе аддзячыць. Бяры мой яд, калі спатрэбіцца. Для ворага ён нясе смерць, для сябра — выратаванне. І ўсе мае сяброўкі з гэтага часу будуць даваць табе свой яд, не патрабуючы нічога ўзамен, акрамя малака. І ніводная цябе не кране.

Так быў заключаны гэты дзіўны дагавор, і памагаты каваля стаў лепшым знахарам у наваколлі. А калі памёр стары вяшчун, яго абралі на яго месца...

— Слухай, Курыла, а ён добры ці злы, гэты чараўнік? — запытаўся Мікіта.

— Як табе сказаць...— уздыхнуў Курыла.— Багі любяць яго...

— Дык ты, відаць, хочаш, каб мы папярэдзілі яго пра рашэнне ваяводы? — пацікавіўся Мікіта.

— Дзеля гэтага я і прывёў цябе сюды,— адказаў Курыла, узрадаваўшыся, што сябар урэшце зразумеў яго.

— Я так і думаў,— пачаў злавацца Мікіта,— ты паганец, Курыла, нехрысць. А на маіх грудзях крыж, і я пакладу жыццё за сапраўдную веру. Я заб'ю гэтага старога.

На нейкую хвіліну мужчыны спыніліся, злосна ўтаропіўшыся адзін у аднаго. І раптам выхапіўшы з похваў нажы, кінуліся біцца.

Пачуўшы крыкі, вяшчун, які не паспеў адысціся далёка, пабег на шум. Але ўжо было позна: абодва ратнікі — і язычнік, і хрысціянін — былі мёртвыя...

— Тут нават мае лекі не дапамогуць,— прашаптаў, ківаючы сівой галавой, стары.

Так і не даведаўся вяшчун пра тое, што рыхтуе яму славуты тураўскі ваявода.

Зусім нядаўна тураўскі ваявода ездзіў у Візантыю, куды запрасіла яго сястра, прыгажуня Апрасіння, якую аддалі замуж за аднаго са шматлікіх пляменнікаў візантыйскага імператара. Як прайшла іх сустрэча — невядома, толькі вярнуўся ваявода з чужых краёў хрысціянінам. Стаў ціхім і змрочным, пачаў баяцца граху, адмовіўся ад паходаў слаўных ды бясед шумных, загадаў усёй чэлядзі ахрысціцца, а воям наказаў будаваць царкву ды пералавіць усіх вешчуноў-паганцаў.

І трапіў тураўскі вяшчун у глыбокую зямляную цямніцу — паруб, дзе пакутавалі злоўленыя раней служкі Перуновы. У гэты ж самы дзень захварэў дванаццацігадовы сын ваяводы. Дарэмна спрабавалі адпойваць яго травамі жанчыны, дарэмна візантыйскі святар, якога прывёз з сабой ваявода, чытаў над хворым малітвы і абкурваў яго ладанам — хлопчыку не рабілася лягчэй.

І тут нехта нашаптаў, што трэба ў гонар Хрыста забіць паганцаў, што сядзяць у парубе, і пасля гэтага хлопчык ачуняе.

Ваявода амаль што даў згоду, як нечакана данеслі яму, што хоча сустрэцца з ім самы стары вязень.

Вешчуна прывялі да ваяводы. Убачыўшы, што вочы ў таго, як у хворага сабакі, ён папрасіў:

— Дазволь пабачыць сына твайго, ваявода. Мне здаецца, я змагу вылечыць яго...

На пяты дзень лячэння хлопчык адкрыў вочы. Усхваляваны бацька кінуўся цалаваць яго, але вяшчун адпіхнуў ваяводу ад ложка: любы неасцярожны рух, моцны гук і нават нязвыклы пах могуць пашкодзіць хвораму. Ен яшчэ вельмі слабы.

Ваявода адышоў, здзіўлены, бо ўпершыню бачыў перад сабою чалавека, які не толькі не баяўся яго, уладара тураўскага, але і трымаўся так, быццам ён — гаспадар над усімі. Відаць, хлусіць стары, называючы сябе паганцам. А ў сапраўднасці — ён хрысціянін, якога Бог паслаў для выпрабавання ваяводы на вернасць веры. І вырашыў ваявода дагаджаць вешчуну.

Праз месяц хлопчык папраўіўся. Але яшчэ раней ваявода адпусціў усіх вязняў, прапанаваўшы кожнаму добра падумаць пра пераход у сапраўдную веру. Сабраўся ў дарогу і тураўскі вяшчун. Ваявода паклікаў яго да сябе і адкрыў сваю душу:

— Я ведаю, ты святы чалавек і пасланы Богам для майго выпрабавання. Ты бачыш, я моцны духам і цярплівы ў распаўсюджанні вучэння Хрыстова. Даверся ж мне, Божы пасланец.

Але вяшчун пахітаў галавою:

— Ты памыляешся, ваявода. Я — служка Божы, але мой Бог — Пярун, ад якога я ніколі не адракуся...

Невядома, ці паверыў тураўскаму вешчуну ваявода. Толькі людзі кажуць, што з тых часоў скончыліся ў Тураве ганенні на язычнікаў.

А калі стары вяшчун памёр, загадаў ваявода апрануць яго ў адзенне архіепіскапа і пакласці ў дамавіну з каштоўнага каменю.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА.

**А. МАРАЧКІН.**
**Тураўскі вяшчун.**



**Галіна ТВАРАНОВІЧ**

## УСКРАЕК ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

■

Не натоўп — зморанае, разгубленае
чалавецтва
узыходзіць на ганак.
Вось-вось бразне клямка.
Расчыняцца дзверы.

У некалі абяцаны ратунак
нарэшце мы ўваходзім.
Толькі — ці ўсе?

Хрысце, даруй нам, няверным, нямоглым,
за бясконцасць пакуты Тваё...

■

З дня ў дзень
выпрабоўваю цярпенне
Госпада.
І хто?
Я — брыдкая кропля
нягеглае плоці.
А Гасподзь —
міласэрны і доўгацярплівы Пакутнік —
з Маці Прачыстай Сваёй
ахінаюць мяне
Покрывам ціхамірнасці ўдзячнай,
каб мяне ад мяне ж
абараніць
і апраўдаць
перад Бацькам Нябесным...

■

АСІ

А дзяўчынка кветачцы кожнае рада была.
Сем гадочкаў, што сем кароткіх дзянечкаў,
сама́ пялёсткавым траўнем цвіла.
Ой ты, салодкая вішанька, у садзе жыцця,
што ж так хутка, так скора ты
васільковае поле долі свае перайшла...

■

Было. Каб жа навіна...
Па сухому сунецца дзень.
Кастрышча раскладзена на самым жывым —
душы.
Пякельныя смага, спёка, маўклівыя стогн, енк,
сухія, бы ўпершыню, вочы.
Ратункам мігціць адно трыванне,
покі ветлая раса не дашлецца
зялёным Дрэвам жыцця,
каб даць голас знямоглай душы
І наталіць смагу па вечным...

Наталіць дзеля новага,
шчэ гарачэйшага шляху.
І гэтак бясконца?!

■

Абняла сясцёр —
Горыч і Роспач.
Лагода сумны расповед слухала,
са студні ваду насіла
ды па хаце рупілася.
Не абяцала, не дакарала,
адно мудра ўсміхалася
І, ціхая, бачыла ўжо,
як заглядае ў вокны новы не вырай,
а ім, гаспадыням,
тут векаваць ды яе,
Светлую, анямелым
па новай вясне дадому чакаць...



■

Працінецца скрозь
шчыльную заслону журбы
залацісты, вірлівы промень.
Назавецца тваім імем.
Кранецца тваімі вуснамі
збалелай маёй душы.
Калі?!

**Яшчэ адна спадзяванка беларускай сцэны — рэжысёр Алег ЖУГЖДА. Дыхтоўнасць і поспех ягонага спектакля «Рыгорка — ясная зорка» (п'еса Анатоля Вярцінскага) на Беларускім фестывалі тэатраў лялек (1990) шчыра ўразілі тэатральных людзей некалькіх краін свету. Колькі пытанняў Алегу ЖУГЖДУ прапануе тэатральны крытык Жанна ЛАШКЕВІЧ.**



● Рэжысёр Брэсцкага абласнога тэатра лялек Алег Жугжда.

**— Алег, ваш спектакль уразіў шаноўны публікум і дасціпным увасабленнем, і рэжысёрскаю дакладнасцю, але ці не найперш, на мой погляд,— сваім адметным нацыянальным стылем, які вызначыла батлейка. Як вы наважыліся звярнуцца да яе! Як адважыліся ўзбіцца на традыцыю, на тое, што нібыта даўно вядома, нібыта кананізавана і надзвычай удасканалена, але пэўна невядома амаль нікому з сучаснікаў — нават з людзей дасведчаных, паводле сваёй тэатральнай дзейнасці! Як узнікла задума спектакля!**

— Усё проста: я шукаў назву і, так бы мовіць, звышзадачу для свайго тэатра. Пагадзіцеся, што «Магілёўскі абласны тэатр лялек» гучыць не надта паэтычна і вабна. Звярнуўся да энцыклапедыі, да падручнікаў, як той казаў, да «вытокаў». Доўга разглядаў лялькі — лялькі магілёўскае батлейкі... Чым не назва: «Магілёўская батлейка»?

**— Чаму ж не назвалі!**

— Дык, ведаеце, тэатра... нямашака. Не пабудаваны яшчэ. Ёсць трупа, што туляецца па самых розных пляцоўках, ды тэатральная камора, дзе захоўваецца рэквізіт і надараюцца рэпетыцыі. Калегі ж пагадзіліся з тым, што можна ў с т ы л і батлейкі зрабіць спектакль, які б мог стацца нечым накшталт візітнай карткі тэатра. І зрабілі. Калі вас цікавіць, я к мы яго рабілі, дык заўважу, што любы варты спектакль робіцца... насуперак усяму: тэатральным парадкам, аплаце акцёрскае працы, размеркаванню грашовых выдаткаў на пастаноўкі і да т. п. Каб не браць на сябе зашмат, удакладню — гэтак робіцца па правілах Магілёўскага абласнога тэатра лялек. Кожным спектаклем я нібыта адмаўляю ўласнае становішча — незайздроснае, безграшовае, падпарадкаванае ўсяму, акрамя творчай зацікаўленасці. Каб не вымагаць з вас самага далікатнага пытання, скажу, што спектакль «Рыгорка — ясная зорка» каштаваў трыста рублёў. Раўнютка.

**— Я не стану ўтойваць, што гэты твор за трыста рублёў выклікаў маю шчырую прыязнасць. Не першы год удзельнічаю ў тэатральным, а менавіта — у «лялечным» жыцці Беларусі і, па шчырасці, не магу нават для «асабістага карыстання» скласці ўражанні ў пэўную агульную карціну. Плыняў, памкненняў, кірункаў як быццам няма: ёсць асобныя рэжысёры з асобнымі спектаклямі. Шмат хто з рэжысёраў на расцяробах. Спрабуе то гіперрэалізм, то ледзь не абсурд, то кідаецца да выратавальніка-фальклору (яшчэ прыкрасць тутэйшага тэатральнага жыцця — маўляў, фальклор ці зварот да нацыянальных п'ес забяспечыць поспех ці не дапусціць няпоспеху). Пры гэтым, праўда, часцяком жадае рабіць тое, што модна, што адпрацавана, зроблена кімсьці і недзе, і зроблена ўдала... Паўтарае зады, як мовілі за польскім часам. Мо каб не быць горшым за іншых!**

— Я займаюся лялечным тэатрам таму, што нічым іншым спраўна заняцца не магу. Не ўмею. Мой тэатр — гэта заўсёднае намаганне рабіць сваю мадэль (свае мадэлі) жыцця — іншага жыцця, іншага быцця, іншае — тэатральнае — рэальнасці. Гэтая іншая рэальнасць, дарэчы, перадусім — для сябе. Я жыву ёю. Вы папытаеце, чым «браць» публіку, калі паўсюдна «вытыркаецца» толькі мая асоба? «Браць» публіку, дарэчы,— не з тэатральнага лексікону. Каб можна было спакойна працаваць і не думаць, атрымаеш зарплату ці не, а ў Магілёўскім тэатры такое надараецца, дык ёсць шмат магчымасцей залатвіць публіку і трымаць яе гадзіну-дзве... Але ж і выраз «латвіць» — не з тэатральнага лексікону... Лепей публіку запрасіць — каб утрымаць. Каб надоўга. А гэта можа забяспечыць толькі асоба зацікаўленая. Я, напрыклад,— як рэжысёр.

**— Анёлак у вашай батлейцы традыцыйна стварае і пераўтварае свет. Ці можа гэта стацца праграмаю тэатра!**

— Што ж, тэатр мог бы пэўны час жыць з такою праграмай. Паказаць тое, чаго няма і не можа быць у нашым жыцці-быцці, але што можа прымроіцца ці надарыцца недзе,— іншабыццё. Я ўжо казаў, што ўтварэнне мадэляў іншабыцця — вось, на мой погляд, задача сённяшняга тэатра, у тым ліку і лялечнага.

**— Як вы ставіцеся да перавода тэатраў на беларускую мову! Ці варта гэта рабіць адначасна і загадам! Як хутка, на вашу думку, можна гэта зрабіць!**

— Нягледзячы на тое, што мова дзяржаўная, загадам нічога рабіць не варта. Я — літовец. Па-беларуску гаварыць навучыўся. Мо не так складна, як мае быць, але ўмею. Дайце веры, добрую драматургію на добрай мове заўсёды адрозню ад непатрэбства ды на трасянцы. (Дарэчы, шмат кансультуе мая жонка, былая ашмянская паненка.) У ідэале я б трымаўся завядзёнкі спевакоў: выконваць на той мове, на якой пісалася лібрэта і думаў кампазітар. Праўда, у лялечным тэатры пакуль дамагчыся ўвесці такую самую завядзёнку не выпадае. Паўстае прабле-

# «ШУКАЮ НОВАЙ

ма якаснага перакладу. І, падкрэслю, ягонае даступнасці, іншымі словамі — каб карыстацца гэтым перакладам было проста. Каб прасты рэжысёр з Магілёва не назаляў перакладчыкам і не шукаў ласкі ў знаёмцаў.

**— На гэта некалі звяртаў увагу Аляксей Ляляўскі ў гутарцы з нагоды юбілею свайго тэатра. Ён казаў тады пра нявыдадзеную беларускую спадчыну і яе «шляхетную» ізаляванасць ад служкаў тэатра.**

— Я рэаліст, хоць і летуценнік, і цудоўна ўсведамляю, што праблема, на якой мове, рускай ці беларускай, ставіць, больш вырашаецца ўмельствам рэжысёра, чым ступенню «збеларушанасці» гледачоў. Мне ўмельства хопіць не на кожны твор, каб ставіць яго па-беларуску. Я не заўсёды змагу кампенсаваць незразумелыя большасці гледачоў словы і выразы выяўленчымі сродкамі свайго спектакля.

**— Як думаеце — ці не гарадское асяроддзе вызначае попыт і, адсюль,— тэатральную прапанову!**

— Думаю, яно, асяроддзе. Думаю таксама, што калі ёсць у рэжысёра магчымасць не ставіць розную дрэнь, дык і не трэба. Не разумею, навошта браць кепскія п'есы? Каб зрабіць ласку драматургу? Каб не папсаваць дачыненні тэатра з так званымі патрэбнымі людзьмі? Калі ёсць магчымасць не рабіць і не паказваць кепскі спектакль, дык яе трэба скарыстаць, па-мойму. А калі зважаць на сутнасць праблемы «кепскі-добры», паўстае праблема школы — акцёрскай, рэжысёрскай... Нацыянальнай беларускай школы няма. Ці нам, сучаснікам, пра яе невядома.

**— Згадаем, як доўга «ўкаранялі» Станіслаўскага. Як пэўны час «гвалцілі» нацыянальныя лялечныя тэатры Абразцовым — пры гэтым супраць адметнасці Абразцова не павернецца язык нешта сказаць, але ўсім рабіць, як у яго... Не ведаю, ці была на тое дырэктыва, ці была на тое мода, але на маё дзяцінства, напрыклад, прыпаў менавіта пэўнага кшталту тэатр лялек. Толькі ў сталым узросце я насмелілася захапіцца майстэрствам лялечнікаў...**

— І я цудоўна памятаю часіну, калі ў мінскіх тэатрах «пад капірку» здымалі з Абразцова спектаклі. Мне ж даспадобы тое, што ў свой час Абразцоў заўважыў: рэжысуры навучыць нельга. Я падзяляю ягоную думку. Рэжысёр робіць сябе сам. Інакш штораз свет яму будуць засціць так званыя арыенціры; у лялечнікаў іхняя геаграфія выглядае прыкладна так: вельмі доўга першынство трымала Масква, у семідзесятыя гады — Рыга, потым — Вільня, Талін, Уральская зона, якая славілася досыць працяглы час...

**— Я спадзяюся прычакаць ажыўлення на Беларусі. Будуючы сваю тэатральную рэальнасць, бачу высокую культуру і рэжысёрскую самавітасць часткі беларускіх спектакляў. Крыўдна іншае. Вашы спектаклі ў Магілёве — хто, акрамя гараджан, магілёўцаў, іх пабачыў! Спектаклі «каналі» ціхенька, спісваліся, сыходзілі, а тэатр, здаецца, ніякіх намаганняў не рабіў, каб змяніць жорсткую пазатэатральную рэальнасць — давесці свету сваю адметнасць. Ведаю, аднак, што не ўсё ў тэатры залежыць ад рэжысёра, нават калі ён — галоўны. Тэатр, урэшце, вызначаюць людзі. Не было яшчэ ў гісторыі беларускага савецкага часу, каб у лялечным тэатры рэжысёр вызначаў, запачаткоўваў, ствараў свой тэатр. Яго зазвычай «стаўлялі» на чале калектыву і аўтаматычна рабілі адказным за ўсе калектыўныя грахі. А людзі выпадковыя і працуюць з выпадку.**

— Я неўзабаве падумаў: чаму за мяжою такія ўтульныя маленькія тэатрыкі? Мо таму, што там няма выпадковых людзей? Менавіта! Мабыць і мы прычакаем такіх самых жорсткіх умоў, калі давядзецца скараціцца як мага, калі застануцца толькі самыя-самыя... Можна сур'ёзна падумаць пра міжнародныя кантакты. Дарэчы, мастацтва тэатра няблага «купляецца» за мяжою (хай не здаецца вам гэты пасаж кашчунным), ды пакуль усе вандроўкі нашых тэатраў за мяжу — не камерцыйныя.

**— Калі няможна ўжо без замежжа пачувацца годна, калі ёсць магчымасць кантактаваць, дык фестываль, здаецца, пераканаў вас ва ўласнай канкурэнтаздольнасці...**

— У ідэале, вядома, добра было б распачынаць свой тэатр з падмурка. Вось, да прыкладу, ёсць маленькі беларускі гарадок Ліда (згадкі пра тамтэйшыя гастролі заўсёды прыемныя). Маленькі. Утульны. Не спешчаны лялечнымі паслугамі. Там можна выхоўваць сваіх акцёраў і адначасова — сваю публіку. Пачаць і працаваць у такім гарадку — амаль ідэальна, амаль... Мне б хацелася запачаткаваць тэатр зусім новай фармацыі (тое, што прапануе наша дзяржаўная сістэма, акрамя шматлікіх недахопаў мае галоўны — яно ўжо прошта надакучыла). Ну чаму, адкажыце, я павінен мець дваццаць пяць акцёраў, а не пяць? Навошта мне дырэктар, і менавіта — у той ролі, якую выконвае дырэктар Магілёўскага лялечнага тэатра? А куды мне «ўтыркнуць» загадчыка пастановачнай часткі тэатра, калі ён — няшмат што рабіць налаўчоны?

**— Скарачэнне — як падрыхтоўка да рынку!**

— Па базарных цэнах і з базарнымі нялюдскімі стасункамі? Закон пра культуру мог бы вырашыць сёе-тое, ды яго ўсё ніяк не наважацца... прачытаць у парламенце...

**— Як жа будзем выжываць!**

— Я не надта баюся так званай камерцыялізацыі. Напачатку глядач, якога шмат часу лічылі дурным, з'есць, што даюць, але ж хутка разбярэцца. І тады — вяртайцеся да пачатку размовы, пра «залатвіць» і «запрасіць». А што да высокага мастацтва, дык, на маю думку, самы глыбокі, самы філасофскі ці канцэптуальны, ці яшчэ які твор мусіць мець смачную абалонку, вабную абгортку... Гэта пытанне якасці і рэжысёрскага ўмельства.

**— Ці не давядзецца, паводле рыначных стасункаў, ставіць спектакляў як мага больш!**

— Я за тое, каб ставіць толькі добра, колькі б часу ні спатрэбілася на пастаноўку. Па-мойму, мы так доўга ганяліся за гледачом, што «абагналі», чытайце, згубілі яго. Мастацтва добра «спажываецца», калі яго на ўсіх не стае: гэта адзіны дапушчальны дэфіцыт. Тады можна не баяцца ні канкурэнцыі відэасалона, ні засцянковых уяўленняў пра тэатр, ні забабонных перасцярог крытыкі. Прызнаюся: я нічога не магу планаваць на будучыню. Мы, лялечнікі, каб вы ведалі, жывём ад фестывалю да фестывалю... Так запраграміравана тутэйшым ладам...

**— А што б вы хацелі нажыць да наступнага фестывалю! Важкае першынство ў рэспубліцы! Замежную вандроўку!**

— Перадусім... будынак. Гэта пакуль адзіная каляластацкая рэальнасць, якую прагну ўтварыць для сябе. Рэальнасць, якая шмат што вызначыць, дарэчы...

**P. S. Пад час падрыхтоўкі гутаркі да друку стала вядома: Алег Жюгжда прызначаны галоўным рэжысёрам Брэсцкага абласнога тэатра лялек, адначасова зрабіўшыся «валадаром» невялічкае глядзельнае залы ў сценах рэальнага будынка, хай сабе і не дужа тэатральнага. Першаю прэм'ераю сёлетняга сезона сталася казка, увасобленая ўжо аднойчы ў Магілёве,— казка Анатоля Вярцінскага «Рыгорка — ясная зорка», спраўджаная гэтым разам ва ўмовах больш спрыяльных для творчага роздуму і занятку рэжысураю... Плёну, пошуку... І поспеху, будзем спадзявацца.**

**Фота Пятра СУЛІМЫ.**



● Нараджаецца спектакль «Рыгорка — ясная зорка» па п'есе А. Вярцінскага.



● Людзі і... лялькі.



# РЭАЛЬНАСЦІ...»

# Свая хатка, як родная матка

Родны дом, родная вёска, родны горад, радзіма... Як і калі пачынаюць узнікаць у нашай душы пяшчотныя пачуцці, замілаванне да ўсяго гэтага? Мабыць, фарміруюцца яны паступова, пачынаючы з маленства, калі западаюць у сэрца нейкія вобразы, гукі, словы і нават пахі. І ўжо ў сталым жыцці гэтыя ўспаміны цепляць, падтрымліваюць у цяжкую хвіліну. У маёй памяці пры словах «родны дом» найчасцей усплываюць наступныя малюнкі... Мы перасяляемся ў новую хату: пяцігадовая сястрычка заносіць туды першым нашага ката. «Калі там пасялілася нейкае ліха, яно прычэпіцца да ката, а не да нас» — так сказала бабуля. Над печчу вісіць цыбуля, пад страхой — пучок ярка-чырвонай каліны, на стале — дамашні круглы бохан хлеба, накрыты бялюткай сурвэткай. Бабуля, выпраўляючы мяне на чарговы экзамен у дзесятым класе, заўсёды шчыльна прыкрывала засланкай печ, «каб пашанцавала». Я весела смяялася і сваю чарговую пяцёрку прыпісвала толькі сабе.

Як я часам шкадую свайго сына і яго аднагодкаў, што нарадзіліся і выраслі ў тыповых гарадскіх кватэрах. Што, звязанае з родным домам, успомніцца, які вобраз, якая рысачка адгукнецца цяплом у цяжкую хвіліну жыцця?

І наколькі ж багацейшымі за іх у гэтым сэнсе былі нашы продкі, якія сваімі рукамі будавалі свой дом, дзе кожная драбніца была звязана з нейкімі ўспамінамі. У канцы XIX— пачатку XX стст. у беларускіх сялян існавала традыцыйна асэнсаваная сістэма звычаяў і абрадаў, звязаных з будаўніцтвам новага дома, пераходам, засяленнем сям'і ў яго.

У гэтых звычаях, абрадавых дзеяннях, уяўленнях знайшлі адлюстраванне светапогляд нашых продкаў, іх сувязь з навакольным асяроддзем, любоў да прыроды.

Узвядзенне хаты пачыналася з выбару будаўнічых матэрыялаў і месца пабудовы. Гэта ж колькі ўсяго трэба было ведаць і прадугледзець! Мяркуйце самі. Дрэва на будоўлю лепш за ўсё было ссякаць, калі месяц знаходзіцца ў сваёй апошняй квадры («ветаху»),— тады яно будзе трывалае; ссечанае ў маладзік або паміж квадрамі месяца («на змянах») дрэва нібыта мог стачыць шашаль. Ні адзін прадбачлівы гаспадар не павінен быў ссякаць дрэва ў трэцюю квадру месяца («сход», «гнілую квадру»), бо ў доме, пабудаваным з яго, будзе вельмі доўга трымацца вільгаць. Самымі спрыяльнымі месяцамі для нарыхтоўкі лесу лічыліся сакавік і красавік, таму што сок, які ў дастатку знаходзіўся ў гэты час у дрэве, узмацняў драўніну. Па народнаму меркаванню, на пабудову нельга было браць вывернутага непагаддзю дрэва, бо, быццам бы, яго чорт сабе на кладку выверну ў і разам з дрэвам можа перасяліцца ў новую хату. Таксама нельга было браць таго дрэва, што завісла на другім, бо хутка такі будынак згарэў бы. Вопытны селянін ніколі не браў для будаўніцтва рыпучага дрэва, бо ў збудаванай з яго хаце будуць часта паміраць ці без дай прычыны заходзіцца ад кашлю людзі. Не падыходзіла для гэтай мэты і дрэва, якое пры ссяканні павалілася на поўнач — у доме могуць часта паміраць яго жыхары, а ў хляве — жывёла.

Рупліва падыходзілі і да нарыхтоўкі моху. Для гэтага гаспадар павінен быў пайсці ў панядзелак у лес, наскубці вялікую жменю моху і пакласці на чыстай зямлі; тое ж самае ён рабіў у аўторак, сераду і г. д. Падыходзячы ж у нядзелю да тых кучак і падняўшы кожную, глядзеў, пад якою з іх не было ніводнай мошкі, чарвячка, казюлькі. У той дзень тыдня, у які была нарвана гэта кучка, трэба было нарыхтоўваць мох для будаўніцтва, тады, спадзяваліся, хата будзе чыстая ад усякіх хатніх казюрак.

Па народнаму меркаванню, нельга было для падмурка дома браць каменне з могілак, бо, быццам, увесь час будуць непрыемнасці. Трэба было сцерагчыся, каб на будоўлю не трапіла дрэва з «ваўком», г. зн. з чорнай сарцавінай, бо інакш насельнікаў зноў-такі будуць даймаць хваробы і розныя няшчасці.



● Хата з двума выхадамі ў вёсцы Колбы Пінскага раёна.



● Сучасны дом у вёсцы Лучын Рагачоўскага раёна.



● Разныя вароты ў вёсцы Грады Бярэзінскага раёна.

Як сведчаць этнаграфічныя матэрыялы мінулага стагоддзя, існавала шмат спосабаў, магічных прыёмаў, якімі карысталіся беларускія сяляне пры выбары месца пабудовы. Так, аблюбаваўшы нейкую мясціну, ставілі на тым месцы чыгунок з павуком: калі за ноч ён пачынаў «ткаць кросны», то, лічылася, што месца пад хату выбрана добрае. Шырока бытавала і такое павер'е: калі ў пасудзіне з мёдам, што была пакінута на ноч у невялікай выкапанай на абраным месцы ямцы, пад раніцу з'яўляліся мурашкі, то яно цалкам удалае. На Віцебшчыне ж гаспадар, аблюбаваўшы месца для будучай пабудовы, ішоў і збіраў з чатырох розных палёў па адным няглaдкім камені, якія нёс ці ў шапцы на галаве, ці «за пазушшу», каля голага цела, а пасля клаў на

абранае месца чатырохкутнікам (бок яго не павінен быў быць большы за дзевяць крокаў). Увайшоўшы ў сярэдзіну чатырохкутніка, гаспадар клаў шапку на зямлю, чытаў малітву з просьбай да дзядоў дапамагчы будаўніцтву сядзібы на аблюбаванай зямлі. Калі праз тры дні каменне заставалася некранутым, лічылася, што месца для сядзібы абрана ўдала.

На талаку пры будаўніцтве хаты збіраліся найчасцей сваякі і сябры. На тэрыторыі Беларусі шырока бытаваў звычай пры закладцы дома падкладваць пад вугал манеты, кавалкі хлеба ці сыру, часам галаву пеўня, што было ахвяраваннем дамавіку. У час будаўніцтва ў некаторых месцах на канцы доўгай жэрдкі рабілі крыж і жэрдку тую ставілі ў кут з усходняга боку, дзе яна стаяла ажно да заканчэння будоўлі. Калі ставілі першы вянец, то назіралі, куды паляціць першая трэска: калі ўсярэдзіну чатырохкутніка, то любы прыбытак не будзе пакідаць дома. Усе трэскі, атрыманыя з першага вянца, трэба было сабраць усярэдзіну чатырохкутніка, каб тое, што адбываецца па-за домам, ведалі і ў доме, але каб невядома было на вуліцы, што робіцца ў доме.

Нярэдка пад усе чатыры вуглы падкладвалі кавалачкі ладану, свянцоныя зёлкі, хвойныя галінкі, каб засцерагчы дом ад перуноў. Бытавала ўяўленне, што перунамі праследуюцца нячысцікі, якія, канечне ж, не стануць хавацца там, дзе ляжыць што-небудзь свянцонае. Разам з зёлкамі карысна было пакласці па жмені першай мукі, змолатай на новым млыне ці ў новых жорнах. Лічылася, што калі ў такі дом залезе злодзей, то не выйдзе адтуль, пакуль не вызваліць яго гаспадар. На Гродзеншчыне, закладаючы новы дом, было прынята класці на покуці пад зрубам хлеб, воўну, грошы, каб заўсёды ў гаспадара былі хлеб, грошы, вяліся авечкі.

Шмат павер'яў было звязана з апошнім вянцом. Так, пры завяршэнні пабудовы гаспадар перакідваў праз апошні вянец асвечанае яйка, якое адразу ж закопвалі на месцы падзення, каб вецер не здзіраў страху. Пасля таго, як на гарышчы быў высланы мох, на яго сеялі зярняты аўса і прысыпалі пяском. Авёс узыходзіў і паступова засыхаў, тым самым забяспечваючы багацце ў гэтай хаце.



● Дом з разным франтонам у вёсцы Лескавічы Віцебскай вобласці.



● Разны ганак у вёсцы Дуброўна Віцебскай вобласці.

Здавалася, усё было прадугледжана, але і ў час будаўніцтва хаты селяніна маглі падсцерагаць розныя непрыемнасці. Напрыклад, з'яўленне зайца ў доме, які будуецца, прадказвала, што гэты дом абавязкова згарыць. У такім выпадку пабудова спынялася, а матэрыял ужываўся на дровы.

А якія былі паважлівыя адносіны да майстроў! У народным уяўленні жыла ўпэўненасць, што майстар сваімі дзеяннямі можа забяспечыць шчасце ў новым доме, а можа, наадварот, звесці ўсю сям'ю, наклікаць на дом рознае насланнё: хуткае гніенне дрэва, пажар, буру, калецтвы, хваробы. Звычайна, калі секлі першае бервяно, майстар прыгаворваў: «Гак! Няхай будзе так!» І тое, што ён задумаў, лічылася, абавязкова збудзецца. Але, калі хто прадбачыў благое,— падваліну раскідвалі.

Як толькі быў пакладзены першы вянец зруба, гаспадыня выносіла стол, ставіла яго на сярэдзіну і запрашала цесляроў. Старэйшы з іх, узяўшы чарку, гаварыў: «Дай жа нам, божа, пачатае дзела зрабіць і рук не пабіць, і ад гэтага гаспадара грошай зарабіць, а яму доўга жыць! Каб у яго радзілі валы, коні, каровы і мужчынскія галовы!»

Можна толькі прыблізна ўявіць, якія складаныя пачуцці авалодвалі селянінам, калі ён збіраўся перасяляцца ў толькі што пабудаваны дом, якія мары і спадзяванні пасяляліся ў яго душы.

Звычайна, калі перасялялася сям'я, гаспадар ішоў першым і нёс гаршчок з вуголлем. Следам за ім хатнія неслі маёмасць. Гаспадар абносіў гаршчок уздоўж сцен, крыху прыпыняючыся ў кожным куце, і ставіў яго на прыпечак. Тут жа запальваў у печы дровы. А напярэдадні ў новы дом перш за ўсё пускалі праз акно пеўня ці курыцу: калі певень спяваў — гэта лічылася добрым знакам, калі не — дрэнным. У некаторых мясцінах існавала яшчэ больш складаная сістэма засялення. У першы дзень запускалі пеўня, у другі — гусь, на трэці — парася, на чацвёрты — авечку, на пяты — карову, на шосты — кабылу. Калі ўсе гэтыя жывёліны пераначавалі добра, тады запрашалі свяшчэнніка для асвячэння, затым у сёмую ноч перасяляліся самі.

**ПРЫ ЎЛАЗІНАХ** («уваходзінах») трэба было памазаць мёдам усе чатыры куты, каб жыццё ў ім было салодкае. Як сведчаць шматлікія дарэвалюцыйныя матэрыялы, пераход у новы дом прымяркоўвалі да поўні. У гэты дзень расчынялі цеста ў старым памяшканні, а пяклі хлеб ужо ў новым, прычым дзежку з цестам пераносілі, пакрыўшы яе кажухом, вывернутым воўнай наверх. Таксама было прынята ўкрасці ў суседзяў качаргу і прынесці яе ў новы дом. Абавязкова заносілі перш за ўсё абраз і стол.

Дзе-нідзе на Беларусі сустракаўся такі звычай: пры ўваходзінах праз адчыненыя дзверы кідалі клубок нітак. Трымаючыся за нітку, гаспадар перацягваў усіх усярэдзіну хаты; замест ніткі часта выкарыстоўваліся пояс ці плеценыя аборы.

На Палессі, заходзячы ў хату, прыгаворвалі: «Коб усход було повно і ў бочках збожжы, і ў хлівах слобожы (жывёлы)». Звычайна ў новую хату патрэбныя рэчы заносілі першымі гаспадар ці гаспадыня. Калі ж яны былі бяздзетныя, гэта рабілі па іх даручэнню іншыя члены сям'і, што мелі дзяцей, і нават староннія людзі; прычым пры гэтым перавага аддавалася ўваходу цяжарнай жанчыны. Гэтыя так званыя «парадныя ўваходзіны» імкнуліся дастасаваць, па магчымасці, к часу закладання пабудовы. Тады яна, лічылася, будзе надзейна служыць, а жыхары — мірна жыць у ёй.

У дзень перасялення ў новую хату гаспадары запрашалі гасцей. Увайшоўшы ў дом, госць кідаў грошы на печ, хлеб і соль клаў на стол, зерне — на лаўку. Усё гэта гаспадар новага дома прымаў і адносіў у клець. Жанчыны прыносілі авечую воўну, пасцілкі, абрусы, з прадуктаў харчавання — муку, розныя крупы, яйкі, сала. Гэтыя падарункі, адпаведна, прымала гаспадыня дома. На Гродзеншчыне жанчыны неслі абавязкова што-небудзь салодкае (мёд, цукар, печыва), каб у новым доме сям'і «соладка жылося». Некаторыя госці, акрамя таго, прыносілі жывых курэй, трусоў, гусей, якіх, уваходзячы, пускалі ў хату. Госці звычайна прыходзілі адвячоркам, да больш багатых — да палудня. Святкаванне ўлазін ішло сваім парадкам: песні змяняліся скокамі, скокі — застольнай бяседай. Трэба адзначыць, што на ўваходзінах не было, як, скажам, на традыцыйным вяселлі і радзінах, спецыяльных абрадавых песень, чыноў, гульняў. Застолле вёў найбольш дасціпны і вясёлы з гасцей. Калі гаспадары новай хаты былі маладыя па ўзросту і не мелі яшчэ дзяцей, хто-небудзь з гасцей (мужчына і жанчына) падыходзілі да ложка і спрабавалі, ці моцны ён. Пры гэтым чуліся гулівыя жарты. Мужчыны давалі разнастайныя «парады» гаспадару. Часам падкладвалі пад сяннік які-небудзь жалезны прадмет, каб у гэтых мужа і жонкі нарадзіўся сын.

Некаторым сёння з вышыні нашай вышэйшай адукацыі гэтыя звычаі і абрады могуць падацца смешнымі і недарэчнымі. Але ж ці да смеху і асуджэння тут! Усё, згаданае вышэй, пераканаўча сведчыць: абраднасць, звязаная з будаўніцтвам новай хаты і засяленнем сям'і ў яе, была неад'емнай часткай народнага быту, культуры, светаўспрымання і светаасэнсавання. У разумна арганізаваным жыццёвым укладзе і сялянскай свядомасці галоўнымі паняццямі і каштоўнасцямі былі: дом, сям'я, вёска, грамада, радзіма. Чалавек імкнуўся жыць у суладдзі з навакольным асяроддзем, з людзьмі, мець хлеб, дабрабыт у хаце, здароўе сабе і сваім дзецям.

Я не заклікаю пераносіць у наша жыццё ўсе згаданыя вышэй звычаі і абрадавыя дзеянні механічна, але сёння, калі наспела неабходнасць вяртання да вытокаў, некаторыя з іх маглі б упрыгожыць сучасныя ўлазіны-ўваходзіны і зрабіць іх шчырым, адметным, вясёлым святам.

**Таццяна КУХАРОНАК,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**навуковы супрацоўнік**
**Інстытута мастацтвазнаўства,**
**этнаграфіі і фальклору АН БССР.**

**Фота з архіва ІМЭФ АН БССР.**

# «БЫЎ ПРЫХІЛЬНІКАМ САМЫХ АПТЫМІСТЫЧНЫХ ПРАГНОЗАЎ...»

У часе далёкіх вандровак Г. В. Багамолаў (злева) ля падножжа егіпецкіх пірамід. (Здымак з сямейнага альбома.)



Дзелавы, заўсёды заняты, але ніколі не паспешлівы ў размове, Герасім Васільевіч Багамолаў не мог не цікавіць журналістаў — так шмат даў ён навуцы, народнай гаспадарцы, людзям. Мне пашанцавала быць чвэрць веку знаёмым з ім — абаяльным чалавекам і выдатным вучоным, якога нават замежныя, у прыватнасці, англійскія даведнікі і калегі лічаць выдатным геолагам. Лаўрэат дзвюх Дзяржаўных прэмій СССР, Дзяржаўнай прэміі БССР, ганаровы прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі гідралагічных навук, член геалагічных таварыстваў шэрага краін свету, доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар, акадэмік АН БССР — такі далёка не поўны пералік яго навуковых званняў і ступеняў.

Не мне, журналісту, аналізаваць уклад Герасіма Васільевіча ў навуку, ацэньваць значэнне больш трохсот яго навуковых прац — для гэтага патрэбны спецыяльныя веды. Але ён быў не проста вучоным — быў вялікім, душэўным, неспакойным і мужным чалавекам у навуцы. Пра гэта мне і хочацца расказаць.

У дабротах цывілізацыі ўвасоблены тысячы вынаходстваў, геніяльных знаходак, выдатных адкрыццяў, а мы і не думаем пра іх аўтараў. Ёсць у гэтым заканамернасць: добрыя справы перажываюць сваіх творцаў, на службе людзям набываючы ўласны лёс.

Хіба пра асабісты прэстыж думаў Герасім Багамолаў, калі зусім яшчэ маладым, толькі-толькі размяняўшы чацвёрты дзесятак, абавязаны быў адказаць на пытанне, пастаўленае, як кажуць, рубам: ёсць у Беларусі нафта ці не? Пошукавыя работы, якія ўжо вяліся, вынікаў не далі. І тады ўспыхнула найвастрэйшая спрэчка аб перспектывах пошукаў. Ці варта, маўляў, закопваць народныя грошы ў неўрадлівую зямлю? І ці не робіць гэта хто-небудзь свядома? За такімі, зусім не фінансавымі, пытаннямі стаяў лёс вучоных, будучае беларускай геалогіі, характар і напрамкі развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі...

Вось тады высокія інстанцыі запатрабавалі ў прэзідэнта АН БССР К. В. Горава дакладнага адказу: чыя праўда — прыхільнікаў або праціўнікаў пошукаў падземных багаццяў? Але Гораў — металург. Сваёй навуковай абгрунтаванай думкі аб перспектыўнасці разведкі на нафту ў яго быць не магло. Значыць, трэба звяртацца за такой думкай да тых жа геолагаў. Але нямногія з іх гатовы былі даць тое ці іншае катэгарычнае заключэнне. Вельмі вялікая была адказнасць. І прэзідэнт звярнуўся да Герасіма Васільевіча Багамолава.

— За некалькі гадоў да гэтага ён абараніў кандыдацкую дысертацыю, рыхтаваўся да абароны доктарскай,— раскажа потым, праз дзесяткі гадоў, аўтару гэтых радкоў Канстанцін Васільевіч Гораў.— І ў навуковай кампетэнцыі Багамолава я не сумняваўся. Аднак звярнуўся да яго яшчэ і таму, што ведаў: яго адказ не будзе залежаць ні ад якіх кан'юнктурных або проста асабістых інтарэсаў, нават насуперак ім гэты адказ будзе аб'ектыўны. Ужо тады Багамолава ведалі як чалавека, для якога навуковая ісціна — вышэй за ўсё.

Герасім Васільевіч быў перакананым прыхільнікам самых аптымістычных прагнозаў у адносінах да багацця падземных кладовак беларускай прыроды. І ні пры якіх акалічнасцях, ні пад якім націскам не пагадзіўся б адступіць ад сваёй думкі. Шмат пазней, амаль праз сорак гадоў пасля тых падзей, я запытаўся ў Герасіма Васільевіча: калі навуковыя даныя былі такімі пераканаўчымі, дык што выклікала сумненні ў наяўнасці нафты?

Да чаго ж розная бывала ўсмешка ў гэтага чалавека: то дабрадушна ціхамірная, то нейкая захопленa радасная, то з гэтакай бяскрыўднай хітрынкай. У той раз усмешка яго здалася мне шчыра засмучанай:

— Дык жа чыста геалагічныя даныя тады сведчылі толькі аб тым, што нафта ў рэспубліцы можа быць. Але доказаў, што яна ёсць, было малавата. І калі б гаворка вялася пра іншы, менш вядомы мне раён краіны, я, відаць, не адважыўся б на безагаворачнае сцвярджэнне. Але ў тыя гады я працаваў над складаннем геалагічнай карты Беларусі, добра ведаў яе геалагічную гісторыю. Веды нарадзілі веру, вера прымусіла дзейнічаць.

Ён дзейнічаў. Разам з Горавым, калегамі па навуцы, перакананы ў сваёй справядлівасці, дзейнічаў напорыста, з захапленнем, смела, заражаючы аптымізмам знаёмых і не знаёмых з геалогіяй людзей, прымушаючы быць шчодрымі самых непахісных фінансістаў, добрымі — самых асцярожных кіраўнікоў. У тлумачальнай запісцы да «Геалагічнай карты БССР» у 1938 годзе Герасім Васільевіч навукова абгрунтаваў прагноз на нафту ў глыбінях Палесся. На год пазней, калі выступаў на навуковай канферэнцыі, развіў гэта абгрунтаванне, прама ўказаўшы, што наяўнасць у паўднёвай частцы рэспублікі купалападобных структур і шэраг іншых даных дазваляюць лічыць гэты раён перспектыўным на нафту, соль і мінеральныя воды.

У 1939 годзе на абароне сваёй доктарскай дысертацыі Г. В. Багамолаў зноў сцвярджае: рана ставіць крыж на багаццях нетраў Беларусі. Ён параўноўвае яе геалагічныя даныя з асаблівасцямі шэрага нафтаносных раёнаў краіны і даказвае: нафта тут павінна быць. Яго пункт гледжання падтрымліваюць акадэмік АН СССР Д. Наліўкін, іншыя вядомыя вучоныя.

Разведчыкі працягвалі пошукі, і за месяц да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, у маі 1941 года, прабурыўшы самую глыбокую ў той час

у Беларусі свідравіну (1010 м), знайшлі каменную соль. Аналізы яе на бітумінознасць паказалі: ёсць нафтавыя ўтварэнні.

Пасляваенныя пошукі нафты таксама не адразу ўвянчаліся поспехам. Так, соль ёсць. Прыкметы нафты — таксама. А сама нафта? Яна ўсё больш здавалася міражом, прыгожай, але нерэальнай мрояй. Памятаю першакрасавіцкі жарт тае пары. Аднаму таварышу, які ведаў усе перыпетыі геалагічных пошукаў, пазванілі: «Нафта забіла! Разумееш — першая беларуская нафта!» «Разумею,— адказаў ён,— што нават для першакрасавіцкага розыгрышу трэба прыдумваць нешта больш праўдападобнае...» Вельмі фантастычным здаўся жарт, каб «спрацаваць».

А ён верыў. І працягваў пераконваць усіх. У лютым 1948 года Герасім Васільевіч прынёс у рэдакцыю рэспубліканскай газеты «Советская Белоруссия» артыкул. Спакойны тон слаба хаваў яе палемічнасць, накіраваную супраць маловераў. Аўтар, не ўдаючыся ў вузка навуковыя абгрунтаванні (газета — не акадэмічны веснік, адрасуецца шырокаму колу чытачоў), сцвярджаў: ёсць, павінны быць знойдзены ў Беларусі нафта, калійныя солі, іншыя вельмі каштоўныя карысныя выкапні. Артыкул быў апублікаваны.

Хутка са свідравіны пад Мазыром разведчыкі здабылі керн пясчаніку, насычанага нафтай. Але толькі праз некалькі гадоў яна забіла, потым пацякла па трубах, напоўніла чыгуначныя цыстэрны, пачаўшы сваю гісторыю, свой лёс, ужо аддзелены ад жыцця тых, хто стаяў ля яе вытокаў.

Ды не толькі нафта вось такім чынам выйшла з лабараторных і палявых пошукаў Багамолава і яго паплечнікаў, нарадзілася ў цішыні кабінетных роздумаў, бясконцых разлікаў, графікаў, схем, карт... Сёння Беларусь здабывае амаль палову ўсіх калійных угнаенняў краіны. А найбагацейшае радовішча «каменю ўрадлівасці» носіць назву Старобінскага толькі таму, што было адкрыта паблізу ад невялікага гадка Старобіна, хоць больш справядліва было б назваць яго Багамолаўскім — у гонар таго, хто не толькі з такой дакладнасцю ўказаў, дзе трэба шукаць гэтую соль, але і да канца дзён сваіх вырашаў усё новыя праблемы, звязаныя з яе здабычай. За адкрыццё радовішча калійных соляў Г. В. Багамолаў разам з групай іншых геолагаў быў удастоены Дзяржаўнай прэміі СССР.

Чым больш здабываецца калійнай руды — сільвініту, тым больш збіраецца вакол горада беларускіх шахцёраў і хімікаў — Салігорска солеадвалаў і шламасховішчаў. Вялізныя плошчы ўрадлівай зямлі, закрытыя імі,— толькі адна з бед. Куды больш цяжкая праблема заключаецца ў тым, што вецер і вада разносяць з гэтых тэрыконаў соль на дзесяткі кіламетраў навокал, засмечваючы ёю паветра, зямлю, рэкі, азёры, падземныя воды. І адзін з першаадкрывальнікаў калійнага радовішча Г. В. Багамолаў узначаліў работы па ахове ад солі навакольнага асяроддзя. Пад яго кіраўніцтвам распрацавана і выпрабавана больш дзесятка розных ахоўных расоланепранікальных экранаў. Самым надзейным стаў экран з гліnіста-салявой сумесі на палімернай плёнцы. У аб'яднанні «Беларуськалій» ён штогод эканоміць больш як мільён рублёў. Укараняецца такі экран і на іншых прадпрыемствах па здабычы калійных соляў краіны.

І зноў яа наўрад ці хто, акрамя дасведчаных спецыялістаў, успамінае пры гэтым Герасіма Васільевіча. Крыўдна? Важней, што жыве, працуе, служыць людзям яго дзецішча. І ўсё ж добра, што ёсць у Салігорску вуліца імя Багамолава. Бо памяць — не прыхамаць, не даніна этыкету. Яна вучыць, натхняе, выхоўвае.

Зрэшты, і ваду мінскую таксама можна лічыць і можна было б назваць багамолаўскай — да яе адкрыцця Герасім Васільевіч меў самае прамое дачыненне. Мы, мінчане, сцвярджаем: ні ў адным іншым горадзе краіны няма такой смачнай водаправоднай вады. І зноў жа мала хто ведае, што такой яна была не заўсёды, што знайшоў яе Герасім Багамолаў. У канцы дваццатых гадоў выпускнік Маскоўскай горнай акадэміі, куды ён, сын селяніна-бедняка быў накіраваны па пуцёўцы ЦК РКП(б), узначаліў геолага-гідралагічную экспедыцыю, якая прыехала з Масквы ў Мінск, каб высвятліць найвастрэйшую тады для горада праблему забеспячэння вадой.

У маі 1928 года ў скверы на беразе ракі Свіслач (цяпер парк імя М. Горкага) была закладзена свідравіна, якая з глыбіні трохсот метраў дала ваду, багатую на хларыды. Так нарадзілася цяпер шырокавядомая «Мінская мінеральная сталовая вада». Але яшчэ некалькі гадоў працавала экспедыцыя, вынікі дзейнасці якой перасягнулі ўсе чаканні: быў адкрыты вялікі басейн падземных напорных вод. Матэрыялы тых гідрагеалагічных даследаванняў леглі ў аснову праекта рэканструкцыі Мінска і дагэтуль улічваюцца пры розных работах, як было, напрыклад, пры праектаванні метро.

Дарэчы: аналізуючы атрыманыя ў ходзе работы экспедыцыі даныя, Багамолаў і пераканаўся ў магчымасці пошукаў у Беларусі нафты. Да заканчэння дзейнасці экспедыцыі ён завяршыў яшчэ адну задуму — стварэнне геалагічнай карты рэспублікі. Расквечаная ўсімі колерамі вясёлкі, гэтая карта здаецца недасведчанаму нейкай бясспэнсавай карцінай мадэрніста. Але спецыяліст бачыць на ёй купалы і ўпадзіны, пласты розных геалагічных эпох і магчымасць пошуку тых ці іншых выкапняў. Аб значэнні гэтай карты, створанай Г. В. Багамолавым, красамоўна сведчыць ужо той факт, што яна па рашэнню ўрада была выдадзена ў блакадным Ленінградзе.

Вайна прымусіла Багамолава некалькі змяніць напрамак навуковых пошукаў, прывязала іх да сваіх патрэб. На розных франтах, у розных умовах дае Герасім Васільевіч гідралагічныя абгрунтаванні для ўзвядзення абаронных пабудоў, для водазабеспячэння эвакуіраваных ва ўсходнія раёны краіны прадпрыемстваў. Але самым памятным стаў пошук вады ў асаджаным Ленінградзе, куды спецыяльна для гэтага прыляцеў Багамолаў. Ні разу да гэтага, ніколі пасля гэтага ніводная ўдача, а было іх нямала, не прынесла яму такой радасці, такога адчування выкананага абавязку, як вада, атрыманая са свідравін, прабураных па яго, Багамолава, указанных у тым халодным, галодным, гераічным Ленінградзе.

...Я ўжо прыгадваў яго артыкул у «Советской Белоруссии», апублікаваны ў лютым 1948 года. Роўна праз дваццаць гадоў, у лютым 1968 года, Герасім Васільевіч зноў зайшоў у рэдакцыю:

— Хачу вярнуцца да тэмы той публікацыі,— на гэты раз усмешка яго была крыху гарэзлівай, а рашучы выраз твару сведчыў, што Багамолаў зноў задумаў «парушыць спакой».— Тады падражніў маловераў прагнозамі на нафту. Вось і прыйшла думка адзначыць юбілей артыкула.

— Але цяпер жа ніхто не сумняваецца ў нафце,— запярэчыў я,— яна ёсць, яе здабываюць, дый «Беларуськалій» дзейнічае на поўную магутнасць...

— Не, цяпер не пра гэта размова. Цяпер трэба шукаць металы і алмазы.

Праз некалькі дзён у газеце з'явіўся артыкул, у якім самы слынны вучоны-геолаг рэспублікі сцвярджаў, што на Беларускім крышталічным масіве «за апошнія гады ўстаноўлены характэрныя комплексы парод, з якімі асацыіруюць прыкметы сульфіднай і кобальт-нікелевай мінералізацыі. Шэраг даных сведчыць аб тым, што тут вельмі і вельмі магчымыя радовішчы каляровых і іншых металаў. Многія характарыстыкі Беларускага крышталічнага масіву ў месцах яго сучлянення з упадзінамі прымушаюць звярнуць увагу на выяўленне алмазаносных трубак выбуху і іншых вельмі важных металаў нашай эпохі...»

Фантазія? Не, вядома. Я веру і ў разлікі, і ў інтуіцыю Багамолава. Аб іх надзейнасці сведчыць і нафта, і калій, і мінеральныя воды Беларусі, і многія багацці, адкрытыя пры непасрэдным удзеле Герасіма Васільевіча ў іншых раёнах Саюза і ў шэрагу замежных краін. Бо і да вайны і пасля яе Багамолаў разпораз пакідаў Беларусь, што стала яму роднай, каб дзесьці шукаць падземныя прыродныя скарбы.

...Адным з самых яркіх подзвігаў працоўнай славы ўвайшло ў гісторыю краіны будаўніцтва Магнітагорска. Але нават нямногія сябры Герасіма Васільевіча ведаюць, што ў 1932 годзе ён прымаў там удзел у гідратэхнічных работах на рацэ Урал.

У выдадзенай у 1962 годзе фундаментальнай працы «Падземныя воды цэнтральнай і заходняй частак Рускай платформы» Г. В. Багамолаў сцвярджаў: «З прыведзеных характарыстык кембрыйскіх адкладаў відаць, што... найбольш спрыяльнымі раёнамі для далейшых пошукаў нафты і газу з'яўляюцца тэрыторыі, размешчаныя на захад ад Маскоўскага артэзіянскага басейна — Прыбалтыйская мульда і ў першую чаргу раёны, прылеглыя да горада Савецка...» І зноў пацвердзіўся прагноз акадэміка.

...Каб адзначыць месцы, дзе вёў навуковыя пошукі, чытаў курсы лекцый або ўдзельнічаў у розных кангрэсах Г. В. Багамолаў, спатрэбіліся б карты не толькі нашай краіны, але і абодвух зямных паўшар'яў. Ведаюць беларускага вучонага ў Індыі і Пакістане, Тунісе і Егіпце, Чылі і Іране, ЗША і Канадзе, у многіх іншых краінах.

Лічылася, што ў Індыі нафты няма і быць не можа. У час адной з паездак у гэтую краіну ў якасці кіраўніка дэлегацыі тагачасны намеснік міністра геалогіі СССР Г. В. Багамолаў азнаёміўся з матэрыяламі геалагічных даследаванняў. І засумняваўся ў зробленых па іх да гэтага песімістычных высновах: тэрыторыі Індыі і савецкай Сярэдняй Азіі геалагічна былі вельмі падобнымі. Падзяляюць гэтыя тэрыторыі Памірскія горы. Але яны ўтварыліся пазней і не маглі паўплываць на характар больш старажытных адкладаў. А калі так, не выключана наяўнасць у Індыі тых жа багаццяў, якія ёсць у Сярэдняй Азіі. Спатрэбіўся час, сур'ёзныя даследаванні, разведвальныя работы, каб гіпотэза Багамолава і гэты раз пацвердзілася — нафта была знойдзена.

...У 50-х гадах сутыкнуўся Г. В. Багамолаў у Пакістане з праблемай засалення палёў, што арашаліся прэснай вадой. Загадка ставіла ў тупік многіх спецыялістаў і пагражала земляробству краіны. Зноў старанныя даследаванні, глыбокі аналіз матэрыялаў далі магчымасць зрабіць абгрунтаваную выснову: прычына засалення — нерэгулярнае, вельмі багатае арашэнне пры хуткім выпарэнні вады.

Паводле прагнозаў і разлікаў Герасіма Васільевіча была знойдзена падземная вада ў раёне Тэгерана, што дало магчымасць забяспечыць будаўніцтва шэрага прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку першага ў Іране буйнога млынкамбіната і элеватара. Ён вызначыў рэсурсы прэсных вод у Егіпце і распрацаваў метады іх рацыянальнай эксплуатацыі...

Не цудадзейныя здагадкі ці асаблівае шанцаванне тлумачаць поспехі навуковых работ Багамолава. Талент і найбагацейшыя веды не толькі ў геалогіі, але і ў шэрагу сумежных (і не зусім сумежных) навук дазвалялі Герасіму Васільевічу па саставу і іншых характарыстыках падземных вод і паравых раствораў, што ўтрымліваліся ў пародах, па тэмпературных даных, характару рэльефу, розных іншых паказчыках вызначаць працэсы, што адбываліся ў тым ці іншым раёне ў розныя геалагічныя эпохі, і па сукупнасці ўсіх звестак — вырашаць пытанні мэтазгоднасці пошуку карысных выкапняў. Многія з метадаў аналізу такіх матэрыялаў і высновы з іх сталі асновай тэарэтычных работ Г. В. Багамолава, што трывала ўвайшлі ў арсенал савецкай гідрагеалогіі.

...Крыху прадаўгаваты твар з шырокім разлётам густых броваў зрэзаны глыбокімі маршчынамі. Негустая сівізна. Нізкі голас. Нетаропкая гаворка. Вельмі розная, заўсёды іншая, усмешка, зрэшты, дастаткова рэдкая. Прамая, так і не сагнутая гадамі, пастава. У рукапоцыску, у хадзе, у манеры размаўляць, ва ўсім абліччы адчуваецца надзвычайная сіла. І чыста фізічная, і нейкая ўнутраная, што дала магчымасць столькі зрабіць, столькі паспець, столькі добрых спраў пакінуць людзям... Такім знешне запомніўся ён, Герасім Васільевіч Багамолаў. І ўсё ж не верыцца, што яго няма, усё здаецца, што зараз пачуецца тэлефонны званок і басавіты голас, павітаўшыся, спытаецца, напрыклад:

— Вас не цікавіць праблема аховы фауны і флоры Нарачанскай групы азёр?

— А якое мае дачыненне геалогія да фауны?

— Геалогія звязана з усім, і ўсё — з геалогіяй,— напаўжартам адкажа голас, як гэта было зусім, здаецца, нядаўна, калі Герасім Васільевіч узначаліў даследаванні, нацэленыя на захаванне і выкарыстанне прыродных комплексаў беларускай жамчужыны — Нарачы.

Ілья МАСТКОЎ.

# Мінск - Лондан

## ЗГАДКІ ПРА МАСТАКОЎ ЭМІГРАНТАЎ

### 1. Конскі базар

Ёсць у Мінску Конскі базар, дзе так хораша пагуляць у светлую цёплую нядзелю бабінага лета. Вось я і зайшоў на базар паглядзець на палахліва-чырвоных рыбак у трохлітровых зіхаткіх слоіках, на дрогкія вушы трусоў, на ганарыстыя постаці выпешчаных сабак... Я гуляў па базары дзеля ўласнай дробнай радасці, як раптам у гаманкім натоўпе мільганула знаёмая куртка, звычайная, джутавая, сіняя. Мне згадаўся Валера Мартынчык і нашая выпадковая, цяпер ужо далёкая сустрэча на конскім базары. Мы ведалі адзін аднаго гадоў пяць, але неяк ненатуральна моцна здзівіліся, пабачыўшы адзін аднаго на базары, каля закратаваных будак з нутрыямі. Чамусьці мы ўзрадаваліся гэтаму здарэнню і заўсміхаліся так шырока, што ажно не па-сапраўднаму. А цяпер, праз успамін той даўняй весялосці, мне зрабілася сумна. І гэты сум не змаглі прагнаць ні блазнаватыя хамякі, ні бесперапыннае танчанне акварыумнай фауны. Мне зрабілася сумна, што Валеры няма ў Мінску, што нельга зайсці да яго ў майстэрню, нельга папіць гарбаты і пагартаць новыя каталогі з мастацкіх выстаў пад час нетаропкай размовы з джутавым рыцарам беларускага авангарда — панам Мартынчыкам. Валера жыве ў Лондане, і можна затэлефанаваць, але сквапная падсвядомасць пачне лічыць хвіліны і памнажаць рублі — размовы не атрымаецца, а тады і тэлефанаваць няма ніякага сэнсу. І застаецца адно чакаць, калі Валера прыедзе на, так бы мовіць, вакацыі, і мы зноў будзем шырока ўсміхацца і жартаваць...

### 2. Знаёмства

А пазнаёміў мяне з Мартынчыкам Гена, той самы легендарны авангардыст — Хацкевіч-Мінскі, які цяпер жыве ў Парыжы, у нейкіх там кінутых салдатамі казармах, дзе гуртуюцца напаўпрызнаныя творцы-эмігранты. Гена, як і большасць мінскіх мастакоў, па заканчэнні інстытута апынуўся на вуліцы са скруткамі сваіх прац і з малапатрэбным дыпломам у кішэні. Валера Мартынчык зрабіў высакародны жэст: дазволіў Хацкевічу-Мінскаму атабарыцца і працаваць у сваёй маленькай майстэрні. Вось у гэтую майстэрню, што месцілася ў старым двухпавярховым доме ў Верхнім горадзе старажытнага Мінска, і прывёў мяне Гена. «Ты ўбачыш геніяльнага мастака. У Мінску такіх больш няма. Я, калі першы раз пабачыў ягоныя працы, дык вачам сваім не паверыў.— Пакуль мы ішлі цёмным вільготным калідорам, які моцна смярдзеў прыбіральняю ды гнілою драўлянай падлогаю, Гена размалёўваў Мартынчыка, не раўнуючы, як гандляр на кірмашы свае тавары.— Мартынчыку спадабаўся твой жывапіс, і я вас зараз пазнаёмлю». Мы зайшлі ў пакойчык, набіты рознымі рознасцямі да стракацення ўвачу. І чаго толькі там не было, не стаяла, не вісела, не гучала?! Карціны, ну, гэта зразумела, малюнкі, абразы, прайграванькі... Мяне ўразіла кафляная грубка і дровы. І гэта ў самым цэнтры беларускае сталіцы (вуліца Энгельса, дом 2)! Зрэшты, якая дзяржава і дзяржаўнасць — такая і сталіца і народ такі. А народу ў майстэрні было поўна. У адным кутку сядзеў прусакаваты керамiст Лёша Мартынаў і чытаў уголас Данііла Хармса, тады яшчэ забароненага, дзве дзяўчынкі з вачамі добрымі, не раўнуючы, як у палескіх цялушак, пілі гарбату і слухалі.

Трэцяя дзяўчына баракальнага аблічча сядзела ў фатэлі і пазіравала. Глюганосы малявальшчык з рабымі сялянскімі рукамі крэмзаў бялюткі аркуш тупым алоўкам. Мы павіталіся, я сеў побач з глюганосым, а гэта і быў Мартынчык, рабіць накіды з губастай баракальна-абрыснай дзеўкі. Мартынчыкавыя накіды мне не спадабаліся — сухаватыя і нават вучнёўскія. А я, тады студэнт-дыпломнік, верыў у сябе больш, чым ва ўсіх астатніх. Каб хоць неяк вылучыцца, я пачаў угаворваць добразычлівую дзяўчыну распрануцца і пазіраваць аголенай. Валера мяне падтрымаў, і мы разам ледзь не ўламалі яе, але Лёша Мартынаў пачаў абурацца сваім густым голасам, маўляў, перашкаджаем слухаць геніяльныя творы. У рэшце рэшт мне надакучыла маляваць і слухаць Хармсавы жарты, я развітаўся і сышоў.

### 3. Беларускае пытанне

Раз-пораз я пачаў заходзіць да Валеры, бо падабалася дэмакратычнасць, што панавала ў цеснай майстэрні. Мартынчык нагадваў мастака Ёну, але не біблейскага, а з твора Альбера Камю. Валера, як і Ёна, мог працаваць у самых неверагодных умовах: навокал спявалі, крычалі, пілі, смяяліся, а мастак пісаў свае вялікія, якія толькі магла змясціць майстэрня, палотны. І, як Ёна, Мартынчык верыў у сваю зорку. І гэта Валерава зорка гарэла над недасяжнай Заходняй Еўропай і клікала мастака. Пра тое, што Мартынчык збіраецца эмігрыраваць, ведалі ўсе, і тыя, каму трэба, і тыя, каму ўсё роўна. Ён гэтага не хаваў.

І якім глупствам здаюцца мне цяпер усе развагі пра «сплыванне мазгоў». Мы губляем таленты, мы трацім каштоўныя творы і выдатных творцаў. Абураюцца... Але чакайце-чакайце, шаноўныя! Хто такія «мы»? Адкуль такая ўпэўненасць, што вы маеце права на чужы розум, на чужую творчасць, на чужое жыццё ў рэшце рэшт? І я скажу, што гэтае жаданне вырашаць за іншых нарадзілася ў таталітарнай імперыі. І гэтае «мы» — пачварнае ў сваёй дыктатарскай сутнасці.

Мастак Валера Мартынчык з'ехаў з Мінска спачатку ў Варшаву, а потым у Лондан. І гэта яго права выбіраць месца, сваё месца на зямлі, пад сваёй, а не вашай і нашай зоркаю. Мне сумна, што яго няма ў Мінску, але я ніколі не скажу, што Беларусь і Мінск страцілі мастака. Ці можа Каталонія страціць Сальвадора Далі? Ці можа Віцебск страціць Шагала? А можа Беларусь страціла Арсеньеву? Абсурдныя пытанні. Банальныя ісціны, якія нашаму, майму напаўцывілізаванаму грамадству яшчэ давядзецца ўсвядоміць і прыняць. І калі быць адкрытым, дык трэба дадаць, што цяжка не тым, хто застаўся, а тым, хто з'ехаў. Мне можа быць сумна, няўтульна ад пустэчы, і нават крыўдна, але цяжка Мартынчыку ў Лондане, Хацкевічу-Мінскаму ў Парыжы, і я гэта разумею.

Што да беларускага пытання ў жыцці Валеры Мартынчыка, дык трэба апісаць такі факт. Калі Валеравы палотны былі скручаны ў рулоны, а малюнкі складзены ў папкі і перавязаны тоўстымі белымі вяроўкамі, мы — Гена Хацкевіч-Мінскі, Валера Баброў, Валера Мартынчык, я і яшчэ дзве кабеты — пайшлі ў рэстаран адзначыць развітанне. І сапраўды, не кожны дзень мастак пакідае Радзіму, тым больш такую, з якое цяжка з'ехаць і яшчэ цяжэй вярнуцца. Валера расказваў, як ездзіў да бацькі ў Гародню, як хадзіў на магілкі і папраўляў капцы сваіх дзеда і бабы, як... Ну, рэстаранная размова з ухілам у пранізлівы кранальны сентыменталізм. І неяк сама сабою зайшла гаворка пра Беларусь, пра мову, пра тутэйшую літаратуру. Тут трэба падкрэсліць, што творцы наогул не любяць, калі ў іх прысутнасці хваляць калег. І калі можна яшчэ пачуць добрае слова ад беларускага мастака пра сябра мастака, дык пачуць нешта добрае пра беларускага літаратара ад беларускага літаратара ці ад музыкі пра музыку — зусім неверагодна. А паміж рознымі творчымі саюзамі пануе татальная раз'яднанасць. І не спрабуйце абурацца, бо калі пачну запісваць, што, напрыклад, акторы тэатра Янкі Купалы гавораць пра беларускіх драматургаў, дык давядзецца ўзаконьваць на Беларусі ўсю брудную лаянку, а я гэтага не люблю і не хачу. Як і вы, спадзяюся. А вось у рэстаране я не стрымаўся, і калі Гена Хацкевіч-Мінскі нешта сказаў на беларускую паэзію, дык я запрапанаваў наступнае: хай усе ідуць у Валераву напаўспакаваную майстэрню, а я знайду і прывяду беларускага паэта, і ён давядзе, што паэтычныя штандары не так нізка апусціліся, як таму-сяму здаецца. Паэта я знайшоў, і паэт гэты быў пан Анатоль Сыс.

### 4. Аб'яднанне «Форма»

У Валеры Мартынчыка была крыху дзівацкая прага да стварэння розных альтэрнатыўных афіцыёзу маскоўскіх аб'яднанняў. І я думаю, што гэта з-за ўласнай раздвоенасці, бо нават калі да ад'езду заставалася крыху больш як месяц, Валера паехаў у Крым і ў спякотным курортным Гурзуфе напісаў шэраг маленькіх, памерам у дзве паштоўкі, эцюдаў з кіпарысамі, белымі дамкамі, сінім морам. «Нашто ты гэтым займаешся? Гэта ж салоннае, другаснае мастацтва...» На маё пытанне быў адказ: «А раптам мае карціны не спадабаюцца? Яны тут не ўспрымаліся, хто заручыцца, што іх там зразумеюць і прымуць. А салон і тут і там аднолькавы. Можа, і там давядзецца марскімі хваламі прыгандлёўваць, каб жыць». Вось як. А тут Мартынчыку даводзілася, «каб жыць», выкладаць з дробных каменьчыкаў велізарныя мазаікі пад Кішчанку. Дарэчы, калі нехта і адыграваў у жыцці Мартынчыка вялікую ролю (не буду казаць, што станоўчую), дык гэта... Аляксандр Кішчанка. Менавіта Кішчанка выкладаў у Валеры, калі той вучыўся ў тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Менавіта ад Кішчанкі Мартынчык навучыўся бязбедна існаваць. А што да Валеравай раздвоенасці, дык адзін бок — сацыялістычны рэалізм у яго найвышэйшай іпастасі — манументальным мастацтве, а з другога — камерны абстрактны жывапіс. Мартынчык, як ніхто іншы ў Мінску, распалавініў сябе. І каб не застацца адзінокім супраць цэлай арміі афіцыёзных манументалістаў, ён пачаў збіраць вакол сябе аднадумцаў, для якіх станковы жывапіс стаіць вышэй за манументальны, для якіх уласнае «я» больш каштоўнае за дзяржаўнае «мы». Пасля шмат якіх спроб і няўдач Мартынчык усё ж стварыў мастакоўскае альтэрнатыўнае аб'яднанне «Форма» і, як гэта бывае, сам стаў першай ахвярай гэтае структуры. Бо праз год пасля стварэння «Формы» шмат хто з «фармаўцаў» ужо лічыў Валеру рэтраградам, кансерватарам і, што ўжо зусім няпраўда, бяздарным мастаком. Мартынчык пакінуў «Форму», дзе запанавалі анархічныя ідэі ўсёдазволенасці і было канчаткова адрынута паняцце прафесіяналізму. І яшчэ Валера аформіў усе дакументы, каб стаць грамадзянінам суседняе Польшчы.

P. S.

Па заканчэнні звычайна робяцца высновы. Я абмяжуюся канстатацыяй фактаў.

На Беларусі пачыналася так званая «чацвёртая хваля» эміграцыі, і як бы мы да яе ні ставіліся, яна пашыраецца.

Вольнаму воля!

**Адам ГЛОБУС.**

● Валерый **МАРТЫНЧЫК** з карцінаю.

● Генадзь **ХАЦКЕВІЧ-МІНСКІ.** Вітражы ў лякарні.



● Валерый **МАРТЫНЧЫК.** Кампазіцыя.





● Валерый **МАРТЫНЧЫК.** Здарэнне.



**Наша гутарка, можна сказаць, пачалася адразу, з тэлефоннага званка. На пытанне пра час і месца сустрэчы для інтэрв'ю Віктар Цімафеевіч ТУРАЎ адказаў у сваю чаргу пытаннем:**
**— А вы даўно бывалі ў кінатэатрах!**
**У мінулыя гады, якія прынята ў нас цяпер называць застойнымі, наўрад ці рэжысёру такога класа — народнаму артысту СССР, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі СССР — прыйшло б у галаў хваляваацца наконт рэпертуару кінатэатраў. Сёння для людзей, якія прафесійна звязаны з кінематографам, гэта гучыць як пароль. Даўно ў асяроддзі кінематаграфістаў не сакрэт, што перабудова, пачатая V, «рэвалюцыйным», з'ездам Саюза кінематаграфістаў СССР, прынесла плён, якога, шчыра кажучы, не чакалі. Хваля фільмаў, якія вызначаюцца нізкім мастацкім густам пры ўсёй так званай сацыяльнасці, захліснула экраны краіны. Ніхто не возьмецца сказаць, колькі ігравых стужак выпускаецца зараз у пракат. Іх ствараюць часцей за ўсё ў непрафесійных умовах, тым больш, што існуе адносная свабода ў здабыванні фінансавых сродкаў ад спонсараў.**
**Значна спрасцілася і схема выхаду фільма ў пракат. Фактычна тут няма якіх-небудзь абмежаванняў. Зараз толькі на дзяржаўным кінапрадпрыемстве захавалася пэўная сістэма кантролю, якая па-свойму накіравана на рэгуляванне якасці фільма. Аднак і тут стала вальней, і ўся пайната адказнасці цяпер ляжыць на плячах мастака.**
**Пакуль грамадства палемізуе наконт пераходу да рынычных адносін, у кінакультуры ўтварыўся свой «базарчык», дзе з поспехам дзейнічаюць законы капіталу. Пра гэта красамоўна сведчаць кінаафішы, якія паўсюдна зазываюць гледача на нізкапробную заходнюю прадукцыю. Вядома, спакусліва было б спаслацца на «люстранасць» крытычных станаў грамадства і кінакультуры. Але, на жаль, ад гэтага не становіцца лягчэй, калі бачыш, як знізілася ў нашага гледача цікавасць да савецкага фільма. А ў мастакоў і дагэтуль усё яшчэ няма адзінства поглядаў на шляху пераадолення крызісу...**
**Дзе ж выйсце і ў чым шукаць магчымасці абнаўлення кінематаграфічнай сітуацыі! Так можна было б вызначыць накірунак нашай гутаркі з Віктарам Цімафеевічам Туравым.**

# «АДРАДЖЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ — НЕ ЧАРГОВАЯ КАМПАНІЯ...»

**Віктар ТУРАЎ:** — Абнаўленне... Гэта досыць складаная пастаноўка пытання. Вось я працую з курсам, які мы набралі паўтара года назад. Гэта ідэя — рыхтаваць рэжысёраў-пастаноўшчыкаў для рэспубліканскай кінастудыі з хлопцаў і дзяўчат, якія нарадзіліся і выраслі тут, у Беларусі,— даўно лунала ў паветры. Але «прабіць» яе аказалася намнога больш складана, чым прыйсці да ўсведамлення яе неабходнасці. І ўсё ж нас пачулі...

**Ніна ФРАЛЬЦОВА:** — Вы хацелі сказаць, што пачулі дзякуючы вашым намаганням або перабудове?

**В. Т.:** — Я хачу сказаць, што гэта пэўным чынам узаемазвязана. Так, зараз мастак пастаўлены ў такія ўмовы, калі ён павінен быць не толькі мастаком. Арганізацыя кінасправы, яе эканамічны бок, камерцыя, рэклама — кінематаграфічная прастора значна пашырылася. У ёй трэба рухацца, дзейнічаць, падпарадкоўваць абставіны разумным мэтам. Вазьміце нашу студыю — «Беларусьфільм». Хіба нам не трэба ў першую чаргу думаць пра тое, каб за гэтай назвай стаяў канкрэтны змест, каб пад гэтай маркай, а не пад маркай «савецкі фільм», беларускія карціны выходзілі на замежныя прагляды, каб пра нас ведалі і нас пазнавалі?

**Н. Ф.:** — Можна падумаць, што раней на студыі пра гэта не клапаціліся...

**В. Т.:** — Так, як зараз,— не. Раней усё рабілася праз Маскву, праз цэнтр. Цяпер адкрыліся вялікія магчымасці для самастойнасці: шукаць міжнародныя кантакты, зарабляць сродкі, каб умацаваць матэрыяльна-тэхнічную базу кінавытворчасці. Мы ўзяліся вучыць моладзь, значыць, неабходна ствараць умовы, каб студэнты з першага курса ўваходзілі ў прафесію. А гэта — стужкі, тэхніка, на якую трэба патрацішца.

**Н. Ф.:** — Усё гэта, як кажуць у Адэсе, мае месца быць. Аднак, па чутках, «Беларусьфільм» як студыя-фабрыка даўно ўжо не гарые. Яна была і засталася ў рэспубліцы манапалістам на кінавытворчасць. Фільмы, якія здымаюцца па-за яе сценамі, а такіх карцін зараз нямала, так ці інакш вяртаюцца ў цэхі, прытым за немалую плату за тэхналагічнае абслугоўванне.

**В. Т.:** — Я не бачу ў гэтым крыміналу. Жыццё дыктуе свае законы. Калі думаць пра бліжэйшую будучыню, пра лёс тых жа студэнтаў, якім праз пару гадоў трэба будзе здымаць курсавыя, а затым дыпломныя работы, і думаць практычна, з адказнасцю за вынікі, дык «Беларусьфільм» павінен застацца «Беларусьфільмам».

**Н. Ф.:** — Цікавая ў нас атрымліваецца гутарка: скразны сюжэт у ёй — гэта новае, пакуль невядомае пакаленне кінематаграфістаў. Вы яго часам не ідэалізуеце?

**В. Т.:** — Мне вельмі не хочацца, каб яны адчувалі сябе як на правінцыяльнай студыі. У адрозненне ад Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі ў нас няма магчымасці паслаць іх некуды на практыку. Усё адбываецца тут, у цэбе на вачах. Літаральна на днях была сур'ёзная размова. Прачытаў іх справаздачы аб практыцы, якую яны праходзілі пасля першага курса ў нашых здымачных групах. Максімалісты! Убачылі тое, што не з'яўляецца галоўным у кінематографе.

**Н. Ф.:** — Не падобныя на вас у маладосці?

**В. Т.:** — Абсалютна — яны проста перакананы, што жыццё належыць ім. Вы не паверыце, але я дагэтуль жыву з пачуццём здзіўлення, што мяне, хлопца з-пад Магілёва, «разгледзеў» на прыёме ва УДзІК Аляксандр Пятровіч Даўжэнка. Што ён ува мне знайшоў? Гэта на ўсё жыццё для мяне загадка. А якая майстэрня ў нас падабралася! Атар Іаселіяні, Эльдар Шэнгелая, Ларыса Шапіцька... А якая была творчая атмасфера, атмасфера, створаная таленавітым Майстрам, чалавекам абаяльным, прыгожым ва ўсіх адносінах.

**Н. Ф.:** — Мне здаецца, вашаму пакаленню наогул пашанцавала. Прырода надзяліла талентам, хрушчоўская «адліга» — рэальнай надзеяй на грамадскае прызнанне.

**В. Т.:** — Вы памыляецеся. І вельмі. Не ўсё і не заўсёды было гладка. У мастацтве так ніколі не бывае.

**Н. Ф.:** — Не магу з вамі пагадзіцца. Я вельмі люблю два вашы першыя вялікія фільмы «Я родам з дзяцінства» і «Праз могілкі». Пры ўсёй трагічнасці тэмы вайны была ў іх адухоўленасць, цэласнасць светаадчування. А гэта, мне здаецца, прысутнічае ў мастаку тады, калі ён жыве без унутранага і знешняга разладу.

**В. Т.:** — Вы забываецеся пра «Вайну пад дахамі». Гэты фільм вярэдзіць мяне, як незагойная рана. Мне не далі зрабіць яго такім, як было задумана. Хацелася сказаць праўду пра вайну, пра беларускае падполле, паказаць, як гэта было на самай справе. Не далі, не атрымалася. Я тады кінуў усё, паехаў у Маскву. Пазней Паўлёнак (тагачасны дырэктар Дзяржкіно БССР.— Рэд.) прыклаў нямала намаганняў, каб угаварыць мяне вярнуцца, прапанаваў адразу ж новую пастаноўку...

Не, ніколі не было прастаты, адназначнасці.

**Н. Ф.:** — А што было?

**В. Т.:** — Заўсёды былі складанасці. Тая ж «Нядзельная ноч»...

**Н. Ф.:** — Гэты фільм, хутчэй за ўсё, сацыяльны заказ часу, як гаварылі тады.

**В. Т.:** — Менавіта так — сацыяльнасць і надзённасць. Аднак жа, глядзіце, карціна не губляе актуальнасці і сёння...

**Н. Ф.:** — Гэта праўда. Праблемы п'янства — у нас «вечная» тэма.

**В. Т.:** — Карціна выклікала сумненні, непрыняцце ў нашых партыйных органаў. Яе не хацелі прымаць. І толькі падтрымка П. М. Машэрава выратавала справу. Хаця і потым сцэнарыст А. Петрашкевіч быў гатовы выразаць сцэну з дзецьмі. Нягледзячы на высокую ацэнку, выказаную на праглядзе карціны.

**Н. Ф.:** — Магчыма, грэх гаварыць аб нейкай этычнай кампенсацыі ў мастацтве, але, па-мойму, улады заўсёды няблага да вас адносіліся...

**В. Т.:** — Я заставаўся і застаюся такім, які ёсць. Самім сабою. Паставіў





● Сцэна з новага фільма Юрыя Марухіна «Маці ўрагану», пастаўленага па аднайменнай п'есе У. Караткевіча. Фота Георгія ПЯСЧАНСКАГА.

столькі фільмаў, колькі паставіў. Іншых у мяне няма. Магчыма, будуць — не ведаю. Зараз падняліся новыя, тыя, што прыйшлі намнога пазней за мяне. Вось гэта радуе. У студыі імя Ю. Тарыча, якой я кірую тры апошнія гады, шмат цікавых людзей. Аляксандр Мароз стварыў «Круглянскі мост» па аднайменнай аповесці Васіля Быкава. Дзмітрый Зайцаў, у нядаўнім цудоўны аператар...

**Н. Ф.:** — З якім вы знялі фільм-дылогію «Людзі на балоце» па прозе Мележа, узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР...

**В. Т.:** — ...закончыў работу над экранізацыяй аповесці Э. Ажэшкі «Хам». Карціна знята ў двух варыянтах — для вялікага і тэлевізійнага экранаў.

**Н. Ф.:** — Я паспела паглядзець стужку. Мне спадабалася. Думаю, і глядач прыме гэту экранізацыю. У ёй ёсць пачуццё жанру, ёсць каханне, здрада, моцныя чалавечыя пачуцці. Карацей, ёсць тое, чаго вельмі не хапае на сучасным экране.

**В. Т.:** — Гэтыя рэжысёры па праву ўвайшлі ў беларускі кінематограф. У іх вялікі творчы патэнцыял. І гэта — новыя імёны.

**Н. Ф.:** — А як папаў у гэту плеяду Мікалай Бурляеў з экранізацыяй не лепшай аповесці Васіля Бялова «Усё наперадзе»? Таксама як новае імя?

**В. Т.:** — Я б не спяшаўся з такімі рэзкімі высновамі. Апошняе слова за гледачом. «Беларусьфільм» не закрыты для прапаноў збоку. Тым больш, калі размова ідзе пра мастакоў, у якіх у мінулым толькі адна карціна, як у Бурляева. Няхай людзі спрабуюць...

**Н. Ф.:** — А як справы з паваротам «Беларусьфільма» да нацыянальнай спадчыны? У вас, на «Беларусьфільме», Ю. Марухін экранізаваў аповесць У. Караткевіча «Маці ўрагану». Калі не памыляюся, у рэспубліцы гэта ўсяго толькі чацвёрты фільм па творах арыгінальнага і глыбока сучаснага пісьменніка?

**В. Т.:** — Я б не назваў гэта паваротам. Ідзе натуральны працэс, які ўпісаны ў кантэкст усёй нашай культуры. Не люблю раздаваць авансы, але ўсё ж спадзяюся, што ў Б. Шадурскага атрымаецца гістарычны фільм — экранізацыя аповесці В. Адамчыка «Раіна Грамыка». Зараз ідзе падбор натуры.

**Н. Ф.:** — Ці трэба гэта разумець так, што рэспубліканская студыя набудзе ўрэшце свой нацыянальны твар?

**В. Т.:** — Бачыце, адраджэнне нацыянальнай культуры — не чарговая кампанія, якую нехта абвясціў і яна пакацілася па гладкіх рэйках. Гэта — рух і, магчыма, са сваім рытмам, сваімі заканамернасцямі, умяшацца ў які нават са шчырымі намерамі, значыць, выклікаць пэўныя вынікі. Можна садзейнічаць яму, але не трэба перашкаджаць. Калі страчаны культурныя традыцыі не толькі ў культуры, але і вакол яе — у сацыяльнай прасторы, неабходна аднавіць ці наноў стварыць умовы, у якіх чалавеку будзе жыццёва важным адчуць сябе беларусам. На гэта, напэўна, спатрэбяцца гады і гады. У сферы ўласна кінематаграфічнай — асабліва. Для нашага кіно гэта надзвычай вострая праблема. Дзесяцігоддзямі рабіліся арганізацыйныя намаганні, каб беларуская тэматыка прысутнічала ў творчых планах. Але ж мы з вамі бачым зараз, што не ў адной арганізацыі справа. Неабходна, каб выспела эстэтычная, псіхалагічная аура, ментальны ўзровень якой быў бы дастаткова высокім. Тады ў ёй будуць вырастаць мастакі, унутранай патрэбай якіх стане нацыянальная самасвядомасць.

**Н. Ф.:** — А не атрымаецца так, што дзяржаўная датацыя, якой удалося дамагчыся намаганнямі кінастудыі, Саюза кінематаграфістаў, Міністэрства культуры рэспублікі на развіццё праграмы беларускага нацыянальнага кіно, ператворыцца ў яшчэ адну спробу рэанімацыі, і ўсё?

**В. Т.:** — Мы вяртаемся да пачатку нашай размовы. Калі я гаварыў пра канкрэтны змест, якім павінна напоўніцца назва нашай кінастудыі,— «Беларусьфільм», я меў на ўвазе перш за ўсё нацыянальную кінапрадукцыю. І, вядома ж, фінансаванне маладых, пачынаючых мастакоў, якія падаюць надзеі. (Вы правільна заўважылі, што ў думках я ўвесь час звяртаюся да сваіх выхаванцаў — гэта цяпер мой самы вялікі клопат.) Сярод іх, дапускаю, могуць аказацца і тыя, хто зараз у нас вучыцца.

**Н. Ф.:** — Не баіцеся канкурэнцыі?

**В. Т.:** — Інакш кажучы, ці не капаю я сабе магілы? Азірніцеся навокал. Паглядзіце, што адбываецца ў Маскве, у Мінску ў кінематаграфічнай сферы. Расколы, раздзелы, звадкі... Да чаго прывялі наватарскія дэкларацыі — да адкрытай «чарнухі» на экране? Саюз кінематаграфістаў рэспублікі застаўся без Дома кіно...

**Н. Ф.:** — Але ж Чырвоны касцёл вярнулі па прызначэнню — каталіцкай абшчыне...

**В. Т.:** — Не пярэчу. Гэта правільны і высакародны ўчынак. Я пра іншае. Пра тое, што ўсё, што зараз адбываецца, зусім не сведчыць аб тым, што ў рэспубліцы няма свайго кінематографа. Ён ёсць. Са сваёй гісторыяй, традыцыяй, людзьмі, урэшце. Каб кінематограф стаў патрэбен рэспубліцы, неабходна перш за ўсё самім кінематаграфістам рашаць свае бліжнія і дальнія задачы. Рашаць не ў барацьбе з рэаліямі жыцця, а ў рабоце. На ўласнай кінастудыі — на «Беларусьфільме». Моладзь не павінна адчуваць сябе ў нашай блізкай будучыні лішняй. Ёй, безумоўна, прыйдзецца нялёгка. Але маладыя павінны расці з пачуццём упэўненасці, што іх чакаюць.

**Н. Ф.:** — Не думаю, каб унутраныя пытанні нашага кінажыцця хвалявалі сёння шырокага гледача. У яго сваіх праблем хапае. Сумна, што аб значэнні культуры для здароўя грамадства мы ўспомнілі ў момант, калі радавому працаўніку зусім не да хвароб культуры.

**В. Т.:** — Таму я і лічу, што крызіс у кіно ў многім можна было б папярэдзіць, калі б мы цвяроза і стала ацанілі сябе збоку, убачылі б месца і ролю кінамастацтва, як, прынамсі, і ролю кінамастака. Мы, на жаль, не ўмеем, не навучыліся берагчы таленты, падтрымліваць здольных людзей.

**Н. Ф.:** — Згодна з вамі. Тут многім, калі не кожнаму, можна прад'явіць рахунак. Сячом з-за пляча...

**В. Т.:** — Асабліва, крытыкі...

**Н. Ф.:** — Бывае, што і мастакі не надта адстаюць ад нас. А калі сур'ёзна, то вы на самай справе закранулі хворае пытанне.

**В. Т.:** — Калі памёр Аляксандр Пятровіч Даўжэнка, наш курс сабраўся разам. Было такое адчуванне, што мы страцілі апору, нас пакінуў Майстар, які ўвесь час нябачна крочыў побач з намі. Але на кожным з нас, яго вучняў, застаўся водбліск, не, не яго славы, а яго духоўнага святла і яго творчай драмы. Я не маю права параўноўваць сябе з Даўжэнкам. Але маім хлопчыкам, маім студэнтам, стараюся аддаць усё, што магу. Яны будуць іншымі. Яны і зараз ужо іншыя, не такія, як мы, як наша пакаленне. Што адкрыюць яны для сябе ў кінематографе і што кінематограф адкрые перад імі? Ці змогуць яны пераступіць рысу, перад якой спыніліся мы? Мастацтва кіно — гэта святая справа. Яно павінна ўзнімаць душу, усяляць веру ў жыццё...

**Ніна ФРАЛЬЦОВА.**
**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

**Уладзімір ДАВЫДОЎСКІ**

# Цяпер тут цудоўна

АПАВЯДАННЕ

Які ўжо раз я намагаюся, каб зрабіць гэты крок і не магу, нават у думках! Гэта невыносна. Мне здавалася, што можна забыць пра ўсё — пра сяброў, пра каханне, нават пра сумленне, але ўжо два гады мне не дае спакою здарэнне, якое перажыло ўсе астатнія ўспаміны і застаецца такім натуральным, быццам адбылося ўчора.

У тую восень навалілся непрыемнасці. Сабраліся ўсе разам, ды так, гуртам, і навалiліся. Бязлітасна. Жахлівы марафон па пакутах, па непаразуменнях, нават у самым блізкім асяродку. Маркотнае блуканне ў сабе. І горад, які згубіў свае акрэсленыя геаметрычныя формы ў струменях дажджоў, што сцякалі па шкле акна, горад, які зрабіўся такім далёкім і неканкрэтным пад гвалтам бясконцых залеваў і расчараванняў.

Прырода: лес, азёры, рэкі, неба — гэта быў адзіны паратунак ад каменнае крушні, дзе я жыў, ад думы ды турбот, у якіх тады існаваў. У такіх варунках шлях доўга не абіраюць. Я назваў прыпынак, які першы патрапіў на вочы ў раскладзе цягнікоў, і ўзяў квіток.

Мясціны былі незнаёмыя, але мяне апанавала абыякавасць да ўсяго, і я моцна не рупіўся наконт пошуку ўтульнага месца, я пайшоў, куды вочы глядзелі, у досыць вабны лясок, што пачынаўся, па маіх меркаваннях, кіламетры за два ад чыгункі.

Хутка шаты дрэваў рассунуліся над маленькім круглым возерам, паверхня якога была роўная і спакойная. Ад сцяны лесу да сярэдзіны трапяткога люстра цягнуўся яшчэ зялёны, але ўжо з барвовымі плямінамі мох. Мяне задаволіў тутэйшы спакой, і я ўладкаваўся на беразе.

Вечар быў выдатны. Цёплы. Пад зззяннем незлічоных зорак я хутка пачаў забываць пра непрыемнасці.

Ішло на поўнач. У хуткім часе меўся ўсплысці месяц. Я маркоціўся ў чаканні срэбнага зіхоткага святла. І раптам... Вяршыні дрэваў ледзь пачырванелі... Неба пачало святлець. Дзіва! Гадзіннік паказвае пяць мінут на першую, а тут... золак. Нічога незразумела. Але. Гэта быў золак.

Цяжкае чырвонае сонца з вялікім намаганнем узняло сваё круглае цела над вострымі вяршынямі дрэваў і адразу абрынула ў возера, раздрабілася на тысячы кропак зіхоткага атозіева. Я, бы зачараваны, назіраў гэта і ўжо нават не намагаўся што-колечы ўцяміць. Ніколі не лічыў сябе паэтам, але гэтыя зорачкі зачароўвалі.

Старожка ступаючы па калючай коўдры, якая хісталася на вадзе, я падышоў да краю. Бліскучкі гуляліся са мной. Яны то павялічваліся, то, раптам, сцягваліся ў срэбныя ніты. Зорны дождж?!

З возера скрозь гульню сонечных зайчыкаў на мяне глядзела маё адлюстраванне. Нейк надта пільна, як мне падалося, і я ўсміхнуўся гэтым сваім думкам... Божухна! У яго ж зусім не мая вопратка!!! Увогуле, гэта, без сумненняў, я, але ў прыгожай старадаўняй світцы.

«Так. Я звар'яцеў! Звар'яцеў! Толькі гэтага бракавала!» — упарта паўтараў я сабе. А тым часам зорны дождж засціў усё перад маімі вачыма. Памятаю, кружылася галава. Сэрца білася ў дзікім рытме. Я пачынаў задыхацца. Але хутка паветра зрабілася чыстым і празрыстым. Не было лесу. Не было возера. Замест яго пад нагамі цвірчэла маленькая ручаіна і... насупраць стаяў Ён у дзіўным старадаўнім гарнітуры. Я жахнуўся нашаму падабенству.

Бяздонныя былі тыя вочы, што пільна ўглядаліся ў маю душу. Бяздонне зацягвала і лякала адначасова. У самых далёкіх закутках падсвядомасці я адчуваў: усё тое, што адбываецца навокал, можа шмат ува мне змяніць, але не разумеў, што. Чалавек, здавалася, хацеў штосьці сказаць, ды нейкая невядомая перашкода яму замінала. Якая? Няўжо гэтая вузенькая ручаіна, якая цвірчэла між намі і спатыкалася аб дробныя камяні? Яна была нібыта непахісная мяжой між двума светапоглядамі — маім, светам рэчаіснасці, развагі да турбот, і светам ягоным — светам нечага вышэйшага, амаль недасягальнага. Ён быў няздольны перакрочыць гэтую надзвычайную мяжу. Значыць, крок павінен зрабіць я.

Я ўпершыню апынуўся перад выбарам, які абяцаў так багата змяніць. Я разумеў, што за гэтым крокам — нешта новае і да галавакружэння істотнае. Мяне туды цягнула, і я ўжо амаль наважыўся, як раптам мяне апанавалі сумненні: дзеля чаго? Можа, лепей — існаваць чалавекам, які трывала і даўно звыкся з навакольным асяроддзем такім, якое яно ёсць? Ці не перашкодзіць ён мне? А, можа, усё гэта толькі мроіцца? Я стаяў у нерашучасці. Тое, што было насупраць, не давала пайсці прэч, мае ж сумненні не дазвалялі зрабіць крок.

Маўчанне зацягвалася. У вачах чалавека ў світцы з'явіліся непаразуменне, разгубленасць, крыўда... Яны пачалі паступова згасаць.

— Чакай! Я наважыўся! Я зраблю крок!!!

Не, я гэтага не крыкнуў. Я не наважыўся. У паветры завіс срэбны дождж, і я апынуўся на беразе круглага возера ў халодным месячным святле.

О! Д'ябал! Я не магу болей апоўначы бачыць гэты яскрава-чырвоны золак! Чаму ўсё паўтараецца гэтак дакладна? Будзь кляты пачатак! Надыдзі канец гэтым пакутам!

Нікому непадуладнае чырвонае сонца зноўку драбіцца ў вадзе на тысячы кропак зіхоткага атозіева. Вочы засціць бліскавічны дождж. Скрозь яго на паверхні возера вымалёўваецца постаць. Маё адлюстраванне? Ну, так. Ён дакладна такі, як я, але вопратка... Гэты чалавек апрануты ў дзіўны старадаўні гарнітур. Ягоныя вочы заўсёды велізарныя і глыбокія. Ён пранікнёна глядзіць на мяне, паўз мяне. Ён вярэдзіць мне душу. Гэта — цяжкі гіпноз, які перыядычна наплывае на мае мазгі...

Зорны дождж рассыпаецца ў паветры. І тое былое мроіва ўжо не здань — яно робіцца явай.

Няма возера. Ёсць вузкая ручаіна, а насупраць, у адным кроку ад мяне, стаіць Ён. Маленькая ззяючая ў імху стужка — бы неадольная мяжа паміж мной ды ім. Але ж, нас падзяляе толькі адзін крок, за якім спасціжэнне нечага вышэйшага і невядомага.

Я зраблю гэты крок. Я вырашыў цвёрда. Я прымаю твой выклік, таямніца!..

Дзікі звон!..

Дзікі звон разрывае паветра, і нішто не здольнае заглушыць злачынную навалу. О, адчай!.. Зноўку ручаіна пераўтвараецца ў возера, зноўку сплывае пад ваду мой двайнік, зноўку я не ўтрымліваюся ў паветры і лячу ў...

З тэлефоннае трубкі пачуўся жвавы дзявочы голас:

— Алё! Гэта Уладзя?

— Так. Прывітанне.

— Вітаю. Чым займаешся?

— Зараз... Ну... як табе сказаць?..

— Што, чарговае вар'яцтва? Ну-ну! Але ты мне, усё адно, падабаешся...

— Міўо. Я заўсёды падабаюся ўсім тады, калі не падабаюся сам сабе. Мо растлумачыш хаця ты: чаму?

— Дзіўны ў цябе голас... Але... увогуле, гэта нумар 33-15-96?

— Не.

— Вай, даруйце! Я, пэўна, памылілася.

Зранку я рушыў у каменныя крушні горада, але ўжо тады падсвядома адчуў, што мой спакой парушаны, і назаўсёды. Я яшчэ не думаў, што не здолею сабе прабачыць тае нерашучасці, але вось яно, пакаранне,— нават праз доўгі час не магу забыцца пра здарэнне.

Я намагаўся, спрабаваў пераканаць сябе ў тым, што ўсё гэта — не болей, чым трызненне. Я шукаў апраўданні сабе і тлумачэнні былым падзеям, але марна. Ён, які знянацку з'явіўся ў маім жыцці, ужо трывала ўладкаваўся там. Я не магу болей бачыць вачэй, што раз-пораз глядзяць на мяне, і цяпер ужо з папрокам. І не магу выкрасліць яго са свядомасці — гэта вышэй мае моцы. Я павінен быў зрабіць крок. І я яго зраблю. Сёння. Я вырашыў канчаткова.

Ноч. Грукат колаў. У тамбуры паўзмрок. Апошні вагон. Шанцуе! Прынамсі, магу бачыць шлях, які бяжыць назад і знікае ў цемры. Зваротны шлях. Я стаю, асветлены цьмяным ліхтарыкам. Рэйкі, скрадзеныя кволым святлом з неабсяжнай пашчы змроку, з хуткасцю цягніка імчаць ад мяне час, час паміж дзвюма акрэсленымі станцыямі; той, звыклай, дзе ўсё існуе ў рэальных адчуваннях, і той, дзе ява не падпарадкоўваецца ніякім законам і руйнуе межы нашых уяўленняў, станцыяй, якую выкрасліць са свядомасці ўжо немагчыма. Там пачынаецца новы адлік,— адлік, які зрабіў непаўнавартаснай звыклую хаду жыцця.

У тамбуры робіцца тлумна. Постаці побач адзначаюць сваю прысутнасць смуродлівымі воблакамі цыгарэтнага дыму ды гаворкай. Я шчыра зайздрошчу ім, бо яны рухаюцца ў гэтым канкрэтным цягніку і адлічваюць час па гадзінніку на руцэ. Яны вераць, што гэты рух няспынны, хаця падсвядома і ўяўляюць сабе наяўнасць стоп-крана.

Душна. Пачынае балець галава. У скронях адчуваю ўдары пульсу, якія перагукваюцца з размераным ляскатам колаў. Напачатку — дысананс. Але паступова грукат пераходзіць у адзіны нясцерпны такт, які адлічвае нябачны, нікому не падуладны велізарны метраном. Як б'еццa сэрца!.. У паветры рассыпаецца срэбны дождж. Пад нагамі цвірчыць маленькая ручаіна... І Ён стаіць у адным кроку ад мяне! Ён чакаў майго рашэння! Сёння ён верыць мне. Я цвёрда вырашыў! Я раблю гэты крок! Дай руку!

— Гэй, Вань, чаго гэты ёлупень там стаіць ужо паўгадзіны?

— Дык а я скуль ведаю? Падыдзі ды спытай сам!

— Цяпер тут цудоўна,— голас чалавека ў бушлаце бязлітасна парушыў мае апошнія намаганні. Нечаканыя словы стварылі ўсё тое, што цяпер знаходзілася вакол: калдобіны, каляіны, рэшткі лесу, якія заслугоўвалі спачування, стракатанне бульдозераў, што ўпэўнена засыпалі ямінамі ад толькі што скарчаваных дрэваў. Усё гэта выклікала ў мяне хутчэй пачуццё жалю і роспачы, чым замілаванне. Божухна! Няўжо я стаю на тым самым месцы?! Няўжо я асуджаны так ніколі і не зрабіць кроку насустрач?! Насустрач таму, каго нарадзіў гэты, цяпер ужо згвалтаваны, краявід...

Не зважаючы на маю зацятасць, чалавек гучна дэкламаваў завучаную некалі фразу:

— Вось бачыш, нават сама прырода адступае перад нашай гаспадарчай хадой!

— Так. Цяпер тут цудоўна.

Малюнак Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**



# Чалавек на лаўцы

Жорж СІМЯНОН. Працяг. Пачатак у №№ 1—3.

— Ты сказаў ёй, што ты з паліцыі?

— Вядома, не. Я сказаў, што я ягоны сябра і што мне трэба тэрмінова яго знайсці.

— І яна адаслала цябе ў кнігарню?

— Угадалі. Яна ні аб чым не падазрае. Ён выйшаў з дому, як звычайна, у пачатку дзевятай. Яна паняцця не мае ні аб якім юрыдычным факультэце. Бацька працуе ў магазіне тканін. Яны не такія багатыя, каб іх сын вучыўся ва універсітэце.

— Што ты зрабіў далей?

— Зрабіў выгляд, што памыліўся, што, напэўна, у яе сына тое ж прозвішча, што і ў майго сябра. А пасля папрасіў паказаць яго фатаграфію.

Мегрэ маўчаў, не выяўляючы ніякага захаплення. Па ўсім адчувалася, што Сантоні ў камісаравай брыгадзе — пачатковец.

— Адыходзячы, шэф, я непрыкметна...

Мегрэ працягнуў руку.

— Дай.

Камісар адразу зразумеў, што Сантоні ўкраў фатаграфію. Мяркуючы па здымку, Жарыс быў яшчэ зусім маладзён — худы, нервовы, валасы доўгія, як у дзяўчыны. Напэўна, падабаецца жанчынам і ведае пра гэта.

— Гэта ўсё?

— Паглядзім, ці вернецца сёння ўвечары галубок дамоў?

Мегрэ ўздыхнуў:

— Паглядзім...

— Вы незадаволены?

— Не, чаму ж...

Навошта яму нешта тлумачыць?.. Сантоні зрабіў усё так, як зрабіў бы любы пачатковец, чалавек з іншай брыгады. Калі-небудзь ён сам усё зразумее.

— Не думайце, што я ўпусціў дзяўчыну. Я ведаю, дзе яе знайсці. А палове шостай, самае позняе без чвэрці шэсць яна вяртаецца ў кантору і здае выручаныя грошы і акцыі. Мне туды ісці?

— Правер, ці вернецца яна на працу і ці паедзе на вакзал.

— Можа, і сябра з'явіцца?

— Можа. Калі ён звычайна вяртаецца дамоў?

— У сем гадзін. На вячэру. Ён заўсёды прыходзіць у гэты час дамоў, нават калі пасля куды-небудзь сыходзіць.

— У іх, відаць, няма тэлефона?

— Няма.

— А ў кансьержкі ёсць?

— Не думаю. Не такі гэта дом, каб да яго правялі тэлефон. Але я праверу.

Ён пагартаў даведнік.

— Зазірні туды а палове восьмай і папытайся ў кансьержкі, ці вярнуўся ён. А фатаграфію пакінь мне.

Раз ужо Сантоні яе прыхапіў, лепш пакінуць яе тут. Можа, прыдасца.



Калі ён іх набыў, то не рашыўся надзець адразу ж. А калі дома разгарнуў скрутак, жонка засмяялася:

— Ты што, збіраешся іх насіць?

Так ён ніколі іх і не абуў. Жонка сама аднесла іх назад у краму пад той маркай, што яны малыя.

Луі Турэ таксама купіў сабе незвычайныя чаравікі — і Мегрэ надаваў гэтай акалічнасці асаблівы сэнс.

Напэўна, гэтая пакупка была для Турэ сімвалам ягонага вызвалення ад хатніх аковаў. У жоўтых чаравіках ён адчуваў сябе вольным. Пакуль ён у іх, пакуль не надзявае зноў чорных — ніхто, ні жонка, ні дачка, ні радня не маюць над ім ніякае ўлады.

І яшчэ. Таго дня, калі Мегрэ купіў іх, яму аб'явілі аб надбаўцы — дзесяць франкаў у месяц. Тады франкі яшчэ былі франкамі, і ён адразу ж адчуў сябе багатым.

Мабыць, тое ж самае здарылася і з Турэ. Ён вярнуў пазыкі, зрабіў падарункі сваім былым саслужыўцам... Пасля таго пачаў наведваць панну Леон і кансьержку.

Але чаму ён ніколі не казаў нікому, чым займаецца?..

Кансьержка выпадкова ўбачыла яго ў адзінаццаць гадзін раніцы на лаўцы на бульвары Сен-Мартэн.

Яна нават не загаварыла з ім, зрабіла выгляд, што не заўважыла яго. Ведама ж, такі чалавек, як пан Турэ, у гэтым узросце, у гэткі час, калі ўсе, як мурашы, завіхаюцца на працы, нібыта апошні абібок, разваліўся на лаўцы!

І Сэмброн таксама ўбачыў яго нядаўна на лаўцы. Праўда, гэтым разам у іншым месцы, на бульвары Бон-Нувэль, але ўсё ж — за два крокі ад бульвара Сен-Мартэн.

Бухгалтар не быў такі далікатны, як кансьержка. А можа, Турэ яго сам першы прыкмеціў?

Ці меў ён з кім-небудзь на гэтай лаўцы спатканне? Хто быў гэты чалавек, які хадзіў каля лаўкі, нібыта чакаў нейкага знака?

Сэмброн пра яго амаль нічога не сказаў. Але адно ягонае меркаванне было вельмі істотнае:

«Ён быў падобны да чалавека, які прызвычаіўся сядзець на лаўках».

Мабыць, гэта быў чалавек без пэўнага занятку, які бавіў час на лаўках, разглядаючы ад няма чаго рабіць прахожых.

У кожным парыжскім квартале — свой тып разяватых праціральнікаў штаноў. Можа, гэта быў пенсіянер? Але на бульвары Сен-Мартэн пенсіянеры — нячастыя госці.

Дзве несумяшчальныя рэчы: з аднаго боку — жоўтыя чаравікі франта, з другога — баўленне часу на лаўцы, занятак чалавека старога або апушчанага.

А нарэшце прыйшоў дзень, калі нехта нячутна пракраўся ўслед за ім у тупічку і за дзесяць крокаў ад натоўпу на бульвары ўсадзіў яму ў спіну нож. І што, што магло спатрэбіцца Турэ ў гэтым тупіку?..

За акном цямнела, прыйшлося запаліць лямпу. Мегрэ ўстаў і зняў паліто з вешалкі.



А можа, Турэ зайшоў сюды проста да ветру?.. Не, насупраць ёсць прыбіральня...

Невэ ўздыхнуў:

— Толькі б знайсці тую жанчыну...

А камісару хацелася знайсці таго чалавека, які на мігах прасіў у Турэ дазволу прысесці побач, пакуль той гаварыў з Сэмбронам.

Камісар пачаў разглядваць людзей на лаўках. Ён ведаў, што ў кожнай лаўкі ёсць свае заўсёднікі, якія звычайна прысаджваюцца ў адзін і той самы час. Прахожыя не зважаюць на іх. Але самі заўсёднікі добра ведаюць адзін аднаго. Камісар згадаў, як аднойчы пані Мегрэ, седзячы на лаўцы ў скверы Анвэр, зусім выпадкова навяла яго на след аднаго забойцы.

— На тваім месцы,— сказаў Мегрэ,— я меней бы займаўся магазінамі, а болей людзьмі на лаўках. Пасядзі, пазнаёмся з заўсёднікамі.

— Добра, шэф,— зноў уздыхнуў Невэ. Такая перспектыва не радавала, хадзіць цікавей.

Ён ніколі б не паверыў, што камісар з радасцю згадзіўся б апынуцца на ягоным месцы: і хадзіў бы, і сядзеў — Мегрэ з задавальненнем згадваў той час, калі служыў простым інспектарам.

## 4. ПАХАВАННЕ

Назаўтра камісар змарнаваў паўдня, даваўся быць сведкаю на судзе. Прыйшоўшы ў аддзяленне, Мегрэ адразу ж запытаўся ў Сантоні, які займаўся сябрам Монікі Турэ:

— Ніякіх навін пра Альбэра Жарыса?

— Ніякіх.

Хлопец так і не прыйшоў дадому. У магазін ён сёння таксама не прыходзіў, не быў і ў рэстаране, дзе звычайна абедаў з Монікай.

Цяпер Сантоні займаўся хлопцам разам з Люка, які закончыў учора працу па іншым расследаванні. Яны звязваліся з усімі паліцэйскімі пастамі. Жанв'е ўсё яшчэ шукаў краму, дзе быў набыты нож, якім забілі Турэ.

— Невэ не званіў?

— Паўгадзіны назад. Сказаў, што пазвоніць у шэсць.

Камісар стаміўся. Перад вачыма стаялі твары прысяжных, злачынцы, адваката. Навошта яму гэтая цяганіна?

— Лапуэнт нічога не знайшоў?

Маленькі Лапуэнт абабегаў усе мэбляваныя пакоі раёна, каб даведацца, ці не здымаў адзін з іх Турэ. Павінен жа ён быў недзе пераабувацца!

Цяпер у кожнага быў свой участак працы.

Памаракаваўшы, Жарыса перадалі Люка, а за Сантоні засталася адна Моніка Турэ. Што, калі Жарыс стане шукаць яе ці захоча што-небудзь паведаміць ёй пра сябе?

Тым часам прыходзілася разглядаць розныя службовыя паперы, адказваць на непатрэбныя тэлефонныя званкі. Усё ж такі дзіўна: ніхто так і не пазваніў камісару ў сувязі з забойствам...



— Напэўна, вы і вашы сёстры знаёмыя з усімі, хто будзе на пахаванні, а я не ведаю нікога... Я папрасіў бы вас паказаць мне на пахаванні незнаёмых людзей, калі такія будуць.

— Вы думаеце, прыйдзе забойца?

— Неабавязкова. Але мой абавязак — нічога не ўпускаць.

— Вы маеце на ўвазе якую-небудзь жанчыну? — спыталася пані Турэ. І яе твар, і твары сясцёр адразу ж сталі аднолькава злыя.

— Я нічога не маю на ўвазе. Я шукаю забойцу. Калі заўтра на пахаванні вы зробіце мне знак, я зразумею.

Мегрэ папрасіў прабачэння за клопаты і выйшаў. Маньен правёў яго да дзвярэй.

— Натрапілі на след? — спытаўся ён тонам, якім гавораць з доктарам пасля агляду хворага.

— Не.

— І не маеце ніякіх падазрэнняў?

— Ніякіх. Да пабачэння.

У машыне Мегрэ ўспомніў, як дваццацігадовым юнаком ён трапіў упершыню ў сталіцу. Тады яго найбольш уразіў няспынны рух натоўпу, калаўрот сотняў тысяч людзей. Ён з міжвольнай трывогаю назіраў за тымі, хто, страціўшы раўнавагу, кідаўся ў паток і плыў па цячэнні. Але асаблівае спачуванне выклікалі ў яго сціплы і чыста адзетыя людзі. Якія толькі намаганні яны ні прыкладалі, каб застацца на паверхні і ствараць ілюзію, што яны жывуць і што гэтае жыццё вартае таго, каб яго пражыць!

Вось і Луі Турэ дваццаць пяць гадоў сядаў кожнае раніцы ў адзін і той самы цягнік, бачыў адны і тыя ж твары, а ўвечары вяртаўся ў сваё жытло, якое Мегрэ называў у думках «домам трох сясцёр». Хоць сёстры і жылі на суседніх вуліцах, яны закрывалі нябожчыку далягляд, як вялізны мур.

— У камісарыят, шэф? — спытаўся шафёр.

— Не. Дамоў.

Гэтым вечарам ён пайшоў з жонкаю ў кінатэатр на бульвары Бон-Нувэль, той самы, куды хадзіў і Луі Турэ.

Назаўтра зранку пайшоў дождж. Мегрэ паспеў добра прамокнуць, перш чым удалося сесці ў таксоўку. Халодныя кроплі сцякалі з капелюша за каўнер.

— На набярэжную Арфэўр.

Пахаванне адбудзецца ў дзесяць. Мегрэ з нецярпеннем чакаў, калі прыйдзе Невэ. Ён вырашыў узяць яго з сабою: а раптам каго-небудзь пазнае на пахаванні?..

— Ёсць што новае? — спытаўся камісар у Сантоні.— Не?.. Складзі спіс Жарысавых сяброў, знаёмых, увогуле, усіх, з кім ён сустракаўся апошнія гады.

— Я ўжо пачаў.

— Працягвай.

З'явіўся Невэ.

— Надвор'е пахавальнае,— буркнуў інспектар.

— Вы застаяцеся тут?
— Не ведаю. Але ты сувязь з аддзяленнем падтрымлівай.
— Дык чым мне пакуль заняцца? У мяне ёсць яшчэ дзве гадзіны.
— Правер спісы мэбляваных пакояў. Магчыма, які-небудзь запісаны на імя Луі Турэ.
— Думаеце, ён здымаў пакой у Парыжы?
— А дзе ж, ты думаеш, ён пакідаў свае жоўтыя чаравікі і чырвоны гальштук перад тым, як вярнуцца дамоў?
— А сапраўды?..
Дзве гадзіны назад пачалі прадаваць вячэрнія газеты. У іх быў змешчаны маленькі фотаздымак Луі Турэ з кароткім подпісам:
«Луі Турэ, забіты ўчора пасля абеду ў тупіку ля бульвара Сен-Мартэн. Паліцыя ідзе па магчымым следзе».
Па магчымым следзе... Гэта была няпраўда. Але газеты заўсёды дадаюць што-небудзь ад сябе. Цікава, зрэшты, што дагэтуль ніхто не пазваніў камісару, каб атрымаць дадатковыя звесткі.
Амаль заўсёды ў падобных выпадках нехта заяўляе, што ведаў забітага або бачыў яго незадоўга да смерці, ці паведамляе, што заўважыў на месцы злачынства якога-небудзь падазронага чалавека. Звычайна большасць падобных сведчанняў праверкаю не пацвярджаецца. Аднак іншым разам яны дапамагаюць натрапіць на след.
Тры гады Луі Турэ ад'язджаў з Жувізі адным і тым самым цягніком і вяртаўся дадому ў адзін і той самы час. Тры гады ён нязменна браў з сабою свой загорнуты ў кавалачак цыраты абед, як рабіў гэта ўсё сваё жыццё.
Але куды ж ён дзяваўся, прыехаўшы на Ліёнскі вакзал? Вось у чым была загадка.
Першыя месяцы ён хутчэй за ўсё шукаў новае месца. Стаяў, як і многія іншыя, у чарзе перад рэдакцыямі, каб потым імкліва кінуцца па ўказаным у свежым выпуску газеты адрасу. А можа, спрабаваў хадзіць па кватэрах, прадаючы што-небудзь накшталт пыласосаў?..
Але раз яму прыйшлося ў рэшце рэшт пазычыць грошы ў панны Леон і старога бухгалтара, то, відаць, нічога ён не знайшоў.
Потым ягоныя сляды губляюцца на многія месяцы. А яму ж трэба было не толькі штомесяц прыносіць дамоў сваю ранейшую зарплату, а яшчэ і аддаць пазыку.
А ён кожнага разу вяртаўся дамоў, як ні ў чым не бывала, з выглядам чалавека, які адпрацаваў увесь дзень.
Ні жонка ягоная нічога не падазравала, ні дачка, ні сёстры.
Але вось аднаго разу ён раптам з'яўляецца на вуліцы Клін'янкур у панны Леон, вяртае пазыку і прыносіць маці цукеркі.
А на нагах у яго новыя і — чамусьці — жоўтыя чаравікі.
Можа, менавіта ў гэтых жоўтых чаравіках і была адна з прычын, з якой Мегрэ адчуваў сімпатыю да забітага?.. Ён сам у свой час марыў аб жоўтых чаравіках. У дні ягонай маладосці яны лічыліся апошнім крыкам моды.
Аднойчы, неяк неўзабаве пасля жаніцьбы, ён купіў сабе такія. Дарэчы, ён купляў іх якраз на бульвары Сен-Мартэн, насупраць тэатра Амбігю.



— Ало! Мегрэ слухае.
Гаварыў Невэ. Відаць, з нейкага бістро, бо з трубкі чуліся гукі музыкі.
— Нічога асаблівага, шэф. Знайшоў на лаўках трох чалавек, якія памятаюць Турэ. Усе паўтараюць адно і тое ж: Турэ быў заўсёды ветлівы, ахвотна загаворваў з імі. Адна старая кажа, што звычайна ён ішоў адсюль да метро «Рэспубліка».
— Яна яго бачыла з кім-небудзь?
— Яна — не. Але адзін бадзяга сказаў, што аднаго разу Турэ некага чакаў, а калі той чалавек падышоў, яны разам пайшлі адсюль. Але ён так і не змог апісаць гэтага чалавека, сказаў адно, што гэта тып, якіх багата...
Заставалася толькі ўздыхнуць.
Пахаванне Турэ было назначана на заўтра. Уранку цела нябожчыка забралі ў Жувізі.
Мегрэ патэлефанаваў жонцы і сказаў, што вернецца позна.
Па дарозе ў Жувізі дзьмуў моцны вецер. Хмары нізка навіслі над зямлёю, збіралася навальніца. Шафёр з цяжкасцю знайшоў вуліцу Таполяў. Ва ўсіх вокнах дома Турэ гарэла святло.
Але званок не працаваў. Яго, відаць, выключылі ў знак жалобы. Нехта ўбачыў, як да дома пад'ехала машына, і дзверы адчыніла жанчына, яшчэ не знаёмая камісару, гадоў на пяць старэйшая за пані Турэ і вельмі падобная да яе.
— Камісар Мегрэ.
Жанчына паклікала сястру з кухні:
— Эмілія!
— Чую. Запрасі яго ў дом.
Мегрэ прынялі на кухні, бо ў сталовай стаяла труна. У вузкім калідоры пахла кветкамі і свечкамі.
— Выбачайце, што я вас турбую...
— Пазнаёмцеся: пан Маньен, мой швагер. Кантралёр на чыгунцы.
— Вельмі прыемна.
— Вы ўжо знаёмы з маёй сястрой Жаннай, а гэта Сэліна...
Адна Моніка не ўстала, каб павітацца з Мегрэ. Яна пільна ўзіралася ў яго і, напэўна, думала, што камісар прыехаў дапытваць яе наконт Жарыса, і была скаваная страхам.
— Прысядзьце, калі ласка.
Мегрэ пакруціў галавою.
— Хочаце глянуць на яго?
Удаве было прыемна паказаць камісару, што яна не паскупілася на аддзелку труны.
— Нібыта спіць...
Мегрэ зрабіў усё належнае.
— Ён і зразумець не паспеў, што здарылася,— уздыхнула жанчына.— А як ён любіў жыццё!
Яны ціха выйшлі, і пані Турэ зачыніла дзверы.
— Вы будзеце на пахаванні, пан камісар?
— Буду. Таму і прыйшоў.
Моніка па-ранейшаму сядзела нерухомая. Пачуўшы, што сказаў камісар, яна адразу ж уздыхнула.



Выходзячы, ён сказаў інспектарам з суседняга пакоя:
— Я буду праз гадзіну—дзве.
Ён не паехаў на службовай машыне, а сеў у канцы вуліцы на аўтобус і, даехаўшы за некалькі хвілін да Севастопальскага бульвара, сышоў.
На вуліцах было людна. Яшчэ зусім нядаўна ў гэты час хадзіў па іх і Луі Турэ, не ведаючы, магчыма, чым заняцца, перш чым змяніць свае жоўтыя чаравікі на чорныя і адправіцца на Ліёнскі вакзал.
На другім баку бульвара Бон-Нувэль Мегрэ прыкмеціў лаўку.
«Напэўна, гэтая»,— падумаў ён.
На лаўцы ніхто не сядзеў.
На рагу Сен-Мартэн чакалі кліентаў прастытуткі. Іншыя сядзелі ў маленькім бары, мужчыны побач гулялі ў карты.
І тут камісар убачыў інспектара Невэ і падаў яму знак. Адна прастытутка вырашыла, што Мегрэ кліча яе, і ўстала, камісар спыніў яе маўклівым жэстам.
— Як жыццё? — спытаўся Мегрэ ў Невэ.
— Прыйшлі зірнуць?
— Ды так, на хвілінку.
— А я ўжо тут з васьмі раніцы. Апытаў ужо чалавек пяцьсот.
— Даведаўся, дзе ён абедаў?
— Даведаўся.
— Я так і думаў.
— Чаму?
— Турэ быў чалавек звычкі, наўрад ці б ён стаў кожнага дня хадзіць у іншае месца.
— Вось там,— паказаў Невэ рукою на сціплы рэстаранчык.— Там дагэтуль ляжыць ягоная сурвэтка з нумарам.
— І што табе там расказалі?
— Ён заўсёды сядаў за адзін і той самы столік у глыбіні залы, непадалёк ад стойкі. Яго звычайна абслугоўвала адна афіцыянтка. Здаравенная такая кабыліца, рыжая. Ведаеце, як яна яго называла?.. «Мой дружок...» Яна сама мне пра гэта сказала. Так і пыталася ў яго: «Ну што, мой дружок, будзем сёння есці?» Сцвярджае, што яму гэта падабалася. Яна часта загаворвала з ім, але ён ніколі да яе не заляцаўся. Яна не раз бачыла яго на бульвары на лаўцы, і кожны раз ён вітаў яе рукою. І заўсёды гэта было каля трох гадзін дня, у час яе перапынку. Аднойчы яна сказала яму: «Здаецца, мой дружок, вы працаю не абцяжараны!» А ён адказаў, што працуе ўначы.
— І яна паверыла?
— Ды яна, здаецца, проста малілася на яго.
— А газеты яна чытае?
— Я ёй сказаў, што яго забілі. Паверыць не магла... А ведаеце, рэстаран хоць і сціплы, але не дужа танны. А Турэ кожны раз заказваў паўбутэлькі марачнага віна.
— Ці ёсць яшчэ ў квартале людзі, якія б ведалі яго?
— Чалавек дзесяць. Адна прастытутка сустракала яго амаль штодня. Першы раз яна паспрабавала завесці яго да сябе, але ён пачціва адмовіўся. А потым, калі яна бачыла яго, то крычала: «Дык што, сёння?»



Гэта ўвайшло ў іх у звычку і вельмі іх весяліла. Калі яна знікала з кліентам, ён падміргваў ёй.
— І ён ні разу не быў ні ў адной?
— Не.
— А з якой-небудзь іншай жанчынай яго бачылі?
— Яны — не. Але адзін з прадаўцоў ювелірнага магазіна бачыў.
— Таго самага магазіна, каля якога яго забілі?
— Таго самага. Я там усім паказваў яго фатаграфію, і адзін яго пазнаў. «Ды гэта ж той, што купіў у нас пярсцёнак на мінулым тыдні!» — адразу ж усклікнуў ён.
— А жанчына была маладая?
— Не надта. Прадавец не звярнуў на яе асаблівай увагі. Вырашыў, што гэта муж з жонкаю. Ён толькі заўважыў, што на ёй была гаржэтка з серабрыстай лісы, а на шыі вісеў ланцужок з пазалочаным медальёнам, рыхтык такія ж, што прадаюць у іх у магазіне.
— Дарагі пярсцёнак?
— Пазалочаны, з падробленым каменем.
— Пра што ж яны гаварылі? Прадавец нічога не чуў?
— Ён не памятае. Кажа, гаварылі, як муж з жонкаю. Нічога асаблівага.
— А ён змог бы пазнаць гэтую жанчыну?
— Ён не ўпэўнены. Яна была ў чорным і ў пальчатках. Адну пальчатку забыла на прылаўку. Турэ вярнуўся, а яна чакала яго на вуліцы. Яна вышэйшая за яго. На вуліцы ўзяла яго пад руку, і яны пайшлі да станцыі метро «Рэспубліка».
— Больш нічога не ўведаў?
— І гэта з'ела ў мяне ўвесь час: я ж пачаў з Манмартра. Але там нічога не ўведаў. За вылікам адной драбніцы. Ведаеце кіёск на вуліцы Акацый, дзе прадаюць пышкі?
— Ведаю. Іх пякуць там пад адкрытым небам, як на кірмашы.
— Дык вось, прадаўцы пышак памятаюць Турэ. Ён часта купляў у іх пышкі, заўсёды па тры штукі і ніколі не еў на вуліцы, а забіраў з сабою. Гэтыя пышкі, як вам вядома, вельмі вялікія, ва ўсякім разе, рэклама сцвярджае, што яны самыя вялікія ў Парыжы. Наўрад ці пасля сытнага абеду ў рэстаране Турэ еў бы іх адзін. Не еў бы ён іх і на лаўцы — не такі гэта чалавек. Відаць, ён браў іх той самай жанчыне. Значыцца, яна жыве недзе непадалёк.

А можа, падумаў Мегрэ, ён частаваў пышкамі таго чалавека, якога бачыў бухгалтар Сэмброн?
— Ну што, шэф, працягваць далей?
— Вядома.
— Куды вы?
— Хачу зазірнуць у тупічок.
Тупічок быў зусім побач, і Мегрэ вырашыў яшчэ раз агледзець месца злачынства.
Час цяпер быў такі самы. Туману сёння не было, але цемната такая ж непраглядная.

# СЛУЖБА



# ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

## МАЯ ВІНШАВАЛЬНАЯ ПАШТОЎКА

Набліжаецца Першамай. Віншую ўсіх, каму дарагія такія паняцці, як Мір, Праца, Салідарнасць, з гэтым цудоўным вясеннім святам. А паплечнікаў-ветэранаў віншую яшчэ і з днём Перамогі — святам нашай горкай радасці, якое мы адзначаем «са слязамі на вачах». Пажадаю знаёмым і незнаёмым мне людзям, землякам і жыхарам іншых гарадоў і рэспублік краіны аптымізму, веры, надзеі, добрых спраў на карысць сабе, сваёй сям'і, сваёй Радзіме.

Я люблю пасылаць віншавальныя святочныя паштоўкі сябрам, родным, знаёмым, а таксама сам іх атрымліваць. Але апошнім часам тых прыемных допісаў усё меней у маёй паштовай скрынцы. Да Новага года яшчэ сёе-тое атрымаў, а вось да Кастрычніцкіх свят — амаль нічога. Нейкімі абыякавымі адзін да аднаго мы становімся. Чарсцвеем сэрцамі, ці што?

Нялёгкія часы перажывае цяпер народ. Але былі ў нашай гісторыі і цяжэйшыя. Мы трывалі дзякуючы нязгаснаму народнаму аптымізму, узаемадапамозе і добразычлівасці.

Дык не страцім жа гэтых якасцей і цяпер.

Дашліце адзін аднаму віншавальныя паштоўкі ў гонар усіх першамайскіх свят з цёплымі і светлымі словамі.

**К. ЛІСІЦКІ, пенсіянер.**
г. Мінск.

## ДЗЯКУЙ, «УЗАЕМАДАПАМОГА»!

У леташнім 10-м нумары «Беларусі» было надрукавана маё пісьмо, за што я вельмі ўдзячны табе, «Узаемадапамога». У тым пісьме я прасіў адгукнуцца баявых таварышаў маіх бацькоў, а таксама шукаў парады ў вывучэнні беларускай мовы.

Што тычыцца першай часткі ліста, то водгукаў я не атрымаў. Гэта і нядзіўна: вельмі мала засталося жывых франтавікоў, дый не ўсе з іх чытаюць часопіс. Так што верагоднасць знайсці баявых таварышаў бацькоў невялікая. З горкім сумам магу паведаміць, што за час, які прайшоў з таго дня, калі я паслаў вам пісьмо, мой бацька памёр.

А вось на просьбу дапамагчы ў вывучэнні беларускай мовы адгукнуліся многія. Я атрымаў мноства пісьмаў і бандэроляў з літаратурай. Не магу знайсці слоў, каб выказаць маю ўдзячнасць людзям, якія з такой цеплынёй паставіліся да маёй просьбы. Я імкнуўся адказаць усім, але выявілася, што фізічна гэта проста немагчыма. А лісты ўсё ідуць. Дзякуй вам, дарагія незнаёмыя сябры! Прабачце, калі не змагу каму адказаць ці задужа затрымаюся з адказам.

І яшчэ. Літаратуры мне больш не дасылайце (апроч тых, у каго я яе папрасіў): я яе атрымаў так многа, што не ў стане нават усё аплаціць. Таму прашу прабачыць, калі чыю-небудзь бандэроль я не выкуплю і яна вернецца да адпраўшчыка.

**Хведар СОЛАДАЎ,**
Алтайскі край.

## МОЙ СМУТАК — У МАІХ ВЕРШАХ

Я звяртаюся да вас ужо другі раз. Першае маё пісьмо вы так і не надрукавалі. Я разумею, што ў вас такіх лістоў вельмі многа. Але, можа, гэты раз пашанцуе.

У свае 27 гадоў я адчуваю сябе вельмі адзінокім. Рана застаўся без бацькоў і ўжо доўгі час жыву адзін у пустой кватэры. Доўгія гады беспаспяхова шукаю спадарожніцу жыцця. У мяне не вельмі прывабная знешнасць, мабыць, гэта, а можа, штосьці другое, пра што я сам не здагадваюся, адштурхоўвае дзяўчат. Хоць чалавек я, здаецца, цікавы: вучуся завочна ў тэатральнай ВНУ, пішу вершы, друкаваўся ў ЛІМе, «Маладосці», люблю музыку. Калі хто захоча адгукнуцца, то накіроўвайце лісты на адрас: 210022, г. Віцебск, вул. Чкалава, д. 18, кор. 1, кв. 108, **Юрыю.**

## УСЮ ЗЯМЛЮ АБЫСЦІ!..

Мне 23 гады, рост 168 см. Статная, сімпатычная шатэнка. У мяне маленькая дачка, якую я вельмі люблю. Не без ваганняў рашылася паклікаць са старонак вашага часопіса свайго адзінага — а раптам адгукнецца. Я Лунарый, мой жыццёвы шлях асвятляе Венера — багіня кахання і прыгажосці. Яна падарыла мне найкаштоўны дар умець кахаць. Па натуры я сціплы чалавек, не люблю застолляў і шумных кампаній, хадзіць на дыскатэкі, у бар ці ў рэстаран. Я замкнулася ў сабе і баюся зноў пускаць у сваё сэрца каго-небудзь. Аддаю перавагу кнігам, музыцы, вельмі люблю прыроду, турыстычныя паходы, жывёл. Няблага шыю, вяжу. Не дарую п'янства, здрады, хлусні.

Мая патаемная мара: аб'ехаць ці абысці як мага болей цікавых мясцін на Зямлі. І маленькая мара: пакупацца ў цёплым моры.

Хацела б пазнаёміцца з Чалавекам — асобай,—жыццярадасным, мэтанакіраваным, упэўненым у сабе. Іншымі словамі — Салярыем. Каб яго промні абагрэлі маё сэрца, далі жыццёвыя сілы маім заснуўшым пачуццям. Няхай адгукнецца чалавек, які надзелены розумам, тактам, умее шанаваць і паважаць жанчыну. Гэта можа быць і былы афганец. Мяне не засмуцяць яго раны, калі духоўна ён прыстойны чалавек. Калі знойдзецца такі мужчына, абяцаю адданасць, пяшчоту, палымянасць. Спадзяюся і буду чакаць.

**Валянціна.** (314).

## ТОЛЬКІ ПЯЦЬ РАДКОЎ

Вы ўсё маладых друкуеце. Дайце пяць радкоў і мне. Нарадзіўся я ў 1928 годзе, атрымліваю нармальную пенсію, але яшчэ працую. Матэрыяльна забяспечаны, маю кватэру, энергічны, буду добрым сем'янінам. Жадаў бы пазнаёміцца з жанчынай прыкладна майго ўзросту. Мой рост 168 см. Мой адрас: г. Мазыр, б. Юнацтва, 5, кв. 67, **БАЛЯКУ Васілю Іосіфавічу.**

## ЯК БЫ МНЕ, РАБІНЕ...

Звяртаюся з просьбай аб дапамозе ў ваш цудадзейны аддзел. Так здарылася, што мне давялося застацца адной з двума дзецьмі. Зусім нядаўна быў каханы, за якога збіралася выйсці замуж. Але за некалькі дзён да вяселля ён адмовіўся ад нас. Так маё жыццё зламалася, засталася адна, як тая рабіна...

А мне толькі 26 гадоў. Хочацца дзяліцца з кім-небудзь і горам, і радасцю. Калі хто напіша і параіць, як жыць далей, буду вельмі ўдзячна.

**Святлана.** (315).

## ШУКАЮ СЯБРОЎ ПА ПЕРАПІСЦЫ

Люблю пісаць і адкажу ўсім, хто мне напіша. Завуць мяне Алена, мне 15 гадоў, вучуся ў дзесятым класе. Вельмі люблю жывёл, люблю чытаць. Мой любімы пісьменнік — Міхаіл Булгакаў. Захапляюся маляваннем, крыху вяжу, калекцыяніраю паштоўкі.

Чакаю лістоў. Мой адрас: 210088, г. Віцебск, зав. Энергетыкаў, д. 14, кв. 40, **САМСОНАВАЙ Алене.**




## ДА ЎВАГІ ТЫХ, ХТО ШУКАЕ ЗГУБЛЕНЫХ У ВАЙНУ РОДЗІЧАЎ!

«Служба ўзаемадапамогі» працягвае друкаваць спісы савецкіх людзей, якія пахаваны ў нямецкай зямлі. Спісы падрыхтаваны аб'яднаннем асоб, якія падвяргаліся ганенням пры нацызме,— Саюзам антыфашыстаў з раённага аддзялення горада Офенбах.

Нямецкія антыфашысты дакладна ведаюць распалажэнне кожнай магілы на мясцовых могілках, дзе і пахаваны пералічаныя ў спісах. Калі хто-небудзь з вас, дарагія чытачы, знойдзе тут прозвішча, якое яго зацікавіць, пішыце ў рэдакцыю — «Служба ўзаемадапамогі» абавязкова паспрыяе вашаму далейшаму пошуку.

**НЯРЭЦІН Дзмітрый** 3.11.26—5.11.44.
**ЗАБРОДЗІНА Ганна** 24.10.24—5.11.44.
**ЯРЫНА Фрасіна** 25.6.24—5.11.44.
**ФЯСЕНКА Уладзімір** 10.12.24—5.11.44.
**МУХІН Яўген** 31.12.19—5.11.44.
**СУХАЯ Феня** ?—5.5.45.
**АФАНАСЬЕВА Ліда** ?—12.5.45.
**СУХАРНІЧЭНКА Васіль** ?—17.5.45.
**ДАЦЭНКА Кацярына** ?—24.5.45.
**ШАЎЧЭНКА Антон** ?—14.6.45.
**ШЫМІСТАЎ Мікалай** 18.12.17—24.7.45.
**МІХАЙЛАВА Аляксандра** ?.21—5.9.45.
**ФІЛІПЧУК Каленік** 19.1.01—20.12.45.
**БЕДЗІНА Ганна** 22.6.31—11.12.44, загінула ў час паветранага налёту.
**МЕЛЬНІК Мікіта** 3.10.90—17.2.45.
**ПАТУПАЛАЎ Іван** 23.7.03—12.4.45.
**КАЗЛОЎ Андрэй** 25.10.14—5.11.44.

Угледзьцеся ў гэтыя твары. Гэта — савецкія рабочыя, вывезеныя на прымусовыя работы, якія працавалі на фірме «Янс-Рэгулятарэн».

Здымак быў зроблены ў 1943 ці 1944 годзе. Гэта было вельмі небяспечна, бо фатаграфавацца ў той час строга забаранялася.

Ёсць звесткі, што гэтыя рабочыя падтрымлівалі падпольныя кантакты з членам КПГ Дзёбертам, які, дарэчы, меў у сваім архіве такі незвычайны дакумент: «Гэтае пасведчанне выдадзена грамадзяніну Дзёберту, які працаваў на фабрыцы «Янс-Рэгулятарэн», рускімі грамадзянамі Махінка, Кузіным, Нузхітам, Саморыным, Базуйкам, Забенкам, Вашанкам, якія таксама працавалі там. Адносіны гэтага грамадзяніна да рускіх было добрым. Ён дапамагаў нам хлебнымі карткамі і інфармаваў аб радыёпаведамленнях аб подзвігах рускай арміі на фронце. Увогуле ён быў адзіным на фабрыцы «Янс», хто заўсёды добра ставіўся да савецкіх людзей. Калектыў рускіх дзякуе яму за гэта». Дакумент падпісаны 24.4.45 года Махінкам і Копнам, жыхарамі вёскі Белінька Запарожскай вобласці.

А вось прозвішчы тых, хто адлюстраваны на фота, невядомы.

Будзем спадзявацца, пакуль...

**Падрыхтавала Алена ШАБАЛІНА.**



# НЯМА ДЛЯ ТРЭНЕРА РАБОТЫ

**Некалькі гадоў назад Міхаіл Жванецкі жартаваў: маўляў, усё наша жыццё — спорт... Сатырык меў на ўвазе барацьбу ў чэргах, гонкі за дэфіцытам, марш-кідкі радавога насельніцтва з цяжкімі сумкамі ў руках.**

**Тады мы яшчэ ўсміхаліся... Яшчэ было смешна.**

**Сёння гэта ўжо «чорны» гумар. У спартзалах і на стадыёнах даўно няма такога напалу страсцей, які зараз — на мітынгах, ля прылаўкаў, у калектывах-банкрутах. Інфляцыя, дарагавізна, першыя беспрацоўныя... А як на гэтым фоне адчувае сябе служба, галоўная задача якой — дапамагчы чалавеку пазбавіцца ад адмоўных эмоцый, захаваць добрую фізічную форму, псіхалагічную раўнавагу і памяць, што няма нічога даражэйшага за здароўе! Яшчэ цікава: наколькі рэальная пагроза разарэння для службы, чый прынцып дзейнасці — аказаць фізкультурніку максімум паслуг за мінімальную плату!**

**З такімі і іншымі пытаннямі я звярнуўся да начальніка фізкультурна-аздараўленчай службы Першамайскага раёна Мінска (а гэта самая першая і, зразумела, самая старэйшая па ўзросту падобная служба ў рэспубліцы і ў краіне) Вадзіма ВЕЖНЯЎЦА.**

**— За апошнія два-тры гады ўвага спартыўнай прэсы да ФАКаў і ФАСаў неяк рэзка аслабла. Амаль ніякай інфармацыі... Вадзім Леанідавіч, што такое Першамайская ФАС сёння? Можа, сама ідэя трэніровак па месцы жыхарства губляе ўжо сваіх прыхільнікаў?**

— Не, фізкультурна-аздараўленчыя службы па-ранейшаму папулярныя. У нас, напрыклад, займаецца больш за пяць тысяч мінчан. Пяць тысяч толькі ў адным раёне сталіцы. І гэта людзі, між іншым, усіх узростаў.

**— Якімі відамі спорту вы прапануеце займацца навічкам?**

— Выбар вялікі. Цяпер дзейнічаюць 210 фізкультурна-аздараўленчых груп: рытмічнай гімнастыкі, плавання, бегу, настольнага і вялікага тэніса, жаночай гімнастыкі... Спадзяюся, груп будзе яшчэ больш.

**— Я шмат добрага чуў аб вашым клубе «Дапрызыўнік», аб праграме па навучанню дашкольнікаў плаванню.**

— Правільна, трэнеры службы ўжо навучылі некалькі соцень хлопчыкаў і дзяўчынак упэўнена адчуваць сябе ў вадзе, праплываць не менш як 25 метраў. Хочацца думаць, што гэта толькі пачатак. А фізкультурна-спартыўны клуб «Дапрызыўнік» сабраў падлеткаў ад 14 да 17 гадоў. Сярод іх шмат учарашніх «цяжкіх». Дзеці захапіліся спартыўнай і атлетычнай гімнастыкай, турызмам, рознымі відамі барацьбы. Задаволены бацькі, задаволены педагогі, задаволен ваенкамат. Дарэчы, некаторыя з юнакоў мараць стаць афіцэрамі.

**— Усё гэта цікава, тым больш, што ідзе чарговы прызыў у армію... Аднак вы, Вадзім Леанідавіч, аб перспектывах разважаеце неяк не вельмі ўпэўнена: «спадзяюся», «хочацца думаць»... Нешта перашкаджае быць аптымістам?**

— Скажам так: ёсць праблемы.

**— Фінансавыя цяжкасці?**

— Не, іншае.

**— Раскажыце.**

— У 1986 годзе на базе шасці раённых ФАКаў быў створаны адзіны фізкультурна-аздараўленчы камбінат Мінска. А ўчарашнія ФАКі сталі ФАСамі — раённымі службамі. Гэта быў зеніт рэалізацыі ідзі, мы пачалі больш разумна і поўна выкарыстоўваць спартыўныя аб'екты, атрымалі магчымасць значна палепшыць падбор кадраў, наладзіць іх навучанне і перападрыхтоўку.

**— Памятаю... А што было далей?**

— У зацверджаным выканкомам гарсавета палажэнні аб фізкультурна-аздараўленчым камбінаце было прама ўказана, што кіраўніцтва ФАСамі па тэрытарыяльных адзнаках ажыццяўляюць райвыканкомы. Прайшло тры гады. Выканкомы паступова адвярнуліся ад нас, і тут жа пачалася самая сапраўдная атака на ўжо зробленае. К вясне 1990-га восем памяшканняў у ФАСаў забралі і аддалі іх кааператарам, ЖЭСам.

**— І Першамайская ФАС — першая ў краіне — таксама «згортваецца»?**

— Яшчэ хутчэй, чым іншыя... Па вуліцы Пляханава была спартзала, дзе займаліся 12 груп барцоў. Гэта — 180 чалавек. Памяшканне забрала ЖЭС «пад свае патрэбы». Такая ж гісторыя са сціплымі заламі па вуліцах Станіслаўскага, Убарэвіча, Бяды... Дарэчы, у двух памяшканнях збіраліся групы рытмікі: 28 груп, амаль 500 фізкультурнікаў. Дваццаць фізкультурных груп трэніраваліся ў памяшканні па Друкарскім праездзе. Залу, калі яе так можна назваць, забралі. Зрабілі кацельню і таямнічы «пакой ЖЭСа». А яшчэ ў адным былым нашым памяшканні, па Лагойскім тракце, адкрылі курсы кройкі і шыцця.

**— Як я разумею, галоўныя баі за памяшканні паміж ЖЭСамі і ФАКамі разгарнуліся ўнутры аднаго ведамства. Чаму ж ЖЭСам менавіта цяпер так пільна спатрэбіліся тыя самыя квадратныя метры, на якія ў нядаўнім мінулым яны раўнадушна махалі рукой і ахвотна «дазвалялі» трэнерам, фізкультурнікам выносіць з бязгасных памяшканняў смецце, рабіць там рамонт, аснашчаць спортінвентаром?**

— А навошта доўга думаць, як праяўляць ініцыятыву, паляпшаць сваё фінансавае становішча, калі простае рашэнне — на паверхні, перад вачамі!? Бо так лёгка выгнаць энтузіястаў-фізкультурнікаў і на вызваленай плошчы адкрыць міні-гасцініцу, кааператыў, даходны і прэстыжны «гурток»...

**— Але ж тады могуць «запатрабаваць» за пагаршэнне спартыўна-аздараўленчай работы?**

— Зусім неабавязкова! Тут у чым хітрасць? ФАС дзейнічае па прынцыпу: лішніх грошай у фізкультурнікаў не бяром. Таму за аднолькавую паслугу ў ФАСе вы аддасце, скажам, тры рублі, а ў спартыўным кааператыве — пятнаццаць.

**— Не зусім разумею, пры чым тут ЖЭСы...**

— А пры тым, што ім больш выгадна мець на сваёй тэрыторыі, напрыклад, масажны кабінет, а не наш аб'ект. Па розных прычынах выгадна... Так, што, была ў мікраёне «аздараўленчая кропка» і ёсць такая, таксама ж аздараўленчая. Толькі іншая шыльда, іншыя гаспадары, іншыя цэны і даходы.

**— Няўжо людзі не абураюцца, не пратэстуюць?**

— Вядома, скаргаў шмат. Цэлыя петыцыі складаюцца. Без вынікаў пакуль, праўда.

**— Карацей кажучы, праз 12 гадоў пасля трыумфальнага станаўлення першая ў Саюзе фізкультурна-аздараўленчая служба Першамайскага раёна Мінска апынулася ў глухой абароне і панесла цяжкія страты. Але гэта не толькі вашы, Вадзім Леанідавіч, страты...**

— Вядома... Падлеткі, напрыклад, не могуць плаціць значныя сумы трэнерам-кааператарам і ўсё больш «трэніруюцца» ў пад'ездах, падвалах, цёмных альтанках, на вуліцах. А кваліфікаваныя трэнеры, якія яшчэ нядаўна вучылі іх спартыўнаму майстэрству, хаця яшчэ лічацца пры ФАСах, але работы ўжо практычна не маюць. Прынамсі, у адной толькі Першамайскай ФАС сёння 12 трэнераў-выкладчыкаў і іншых спартыўных спецыялістаў апынуліся «лішнімі».

**— Дакладней — без работы!**

— Так.

**— На што вы ў гэтай сітуацыі спадзяецеся?**

— У нас новыя — абноўленыя — Саветы, у нас шмат заклікаў зрабіць жыццё лепшым, узмацніць прафілактыку правапарушэнняў, прапагандаваць здаровы лад жыцця, расшыраць сферу паслуг... За пажаданнямі павінны ісці канкрэтныя рашэнні, справы. Тым больш, што дэфіцыт на фізкультурна-аздараўленчыя паслугі ў нас востры.

**Гутарку вёў Валерый ЛАРЫН.**
**Фота Дзмітрыя ЦЕРАХА.**

# ГУМАР

ДЫЯГАНАЛЬ

Аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР
А. РАКІТНІЦКІ.

## З «КАМЕНЕМ ЗА ПАЗУХАЙ»

Па-рознаму рэагуюць шашысты на пройгрыш. Мой сябар Г., выйграўшы турнір, заўсёды праводзіў мяне да самага дому. Для гэтага ён рабіў лішні паварот, хоць мог крочыць на сваю вуліцу па прамой. Мне, урэшце, надакучыла прайграваць, але мае выйгрышы яму, відаць, не надта падабаліся. Ён адмаўляўся ісці са мной у адну дарогу. А калі я прайграваў — ахвотна станавіўся маім спадарожнікам.

Другі шашыст Н. (зараз вядомы майстар спорту) аднойчы, прайграўшы адказную партыю... рашуча стукнуўся галавой аб сценку.

Канечне, большасць пераносяць паражэнні мужна, але зрэдку сустракаюцца і такія, якім пройгрыш як «з гусі вада». Скажу пра сябе. У маладосці па пройгрышах я значна «перавыконваў план» і з роспачу не раз кідаў гульню, але зноў вяртаўся да яе.

І ўсё ж асаблівае хваляванне перажыў пад час майго матча з неаднаразовым чэмпіёнам Масквы майстрам спорту Сяргеем Антонавічам Даніліным. Ведаючы круты нораў экзаменатара і яго ўпартасць (мы абодва ўдзельнічалі ў 1931 годзе ў Малым чэмпіянаце СССР), перад матчам «запасліся каменнямі за пазухай».

У пятай партыі зрабіўшы ход 1. fg3? я і не падумаў, што чорныя відавочнай камбінацыяй 1...fg7! 2. h:b4 dc3 3. b:d4 e:e1 наважацца прайсці ў дамкі, бо яна, па майму разліку, адразу знішчалася пасля 4. ba5. Але працаўнік аказаўся больш дальнабачным. У адказ быў выключна прыгожы ўдар




Выйгрыш чорных.

4...fg5!! 5. a:d8 (калі 5. h:f6, то 5...e:d8) 5...ea5! 6. h:f6 bc7 7. d:b6 e:d8. І на вачах шматлікіх маіх балельшчыкаў я мусіў (з кіслай




Выйгрыш.

усмешкай) «шчыра» віншаваць С. Даніліна, быццам яго перамога дужа мяне ўзрадавала. Што паробіш? Спартыўная этыка! Абавязвала да гэтага і мая ў той час пасада дзяржтрэнера па шахматах і шашках Спорткамітэта БССР. Лік матча зраўняўся.

Аналізуючы партыю, Сяргей Антонавіч быў дужа задаволены, асабліва нечаканым у ёй ударам. Ён усё жыццё самааддана любіў шашкі. Ветэран вайны, галоўны бухгалтар адной з устаноў, інтэлігентны і сціплы С. Данілін (1905—1985 гг.) вельмі перажываў пройгрышы. Я быў сведкам, калі на чэмпіянаце СССР, груба памыліўшыся (што ў яго амаль не здаралася), грымнуў кулаком па шашках так, што яны разляцеліся ў розныя бакі. Атрымаўшы ад галоўсуддзі вымову, ён доўга не мог дараваць сабе такі ўчынак.

Абмяняўшыся яшчэ некалькімі нулямі, мне ў адзінаццатай партыі ўдалося вырвацца ўперад.

Тут я ажыццявіў, як адзначыў С. Данілін у кнізе «Шашки за 1966 год», «совершенно новый прием выигрыша»: 1. dc3! b:d2 2. de5 f:f2 3. c:e3!! f:d4 4. ab2 a:c1 5. gf6 c:g5 6. h:e3 de5 7. gf2. Далей ён пісаў: «Получив преимущество, последние три партии Рокитницкий играл осторожно и аккуратно, сведя их вничью. Счет матча 7,5:6,5. Семья высококвалифицированных шашистов пополнилась новым мастером». І ўсё ж развіталіся мы, хоць і сціпла (ужо без каменняў), але адчувалі сябе неяк няёмка. Ён за пройгрыш, а я за выйгрыш матча.








Без слоў...

Малюнкі Алеся ШАЎЦОВА і Алега ПАПОВА.

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Старажытнае свята летняга сонцастаяння ва ўсходніх славян. 6. Маладзёжны беларускі народны танец, разнавіднасць полькі. 9. Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс для моладзі. 12. Закрытае збудаванне, у якім праводзяцца спаборніцтвы па многіх відах спорту. 13. Сімвал паэтычнага натхнення. 14. Частка карнавальнага касцюма. 17. Беларускі савецкі акцёр, народны артыст СССР. 18. Футбаліст каманды мінскага «Дынама». 20. Вакальна-інструментальны ансамбль. 21. Беларускі кампазітар-песеннік. 25. Суджаны. 26. Рэчыва, якое выдзяляецца кашалотамі і выкарыстоўваецца ў парфумерыі. 27. Павойная кустовая або дрэвавая расліна. 30. Памяшканне для вырошчвання кветак. 31. Беларускі першадрукар, вучоны, асветнік і культурны дзеяч. 32. Лаўрэат II Усесаюзнага фестывалю польскай песні ў Віцебску.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. 2. Каштоўны камень. 3. Чалавечая дзейнасць, накіраваная на стварэнне матэрыяльных і культурных каштоўнасцей. 4. Спартыўнае спаборніцтва па барацьбе. 7. Від тэатральнага мастацтва. 8. Тэхнічны від спорту. 10. Беларускі спявак, заслужаны артыст БССР. 11. Персанаж трылогіі Я. Коласа «На ростанях». 15. Кінатэатр у Мінску. 16. Маёмасць, якую давалі бацькі маладой пры выхадзе замуж. 19. Часопіс, які выдаваўся ў Празе ў 1926 годзе на беларускай мове для моладзі. 22. Фальклорна-харэаграфічны ансамбль Беларускай філармоніі. 23. Духавы клавішны музычны інструмент. 24. Міжнародны маладзёжны цэнтр на беразе Заслаўскага вадасховішча. 28. Круглая пляцоўка для паказвання цыркавых нумароў. 29. Высокі мужчынскі голас.

Склаў Канстанцін ЖУК.

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 3

**Па гарызанталі:** 4. Жамчужына. 7. Кручок. 8. «Даярка». 11. Марфачка. 12. Крупская. 13. Фуфайка. 15. Траян. 17. Пятліца. 18. Сарданікс. 19. Чарнышова. 20. Громава. 21. Атлас. 23. Камісар. 26. Акружная. 28. Калантай. 30. «Сняжок». 31. Ландыш. 32. Шаліноўка.

**Па вертыкалі:** 1. «Харошкі». 2. Гурчанка. 3. Андатра. 5. Ружа. 6. Трып. 9. Расфарбоўка. 10. Каліноўская. 14. Аніта. 15. Тоска. 16. Начос. 17. Парык. 22. Латыніна. 24. Гарошак. 25. «Машачка». 27. «Жняя». 29. Аіда.

# МОДА ПА ГАРАСКОПУ



Маюць рацыю тыя, хто лічыць моду падобнай на капрызную жанчыну. Сапраўды, не паспееш раніцай здзівіцца яе новым апраткам, як увечары яна зусім іншая. Мода мяняецца літаральна на вачах, аднак пры ўсёй несамавітасці і зменлівасці ёсць у яе адна пастаянная рыса. Я маю на ўвазе стыль, які пры самых неверагодных задумках краўцоў у кожнага з нас застаецца адметным. Ён праяўляецца ў фасоне і колеравай гаме вопраткі, у здольнасці вар'іраваць асобнымі дэталямі і ўпрыгажэннямі, у манеры насіць, урэшце. Усе гэтыя асаблівасці прама залежаць ад нашага характару, ад псіхафізіялагічнай структуры арганізма. Усе мы — дзеці Зямлі і, паводле арабскага гараскопа, каб падоўжыць сваё жыццё, павінны падпарадкоўвацца яе законам. Наш выгляд, наша манера апранацца павінны адпавядаць (і часцей за ўсё так і здараецца) нашаму светапогляду, быць заўсёды ў згодзе са стыхіямі планеты.

Карацей кажучы, не варта бяздумна падпарадкоўвацца кожнаму новаму патрабаванню моды, хутчэй трэба прыстасоўваць яе да свайго ладу жыцця. І гэта не такая дробязь, як здаецца на першы погляд. Чалавек апрануты экстравагантна, па апошняму слову моды, але насуперак свайму стылю, магчыма, больш сціплай і строгай манеры апранацца, адчувае дыскамфорт, яму ўвесь час здаецца, што ён «не ў сваёй талерцы». Пастаянная прыгнечанасць пачуццяў, нязгода з сабой могуць прывесці нават да захворвання.

Але звернемся да чалавека знака ЗЯМЛІ і даведаемся, які стыль у вопратцы найбольш адпавядае яго эмацыянальна-псіхічнаму стану.

**ЗЯМЛЯ:**

| | | |
|---|---|---|
| **1 студзеня** | **—** | **19 студзеня** |
| **20 красавіка** | **—** | **19 мая** |
| **20 жніўня** | **—** | **19 верасня** |
| **20 снежня** | **—** | **31 снежня** |

Улюбёны і найбольш карысны колер для гэтых людзей — зялёны, падыходзіць і блакітны (пажадана светлых адценняў). Не зусім прымальныя колеры — цёмна-блакітны, сіні, фіялетавы, шэры, уся гама бэзавага. Абсалютна не пасуюць «зямным» колеры чырвоны, чорны, жоўты, карычневы, аранжавы, ружовы, бэжавы і белы — яны зніжаюць жыццёвы тонус і правакуюць кепскі настрой.

У манеры апранацца носьбітаў ЗЯМЛІ заўважаецца ндярэнны густ. Яны аддаюць перавагу строгім фасонам, не кідкім і не шыкоўным. Іх уборы хутчэй паўсядзённыя, чым святочныя: у іх спалучаецца элегантнасць, сціпласць, нярэдка прысутнічаюць элементы стылю рэтра, што сведчыць аб некаторай кансерватыўнасці характару. Менш за ўсё ім падабаюцца пышныя, «паветраныя» строі V- або О-падобнага сілуэта і свабоднага крою. Часцей за ўсё яны прыхільнікі Х-падобнага сілуэта і прыталеных фасонаў. І гэта не своеасаблівая даніна модзе, а хутчэй выяўленне рыс індывідуальнасці гэтых людзей. І мужчыны, і жанчыны гэтага знака не любяць шырокіх штаноў тыпу «пірамід», аддаючы перавагу штанам прамога крою, якія падкрэсліваюць стройнасць ног і лініі бядра, сведчаць аб строгай манеры паводзін іх уладальнікаў.

Радзей за іншых людзей «зямныя» азіраюцца на капрызы моды, унутрана пасміхаючыся над яе скарацечнасцю, нярэдка смела вяртаючыся да ранейшых фасонаў. Вопратку ім лепш за ўсё шыць у атэльe, прыдзірліва выбіраючы колер і фактуру тканіны, элементы крою. Гэткае ж пастаянства назіраецца і ў выбары абутку «зямных» — жанчыны гэтага знака наогул адчуваюць сябе камфортна толькі ў абутку на абцасе.

Нягледзячы на тое, што ў носьбітаў ЗЯМЛІ, як правіла, вялікія гардэробы, у паўсядзённым жыцці яны звычайна аддаюць перавагу аднаму і таму ж касцюму або сукенцы. Мужчыны любяць хадзіць у строгім касцюме (праўда, іншы раз здараецца, што пінжак аднаго колеру, а штаны — другога), вязаных світэрах, пуловерах і значна радзей апранаюць джынсы, варонкі і іншыя модныя рэчы. Яны нагадваюць людзей, цалкам паглыбленых у штодзённую карпатлівую працу, заўсёды і ў любое надвор'е апранутых аднолькава, нават не пасучаснаму, у якіх у жыцці свята бывае надзвычай рэдка. Але гэтак здаецца толькі на першы погляд.

Ва ўрачыстыя моманты «зямныя» сваім выглядам засланяюць усіх прысутных. Ніхто з прадстаўнікоў іншых знакаў не можа зрабіць гэта так бліскуча. Яны быццам рэкламуюць сябе ў святочнай атмасферы. І калі ўлічыць, што апрануты яны заўсёды па фігуры і з густам, што, як правіла, яны стройныя і рухомыя, добра танцуюць, а абутак выбіраюць зручны і прыгожы, то няцяжка здагадацца, што яны становяцца цэнтрам увагі і зайздрасці прысутных.

Нам засталося толькі дадаць, што «зямныя» не любяць гаварыць пра рэчы, іх кошт, расказваць, дзе здабылі дэфіцытную рэч і колькі за яе пераплацілі. Дый пераплачваць яны не любяць, асабліва за модныя рэчы кааператыўнага вырабу, «псеўдакаштоўнасці», як яны іх называюць. І ўсё ж жыццё іншы раз прымушае ламаць свае звычкі нават «зямных».

**ПАВЕТРА:**

| | | |
|---|---|---|
| **20 студзеня** | **—** | **19 лютага** |
| **20 мая** | **—** | **19 чэрвеня** |
| **20 верасня** | **—** | **19 кастрычніка** |

Адразу адзначым, што прадстаўнікі гэтага знака не такія кансерватыўныя і традыцыйныя, як «зямляне». Гэта датычыць усіх момантаў іх жыцця, захапленняў, работы, а не толькі адносін да моды. Яны хутка засвойваюць і прымаюць усё новае, нават не вельмі праверанае жыццёвай практыкай. Аднак такая хуткая рэакцыя на ўсё незвычайнае зусім не азначае, што «паветраныя» (або «ветраныя», як іх часта з іроніяй называюць) здольны прымаць неабдуманыя рашэнні. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што яны не прывыклі азірацца назад або абмяжоўваць сябе агульнапрынятымі рамкамі нацыянальнага і гістарычнага. «Паветраныя» смела кідаюць выклік ахоўнікам усялякіх умоўных і часовых абмежаванняў, дэманструючы свае наватарства і непасрэднасць успрымання жыцця. Гэта выразна выяўляецца нават у выбары імі колеравай гамы — іх вабяць дынамічныя, экспрэсіўныя тоны. Ім пасуе ўсё паласатае, яркае, спалучэнні колераў шэра-белага, чорна-белага, жоўта-чорнага, жоўта-чырвонага, чорна-чырвонага і іншыя, да твару тканіны стракатыя, з рознакаляровымі плямамі. Прынамсі, ва ўборы «паветраных» могуць быць скарыстаны любыя спалучэнні колераў, але для іх эмацыянальнага стану лепш, калі ў ім прысутнічае белы колер (не менш як 40—50 працэнтаў колеравай гамы).

Мужчыны гэтага знака звычайна пазбягаюць строгіх касцюмаў і гальштукаў, затое ўтульна адчуваюць сябе ў спартыўнай форме, джынсах, варонках, світэрах, пуловерах, красоўках. Адным словам, іх вабіць усё, што дапамагае чалавеку адчуць сябе разняволеным.

Для жанчын **ПАВЕТРА** характэрна непрадказальная і шматварыянтная сістэма падбору адзення, абутку, галаўных убораў. У пошуку новых вырыянтаў і арыгінальных рашэнняў яны намнога пераўзыходзяць мужчын свайго знака, і ўсё ж ім не заўсёды ўдаецца выглядаць больш шыкоўна, чым прадстаўнікам моцнага полу. Затое слабы пол дэманструе вялікія здольнасці ў пошуках экстравагантных стыляў. Для іх характэрны свабодныя, шырокага крою мадэлі V- і О-падобнага сілуэта, якія хутчэй з'яўляюцца данінай модзе, чым неабходнасцю кампенсаваць недахопы фігуры. У гардэробах «паветраных» дам цудоўна ўжываюцца міні і бікіні, шыкоўныя вячэрнія строі і пярэстыя пляжныя халацікі, але рэдка сустрэнеш сукенку прылеглага сілуэта або традыцыйную прамую спадніцу крыху ніжэй за калена.

**ПАВЕТРА** імгненна рэагуе на зменлівасць моды і спяшаецца як мага хутчэй купіць у магазіне, а часцей у спекулянта, тое, што ўжо модна, але не хутка стане даступным для ўсіх. Пра гэта часцей за ўсё і гавораць «паветраныя» — пра рэчы і пакупкі, гандлёвыя здзелкі і навінкі Захаду, пра заўсёдны дэфіцыт грошай і сувязей. Пры гэтым радзей успамінаюцца тыя, хто са страхам чакае іх чарговага візіту ў свой кашалёк. Вядома, я маю на ўвазе мужоў. Але гэта дэталі...

Як правіла, прадстаўнікі **ПАВЕТРА** маюць ндярэнны гардэроб, але паказацца ва ўсім бляску не заўсёды ўмеюць. Ім проста не хапае часу падрыхтавацца да вялікіх урачыстасцей. Для іх весялосць, святочны настрой — кожны дзень і нягледзячы ні на што. Такі ў іх характар — не заўважаць дробязей жыцця і ствараць сабе добры настрой. Яны і не могуць здзівіць публіку, таму што ўсе даўно прывыклі да іх святочнага выгляду.

«Паветраныя» не жадаюць захоўваць у куфры новую сукенку або туфлі для «выхаду ў людзі». Галоўнае для іх — з густам пражыць сённяшні дзень, каб было пра што ўспомніць, нездарма ж гавораць, што жыццё «складаецца з будняў». Яны будуюць сваё жыццё, не азіраючыся назад і не абцяжарваючы сябе планамі на будучае. «Жыць трэба ярка, прыгожа і... сёння» — такі іх дэвіз, і мода ледзь паспявае за іх запатрабаваннямі.

Сяргей **АНУПРЫЕНКА**,
кандыдат
філасофскіх навук.


# БЕЛАРУСЬ

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**№ 4 (628)**
**КРАСАВІК**
**1991 г.**

Заснаваны ў 1930 годзе.

**Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку. Мінск.**




НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ:
**БІЗНЕС АБО ШОУ! Рэпартаж з Мінскай школы мадэлек чытайце на 2-й старонцы ўкладкі.**

**Фота Алены АДАМЧЫК.**


**Журнал «Беларусь»**
**на белорусском языке.**
**Здадзена ў набор 13.02.91.**
**Падпісана да друку 15.03.91.**
**Фармат 70×108 1/8.**
**Афсетны друк.**
**Ум. друк. арк. 7.**
**Ул.-выд. арк. 11,4.**
**Ум. фарбаадб. 12,6.**
**Т. 13 200 экз.**
**Зак. 71.**
**Цана 40 кап.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, Мінск,**
**вуліца Захарава, 19.**

**Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.**

**Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.**

**220041, Мінск,**
**Ленінскі праспект, 79.**
**Ордэна**
**Працоўнага Чырвонага Сцяга**
**друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**






160

# ДАРУЙ НАМ, РОДНЫ КУТ...







Вытрымалі націск стагоддзяў замкі, крэпасці, старажытныя цэрквы і жылыя дамы амаль ва ўсіх краінах Еўропы: Францыі і Англіі, Італіі і Швецыі, Галандыі і Іспаніі...

На еўрапейскай частцы Саюза — іншая, больш сумная і безнадзейная сітуацыя: атакі атэізму і валюнтарызму, абыякавасць усіх і да ўсяго, культ «нічыйнай» спадчыны і «агульнай» уласнасці зруйнавалі цудоўныя помнікі архітэктуры, пакалечылі зямлю і душы людзей мацней, чым бомбы і снарады апошняй вайны...

І ўсё ж, здаецца, настаў час працвераження, прыняцця агульначалавечых каштоўнасцей і ідэалаў. Ілюстрацыяй да перамен, якія пачаліся ў нашым грамадстве, могуць паслужыць і два з чатырох здымкаў Віктара Жыліна, якія тут публікуюцца. Пачалася рэстаўрацыя царквы ў вёсцы Міжэрычы Зэльвенскага раёна. А гэта — прыкмета часу.

Два другія здымкі зроблены ў вёсцы Крэва Смаргонскага раёна, дзе захаваліся рэшткі старажытнага замка. Пра рэстаўрацыю тут пакуль няма і размовы. Але! Пакуль не можа быць размовы і пра тое, каб пусціць гэтыя развалiны «на друз» для будаўніцтва кароўніка або дачы.

Гэтыя дзве работы аўтар назваў «Васьмідзесятыя мінулі...»

Так, мінулі.

Фотанавела Віктара ЖЫЛІНА.



**ФОТАВІКТАРЫНА**

# «ВЫ — ПРА ЗОРАК, ЗОРКІ — ДЛЯ ВАС»

**НАШЫ ПЫТАННІ:**

- **Перад вамі артыстка Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР. Назавіце яе імя.**
- **Назавіце тры сучасныя спектаклі і тры з класічнага рэпертуару, у якіх артыстка выконвае галоўныя партыі.**
- **Якая знамянальная падзея ў жыцці артысткі адбылася ў 1988 годзе!**

**По ўмовах віктарыны той, хто правільна адкажа на ўсе пытанні, атрымае фотапартрэт «зоркі» з аўтографам.**

Фота Генадзя АНАТОЛЬЕВА.

| Май | П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | ○1 | 2 | 3 | ☾4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | ●11 | 12 |
| | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | ☽18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | ○26 |
| | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | | | | | | | | |

Фазы Месяца: ○—1—3 — поўня, ☾—4—10 — ветах, ●—11—17 — маладзік, ☽—18—25 — сход, ○—26—1 чэрвеня — поўня.